◂ № 40 (361) ◂ 25 кастрычніка ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час




**ПАВАЛ СЕВЯРЫНЕЦ**

Стар. 4

**ХТО ПАДСТАВІЎ АРХАНА ЗЕЙНАЛАВА?**

У Баку лічаць, што ў маскоўскім Бірулёва быў рэалізаваны старанна прапрацаваны антыазербайджанскі сцэнар

Стар. 28

**«ПРОБА ГРУНТУ Ў КАЗАХСТАНЕ». МІЖ ТЭАТРАМ І РЭАЛЬНАСЦЮ**

Інстытут імя Гётэ ў Мінску і Міжнародны форум тэатральнага мастацтва «ТЕАРТ» прадставілі на сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра спектакль берлінскага калектыву «Рыміні Пратакол» «Проба грунту ў Казахстане». Рэжысёр пастаноўкі Штэфан Кэгі

Стар. 31

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

ISSN 2218-2144
9 772218 214401 10040

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ЮБІЛЕЙНЫ ФЭСТ ВОЛЬГІ ГРЫЦУК**

Нарыс Сяргея Чыгрына




# БЕЗ САЮЗАЎ

Сяргей ПУЛЬША

**Чым бліжэй падыходзіць час да запуску любімай гулькі Уладзіміра Пуціна — Еўразійскага эканамічнага саюза, тым больш непрыхільна ставяцца да гэтай ідэі ягоныя хаўруснікі. Як высветлілася нядаўна, Аляксандр Лукашэнка наогул незадаволены тым, як развіваюцца падзеі.**

І на прэс-канферэнцыі расійскім журналістам 11 кастрычніка, і падчас прэс-канферэнцыі для СМІ СНД беларускі кіраўнік распавёў пра сваё бачанне ЕЭС. Найперш, гэта тычыцца ўсялякіх мытаў, тарыфаў і збораў. Лукашэнка прызнаўся, што свядома ўкінуў расійскім журналістам інфармацыю пра адмену ўсіх абмежаванняў і выключэнняў у Мытным саюзе з 1 студзеня 2014 года. «Калі дамовіліся, дык давайце ствараць рэальную адзіную эканоміку, і здымем гэтыя выключэнні. Калі гэта Мытны саюз, а заўтра — Еўразійскі эканамічны саюз, і мы прэтэндуем на тое, каб ён быў шчыльнейшы, чым Еўрасаюз, то паўстае пытанне: ці ёсць такія класічныя ўтварэнні? Ёсць. Яны функцыянуюць, дзе няма ніякіх выключэнняў і абмежаванняў», — заявіў ён на сустрэчы з рэдактарамі СМІ СНД.

«Хочуць казахі прапампоўваць нафту ў Беларусь — аднолькавы доступ, хоча Казахстан пастаўляць сваю прадукцыю ў Еўропу праз Беларусь — аднолькавыя ўмовы. А цяпер у нас куча выключэнняў», — панаракаў Лукашэнка.

Па ягоным меркаванні, для Расіі проста было б увесці бестарыфныя рэжымы, прадаваць Беларусі энергарэсурсы па ўнутрырасійскіх коштах і без усялякіх экспартных пошлінаў. «Чаго Расіі баяцца Беларусі? Мы што, задушым вас, з'ядзім? У нас 5–7% эканомікі ад расійскай», — сказаў ён.

«Роўныя — значыць па ўсіх напрамках роўныя. Сёння ў СМІ ўкінуты тэзіс, што 1 студзеня гэтага не будзе. Калі гэты так, то незразумела. Пытанне вельмі сур'ёзнае. Дзе-нідзе хтосьці саступае, дзесьці нешта губляе. Нават калі гэта адбілася палітычна на Расіі, Беларусі і Казахстане, то гэта не было б так хваравіта, была б пэўнасць для людзей, было б святло ў канцы тунэлю», — заявіў Лукашэнка, падкрэсліўшы, што зняцце абмежаванняў у рамках Мытнага саюза «не смяротна для Расіі».

Смяротна гэта для Расіі ці несмяротна, павінны вырашыць самі расіяне. Тая ж «распушчальна-разбаўляльная афера», якой мы займаліся да 2012 года, нанесла Расіі страты на больш чым 2 мільярды долараў. Калі палічыць экспартныя пошліны на нафту, то мы аддаем Расіі 4 мільярды долараў штогод.

Варта таксама зазначыць, што Аляксандр Рыгоравіч выдатна разумее: ні з 1 студзеня 2014 года, ні з 2015-га гэтыя пошліны скасаваныя не будуць. Ні ў межах Мытнага саюза, ні ў межах ЕАС: у бюджэт Расіі экспартныя пошліны з Беларусі закладзеныя аж да 2016 года ўключна. У наступным годзе Расія плануе атрымаць ад Беларусі каля 113 мільярдаў расійскіх рублёў, у 2015 годзе — 107 мільярдаў, а ў 2016 годзе — 102 мільярды расійскіх рублёў.

Ці, можа, Лукашэнка гэтага не ведае?

Беларускі кіраўнік таксама незадаволены працай Еўразійскай эканамічнай камісіі і выказаў гэтае незадавальненне падчас той жа прэс-канферэнцыі СМІ СНД. «Па-мойму, тысяча з лішнім чалавек працуе ў гэтай камісіі. Туды, па-першае, павінны прыйсці кіраўнікі, нацэленыя ў будучыню, якія жадаюць працаваць. Адстойнікам гэтая камісія быць не павінна. Я асабіста не задаволены гэтай працай: няма чагосьці сапраўднага, прарыўнога, няма такіх прапаноў», — заявіў Лукашэнка.

Што «прарыўное» Лукашэнка хоча атрымаць ад былога прэм'ер-міністра Беларусі Сяргея Сідорскага альбо ад экс-намесніка міністра сельскай гаспадаркі Надзеі Каткавец, якія працуюць у той самай ЕАК, Лукашэнка не паведаміў.

Было яшчэ некалькі «званочкаў» ад Лукашэнкі. Напрыклад, пра тое, што ўдзельнікі будучага ЕЭС павінны заставацца незалежнымі і суверэннымі дзяржавамі, і што няма неабходнасці ў пераходзе на адзіную валюту ў межах гэтага аб'яднання.

Усё гэта можа азначаць толькі тое, што Аляксандр Рыгоравіч рыхтуецца паламаць любімую цацку Пуціна. ЕЭС, як ужо казалася неаднаразова, павінен запрацаваць з 1 студзеня 2015 года. У тым жа годзе ў Аляксандра Рыгоравіча чарговыя прэзідэнцкія выбары, на якіх без падтрымкі Расіі — нікуды. Дый куды яму рухацца пасля 1 студзеня 2015-га? Захад не прымае і не прыме своеасаблівую палітыка-эканамічную мадэль Беларусі, на яе скрозь пальцы толькі Расія глядзіць. А таму трэба і Расію ўлагодзіць, і «дзевачкай застаца».

Таму Лукашэнка прапрацоўвае глебу для таго, каб наступнае інтэграцыйнае ўтварэнне спасцігнуў лёс мінулых падобных аб'яднанняў. Канешне, 1 студзеня 2015 года можна аб'явіць пра запуск ЕЭС, можна піць шампанскае і біць посуд. Але падаецца, што ЕЭС спасцігне той жа лёс, што і шматпакутную Саюзную дзяржаву. Як толькі высветлілася, што ў Саюзнай дзяржаве нафта для Беларусі не будзе каштаваць столькі ж, колькі для расійскіх рэгіёнаў, што Беларусь не атрымае эмісійнага цэнтру, і ўвогуле, што «мухі — асобна, катлеты — асобна», то і ўвесь праект быў пахаваны.

Тэарэтычна, Саюзная дзяржава з Расіяй у нас існуе дагэтуль. Пра яе, у асноўным, згадваюць тыя, хто з гэтага праекта кормiцца. Кормяцца з гэтага вайскоўцы, кормяцца з гэтага нейкія сумесныя праекты, кшталту суперкампутара і асваення касмічнай прасторы. Кормяцца з гэтага «саюзныя СМІ». Але ж ці варта было для такога супрацоўніцтва ствараць «дзяржаву»?

Тое ж самае, падобна, атрымаецца і з ЕЭС. А за правал, па словах нашага кіраўніка, традыцыйна адкажа Расія. Гэта ж яны, бякі, не выконваюць умовы для рэалізацыі ЕЭС — то бок, не адменяць пошліны. А калі і адменяць, знойдзецца яшчэ нешта. Нездарма Лукашэнка казаў пра «прарыўныя» праекты — ізноўку будзе нараканне на тое, што «навошта нам новае ўтварэнне, калі ў старых аб'яднаннях мы дасягнулі большага прагрэсу».

Да таго ж, можна спаслацца і на «голас народа». На мінулым Сойме Партыі БНФ лідар гэтай структуры Аляксей Янукевіч адной з прыярытэтных задачаў для партыі на будучыню вылучыў супрацьстаянне ўтварэнню ЕЭС. Па ягоных словах, у грамадстве трэба зрабіць такія настроі, каб Аляксандр Лукашэнка альбо адмовіўся б ад удзелу ў ЕЭС, альбо перавёў працэс у застойную фазу.

Падаецца, што застойную фазу інтэграцыі Аляксандр Рыгоравіч забяспечыць новаму стварэнню па ўласнай ініцыятыве.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БЯРОЗА. РЭХА СВІНОГА БУНТУ

**Аляксандр Аліхвер з Бярозы, актыўны праціўнік знішчэння свіней у Бярозаўскім раёне, пасля летніх «свіных бунтаў» быў абвінавачаны ў парушэнні санітарна-ветэрынарных нормаў.**

На яго быў складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні, якое заключаецца ў тым, што ён нібыта не меў права ўтрымліваць свіней на зямлі, якая давалася на абслугоўванне памяшкання, а не на вядзенне гаспадаркі. Пры гэтым А. Аліхвер, калі купляў на аўкцыёне будынак, меў даведку ад сельвыканкама на вядзенне гаспадаркі. І некалькі гадоў мясцовыя ўлады не бачылі ў гэтым парушэнняў, пакуль вясковец актыўна не выступіў супраць знішчэння свіней.

На адміністрацыйную камісіі, куды быў выкліканы Аляксандр Аліхвер, ён прыйшоў з групай падтрымкі. Старшыня камісіі, юрыст райвыканкама Яўген Кашталян, які замяніў на гэтым пасяджэнні пастаяннага старшыню камісіі Вольгу Шып, не дазволіў весці дыктафонны запіс пасяджэння.

Аляксандр на працягу 2 гадзін, нягледзячы на тое, што яго перабівалі старшыня камісіі і падпалкоўнік міліцыі Якаў Самасюк, змог аргументавана даказаць сваю невінаватасць.

«Мяне выслухалі, і, відавочна, аргументы далі станоўчы вынік. Рашэнне не вынесена, і зараз усе дакументы, усе нестыкоўкі ў рашэннях, заканадаўчых актах накіраваныя ў ветэрынарную службу. Яна павінна прыняць рашэнне: або па-новаму распачаць справу, або адмовіць ва ўзбуджэнні адміністрацыйнага працэсу», — кажа Аляксандр.

**spring96.org**

### ГОМЕЛЬ. ЛІКВІДАТАРА АВАРЫІ НА ЧАЭС НЕ ХОЧУЦЬ ЛЕКАВАЦЬ У ГОМЕЛІ

**Сябра аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» з Нароўлі, ліквідатара аварыі на Чарнобыльскай АЭС Івана Вітkoўскага адмаўляюць лекаваць у адмысловым цэнтры радыяцыйнай медыцыны ў Гомелі.**

У траўні ліквідатар пасля доўгіх месяцаў узгадненняў здолеў нарэшце атрымаць накіраванне ў цэнтр і прайсці там курс лекавання, але зараз выпіскай накіравання яму для лекавання неўралагічных захворванняў ніхто займацца не збіраецца. Разам з тым, па словах Івана Віткоўскага, людзі з сардэчнымі захворваннямі атрымліваюць накіраванні без праблемаў.

Актывіст таксама паведаміў, што здароўе яго ў апошні час пагоршылася, рэгулярна баліць галава, спіна. «Калі раней я траціў прытомнасць раз на год, то за гэты год ужо тройчы. Адзін раз нікога не было дому, дык я, калі ўпаў, яшчэ і рассек сабе шчаку», — распавёў Іван Віткоўскі.

Амаль немагчыма, паводле яго словаў, прайсці лекаванне і ў Нароўлі. «Хацця б каб курсы кропельніцы пракапаць. Уколы я ўжо раблю сабе сам. Але дамагчыся кропельніцы ў бальніцы амаль немагчыма. Даводзіцца ставіць яе дома», — падкрэсліў ліквідатар аварыі на ЧАЭС.

**Прэсавая служба БХД**

### БРЭСТ. НА АБЛВЫКАНКАМ ПАДАЛІ Ў СУД

**Адбыліся папярэднія судовыя слуханні ў справе, дзе адказчыкам выступае Брэсцкі аблвыканкам, які прыняў рашэнне пра высяленне жыхароў дома №10 па вуліцы Астроўскага.**

Позву ў суд падалі жыхары гэтага дома, якія лічаць незаконнымі дзеянні мясцовых чыноўнікаў, якія прымушаюць іх з'ехаць з гістарычнага будынка ў цэнтры горада на ўскраіну Брэста. У мінулым годзе дом па вуліцы Астроўскага ўлады раптоўна прызналі аварыйным, і зараз патрабуецца яго знос. Тры сям'і пагадзілася на пераезд, але засталіся яшчэ чатыры сям'і, якія вырашылі адстойваць сваю ўласнасць у судзе, бо нязгодны з высновамі чыноўнікаў, што дом не прыдатны для пражывання.

Аўтары звароту ў суд сцвярджаюць, што самастойна замовілі экспертызу ў незалежнай мінскай арганізацыі, якая прызнала стан домаնздавальняючым і што патрабуецца капітальны рамонт. Аднак пра неабходнасць разбурэння будынку (на чым настойваюць улады) размова ў экспертызе не ідзе.

Пасля шматлікіх скаргаў ва ўрадавыя ўстановы жыхары даведаліся, што лёс іх дома быў вызначаны Брэсцкім аблвыканкамам яшчэ ў 2011 годзе, калі была падпісаная інвестыцыйная дамова з прыватнай фірмай, якая будзе займацца забудовай на вызначанай тэрыторыі. Пры гэтым ніякіх абмеркаванняў на гэты конт з тымі, хто пражывае ў доме на вуліцы Астроўскага, не было. Як не было і прапаноў ад інвестара да цяперашніх уласнікаў кватэр паўдзельнічаць у долевым будаўніцтве.

Падчас папярэдняга судовага пасяджэння аўтары пазову Валяніца Мальцава і Генадзь Войкаў падтрымалі заяўлены раней патрабаванні, бо лічаць, што адпаведнае рашэнне аблвыканкама было прынята з парушэннем канстытуцыйных правоў (у прыватнасці, артыкула 44, якім дзяржава гарантуе кожнаму недатыкальнасць уласнасці), а таксама Закона «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь», тым больш, што дом №10 па вуліцы Астроўскага ў Брэсце мае статус гісторыка-культурнай каштоўнасці. Адказчык — у асобе прадстаўніка юрыдычнага аддзела аблвыканкама Андрэя Шпака — запярэчыў сутнасці позвы і заявіў, што суд не павінен яе задавальняць. Наступнае пасяджэнне ў гэтай справе прызначана на 8 лістапада.

**spring96.org**

▶ ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## АЎТУХОВІЧ ЛІЧЫЦЬ ДНІ

**Бялыніцкі журналіст Барыс Вырвіч 23 кастрычніка атрымаў чарговы ліст ад палітвязня Мікалая Аўтуховіча з гродзенскай турмы №1. Свой ліст журналісту Мікалай напісаў 15 кастрычніка.**

Перад гэтым да Барыса Вырвіча на мінулым тыдні дайшоў з вялікім спазненнем яшчэ адзін ліст ад Мікалая, у якім палітвязень паведаміў, што ён ужо адчувае сябе больш-менш нармалёва пасля нанясення сабе цялесных пашкоджанняў у турме (нагадаем, што Мікалай Аўтуховіч быў вымушаны парэзаць сабе лязом жывот з-за неабгрунтаванага ціску з боку турэмнай адміністрацыі).

У апошнім лісце Мікалай Аўтуховіч піша: «У мяне, Барыс, усё пацыху. Я лічу дні. Засталося 176 дзён. Вось гэтым і жыву. Стараюся ніяк не рэагаваць на тое, што адбываецца на волі, бо тут хапае свайго ўсяго. А нервы ўжо, ледзь трымаюся. Вось лісты ад добрых людзей і падтрымліваюць. Вельмі шмат энергіі дадаюць людзі, дзякуй ім усім! Я заўсёды ведаю, што я не адзін. Напэўна, таму і трымаюся».

Мікалай Аўтуховіч паведамляе, што вытрымае ўсе гэтыя выпрабаванні і стараецца падтрымліваць добры настрой, не звяртаючы ўвагі на пэўныя абставіны. Таксама ў лісце абмяркоўваюцца апошнія навіны з грамадскага жыцця ў нашай краіне.

**spring96.org**

▶ СУД

## УЛАСЕВІЧ ВЫЙГРАЎ У МЗС

**Грамадска-палітычны актывіст з Астравеччыны Мікалай Уласевіч атрымаў паведамленне ад свайго адваката з Літвы.**

Вышэйшая судовая інстанцыя гэтай краіны не задаволіла касацыйную скаргу Міністэрства замежных спраў Літвы на пастанову адміністрацыйнага суда Вільні, які сваім рашэннем прызнаў незаконнымі дзеянні адпаведных органаў Літвы па забароне Уласевічу ўезду ў Літву на тры месяцы.

— Менавіта паводле нейкай сакрэтнай паперы Міністэрства замежных спраў і было прынята рашэнне не пускаць мяне на 3 месяцы на тэрыторыю Літвы. І, безумоўна, Міністэрства замежных спраў было не задаволена гэтым рашэннем і падала касацыйную скаргу. Але вышэйшая інстанцыя Літвы прыняла канчатковае рашэнне, якое ўжо нельга абскардзіць.

У верасні 2012 года ў звязку з тым, што ў той час у Літве ладзіўся рэферэндум па будаўніцтве атамнай электрастанцыі, беларускага антыядзернага актывіста не пусцілі ў краіну. «Гэта яшчэ адно пацверджанне таго, што судовая сістэма ў Літве працуе аб'ектыўна і яна яшчэ раз засведчыла сваю незалежнасць», — задаволены вынікамі разгляду скаргі літоўскага МЗС.

**Радыё «Рацыя»**

▶ ПАМЯЦЬ

## ГАДАВІНА МІНСКАГА ГЕТА

**З 21 кастрычніка ў Мінску праходзілі Дні памяці 70-й гадавіны ліквідацыі мясцовага гета.**

У часе гітлераўскай акупацыі ў мінскім гета загінула больш за 100 тысяч габрэяў. Ва ўрачыстасцях у сталіцы прымалі ўдзел міністр замежных спраў Уладзімір Макей, прадстаўнікі Ізраіля, габрэйскіх арганізацый, Праваслаўнай царквы і Каталіцкага касцёла, амбасадары, у тым ліку Польшчы.

На мерапрыемства прыехалі таксама габрэі, якія перажылі трагедыю. «Мы чатыры дні хаваліся без ежы і вады. Потым, калі выйшлі на вуліцу, то ў дварах ляжалі кучы цел. Пачаў падаць дождж, і па вуліцы Танка пацякла вада, чырвоная ад крыві», — казаў карэспандэнту Польскага радыё былы вязень гета Фелікс Ліпскі.

На тэрыторыі Беларусі існавала каля 200 гета, куды дэпартавалі габрэяў з Нямеччыны, Польшчы і Аўстрыі.

**www.radyjo.net**

▶ ТРАГЕДЫЯ

## ЗАБОЙЦУ ЖУРНАЛІСТКІ ДАСЮЛЬ НЕ ЗНАЙШЛІ

**9 гадоў прайшло з дня забойства Веранікі Чаркасавай. 20 і 21 кастрычніка могілкі ў Калодзішчах, дзе пахаваная журналістка, наведалі сваякі і калегі.**



Запаліўшы свечкі і ўсклаўшы кветкі, яны ўшанавалі памяць Веранікі хвілінай маўчання і ўзгадалі яе добрымі словамі.

Алена Якжык, журналістка газеты «Салідарнасць», дзе Вераніка працавала апошнія гады:

— Ужо 9 гадоў прайшло, але ўсё перажываеш так, нібыта яно адбылося толькі што. Гэта страшная дата для ўсіх нас, але ў нашай памяці ўсё павінна заставацца. Галоўнае — гэта справы, якія Вераніка рабіла, яе публікацыі, яе сям'я, сын... Хочацца верыць, што тыя, хто здзейсніў гэтае забойства, адкажуць за яго. Пра гэта таксама трэба памятаць, трэба гэтага хацець і дамагацца. А Вераніку мы ўсе памятаем, любім і перачытваем...

Тэлежурналіст, кінадакументаліст Леанід Міндлін сказаў, што збірае матэрыялы для дакументальнага фільма пра Вераніку:

— Пераглядаючы хроніку, часам знаходзіш цікавыя дакументальныя кадры і міжволі ўзгадваеш. Вось 1983 год, дзе яна яшчэ зусім маладая, каля сваёй школы. А вось — пазнейшыя кадры, калі яна на тэлебачанні працавала... Пакуль ёсць памяць пра чалавека, ён з намі застаецца. Спадзяюся, што да 10-й гадавіны смерці Веранікі гэты фільм з'явіцца.

Паводле старшыні ГА «БАЖ» Жанны Літвінай, для журналісцкай супольнасці дні гібелі калег — гэта «дні з чорнай пазнакай»:

— Ужо і словаў не хапае на пахаваннях, на памінках — столькі нашых калег сыходзіць, не дачакаўшыся дня, калі мы ўздыхнем з палёгкай. У нас шмат стратаў, але такія страты, як Дзмітрый Завадскі, Алег Бябенін, Вераніка Чаракасава, нікому не павінныя даваць спакою. Пакуль мы не атрымаем адказаў, што з імі адбылося і хто вінаваты. Самае галоўнае — гэта памятаць пра гэтых людзей і ўсё адно дачакацца гэтых адказаў.

Вераніка пахаваная побач з бацькам, Анатолем Чаркасавым.

Напярэдадні гадавіны прэс-служба ГА «БАЖ» звярнулася ў Следчы камітэт, каб высветліць, у якім стане знаходзіцца расследаванне справы. У аддзеле па сувязях са СМІ сказаліператэлефанаваць у панядзелак, калі будзе на месцы супрацоўнік, што валодае інфармацыяй. На момант падрыхтоўкі матэрыялу датэлефанавацца да названага супрацоўніка не ўдалося.

Першапачаткова справу расследавала пракуратура г. Мінска. З моманту стварэння Следчага камітэта ў 2012 годзе яе перадалі гэтай установе. Летась прадстаўнікі СК казалі, што следства па-ранейшаму прыпынена, але па справе "вядуцца аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы, накіраваныя на высвятленне асоб, якія маюць дачыненне да забойства, і высвятленне ўсіх абставін».

**Паводле прэс-службы ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ЗБЕГЧЫ АД КРЫЗІСУ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Мінск прымае ўдзельнікаў аж двух міжнародных мерапрыемстваў: саміта ЕўрАзЭС і саміта СНД. Здавалася б, шараговая падзея ў межах дзвюх няшмат на што ўплываючых зараз арганізацый. Але насамрэч вельмі нечакана гэтыя сустрэчы могуць выклікаць значныя перамены ў жыцці грамадства.**




Ужо зараз відавочна, што падчас самітаў будзе зроблена ледзьве не апошняя спроба пераканаць Украіну не падпісваць асацыяцыю з ЕС. Памочнік прэзідэнта Расіі Юрый Ушакоў паведаміў прэсе, што Уладзімір Пуцін і Віктар Януковіч на сустрэчы ў Мінску 24 кастрычніка абмяркуюць праблемы расійска-ўкраінскіх адносін у выпадку ўступлення ў сілу пагаднення аб асацыяваным сяброўстве Украіны і Еўрасаюза. Не застанецца ўбаку і Аляксандр Лукашэнка, які будзе запрашаць Украіну замест Еўрасаюза ў Мытны саюз. «Магчыма, гэта той шлях, па якім пойдуць і іншыя дзяржавы СНД, па меншай меры, мы прапануем гэта былым савецкім рэспублікам, асабліва Украіне», — сказаў Лукашэнка.

«Ёсць жаданне ў Кыргызстана, Арменіі далучыцца да нашай тройцы. Мы таксама будзем абмяркоўваць гэтую праблему 24 кастрычніка», — адзначыў ён.

Для Украіны прыгатаваныя, падаецца, не толькі пернікі. Той жа Лукашэнка заявіў, што краіны Мытнага саюза гатовыя сумесна абараняць свае эканомікі ад магчымых негатыўных наступстваў у выпадку заключэння Украінай пагаднення аб асацыяцыі з ЕС. «Мы будзем абараняць разам, Мытным саюзам, калі мы будзем бачыць у гэтым неабходнасць, класічным чынам: мы ўвядзем загараджальныя прамысловыя, мытныя пошліны па тых або іншых таварах, калі ў гэтым будзе неабходнасць», — сказаў Лукашэнка.

«Абарона Мытным саюзам» можа сур'ёзна адбіцца на Беларусі. Можа здарыцца так, што, абараняючы Мытны саюз, мы зноўку страцім вялікія грошы персанальна для сябе. Не трэба забывацца на тое, што Беларусь — трэці гандлёвы партнёр Украіны пасля ЕС і Расіі. Нам асацыяцыя Украіны з ЕС выгадная, бо ў Украіны з'явяцца нармальныя грошыкі, на якія яны могуць купіць традыцыйны наш экспарт — трактары і камбайны. А з Украіны мы атрымліваем прадукцыю машынабудавання, хімічнай прамысловасці і металургіі. Лік ідзе на сотні мільёнаў долараў.

Эканоміка — гэта вуліца з двухбаковым рухам. І калі мы кажам пра страты Украіны ў выніку таго, што МС будзе ўводзіць загараджальныя меры, то варта сказаць, што губляюць і краіны Мытнага саюза. Для Беларусі гэта можа апынуцца досыць адчувальным.

На саміце прэзідэнты Расіі і Беларусі прадметна пагутараць і пра лёс арыштаванага ў Мінску гендырэктара «Уралкалія» Уладзіслава Баўмгертнера. Прынамсі, на гэта разлічвае Пуцін. Лукашэнка не спяшаецца аддаваць Баўмгертнера Расіі, разлічваючы на «кампенсацыю стратаў» у 100 мільёнаў долараў. Але ад таго, ці дамовяцца па гэтай праблеме прэзідэнты, залежаць кошты газу і нафтавых кантрактаў, аб'ёмы пастаўкі нафты на беларускія НПЗ у наступным годзе і пастаўка нафты ў прынцыпе. А значыць, і стан у будучым «беларускага эканамічнага цуду», які шчыльна падсеў на нафтавую іголку.

Тым часам, у гэтай справе з'явіўся чарговы «беларускі след». Па паведамленні агенцтва «Bloomberg», беларус па паходжанні Аляксей Хоцін заявіў пра жаданне набыць 33% акцый ААТ «Уралкалій». Нібыта, ён прапанаваў выкупіць акцыі Сулеймана Керымава.

Юрый Хоцін і яго ны сын Аляксей кантралююць буйныя офісныя плошчы ў Маскве. Юрый Хоцін стаяў ля вытокаў стварэння ў Беларусі кампаніі «Белкасмекс». Усярэдзіне 2000-х гадоў ён страціў цікавасць да касметыкі, прадаў касметычныя брэнды і перабраўся ў Маскву. Новым напрамкам дзейнасці стаў дэвелапмент, рэканструкцыя (а фактычна новае будаўніцтва) на тэрыторыі былых будынкаў заводаў і фабрык офісных цэнтраў, гандлёвых плошчаў і складоў. У 2011-м Хоціны правялі адну з самых буйных здзелак года на расійскім рынку нерухомасці — купілі аэзначна за паўмільярды долараў комплекс «Гарбушкін двор» і іншыя аб'екты ў свайго земляка, былога мінчука Аляксандра Міляўскага.

Па ацэнках расійскага часопіса «Forbes», у 2012 годзе ад здачы ў арэнду гандлёвых і офісных цэнтраў Хоціны атрымалі каля 320 мільёнаў долараў. І ў той жа час той жа «Forbes» адзначыў, што ўвесь іх бізнэс вельмі сумнеўны і пабудаваны на рэйдарскіх захопах аб'ектаў нерухомасці.

Такім чынам, Хоцін з'явіўся ледзьве не дзясятым пакупніком «Уралкалія» па версіі СМІ за апошнія месяцы. Між тым, не жадаючы нічога дрэннага сказаць пра «Bloomberg», наўрад ці гэтая інфармацыя вартая даверу. Справа ў тым, што 33% акцый «Уралкалія» ў Керымава няма і ніколі не было. Ягоны «Suleiman Kerimov Foundation» мае толькі 21,75% каштоўных папераў прадпрыемства.

Раней сярод прэтэндэнтаў на пакет акцый Керымава называлі тандэм уладальнікаў АФК «Сістэма» Уладзіміра Еўтушэнкава і «Руснафты» Міхаіла Гуцарыева, а таксама прадпрымальніка Уладзіміра Когана, які выступае ў партнёрстве з арабскім Дзяржфондам і «Онэксім» Міхаіла Прохарава. Праходзіла інфармацыя і пра тое, што Коган ужо выплаціў аванс за пакет акцый «Уралкалія».

Лукашэнка 21 кастрычніка заявіў, што хацеў бы бачыць акцыянерам «Уралкалія» свайго сябра Міхаіла Гуцырыева.

Яшчэ адна цікавая бізнэс-навіна прайшла па дыпламатычных каналах. «Амкадор» і «Белаўтагаз» маюць намер стварыць холдынгі з прадпрыемствамі Сербіі. Перамовы пра гэта прайшлі ва ўрадзе балканскай краіны. Міжнародныя холдынгі плануецца стварыць з сербскімі прадпрыемствамі «Перш петолетка» і «Петар Драпшын», паведамляе прэс-служба МЗС Беларусі.

Варта зазначыць, што адным з асноўных акцыянераў «Амкадору» з'яўляецца бізнэсовец Аляксандр Шакуцін, якога лічаць «гаманцом» Аляксандра Лукашэнкі. Аж да таго, што ў 2012 годзе Шакуцін ледзьве не патрапіў у спіс асобаў, якім ЕС забараніў уезд на сваю тэрыторыю

Стварэнне холдынгу з прадпрыемствамі краіны, якая да 2020 года мае намер уступіць у ЕС — гэта «трывожны званочак» найперш для Аляксандра Лукашэнкі. Падаецца, што «гаманец» Лукашэнкі мае намер вывезці грошы з краіны, пакуль тут не адбылося нічога лёсавызначальнага. І, можа, знак таго, што нават «прыдворныя» бізнэсоўцы разумеюць хісткасць беларускай палітыка-сацыяльнай мадэлі, якая можа абрынуцца ў любы момант.

> У справе з'явіўся чарговы «беларускі след». Паводле паведамлення агенцтва «Bloomberg», беларус па паходжанні Хоцін заявіў пра жаданне набыць 33% акцый ААТ «Уралкалій». Нібыта, ён прапанаваў выкупіць акцыі Сулеймана Керымава

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### МІХАІЛ МІХАДЗЮК



Беларускі бок не толькі атрымаў праект АЭС. У нас на гэтым тыдні з'явіўся нават адказны за ядзерны апакаліпсіс. Гэта намеснік міністра энергетыкі Беларусі Міхаіл Міхадзюк.

Міхадзюк заявіў, што Беларусь не памылілася з выбарам партнёра па будаўніцтву АЭС (карпарацыя «Расатам»), і лічыць гэты праект самым дасканалым з пункту гледжання бяспекі і тэхналагічных рашэнняў. «Лічу, што з выбарам партнёра мы не памыліліся. Мы будуем рэферэнтны блок, гэта пакаленне 3+. Расійскі бок старанна ўзважыў тое, што прывяло да аварыі на Фукусіме, і ў гэты праект унесеныя адпаведныя карэкціроўкі», — адзначыў намеснік міністра энергетыкі.

Такім чынам, Міхадзюк прызнаў, што ў Беларусі будуецца атамная станцыя, праект якой і змены ў які рабіліся «на каленцы», «адпаведныя карэкціроўкі» нідзе не былі апрабаваныя.

У сваю чаргу дырэктар па будаўніцтве беларускай АЭС Юрый Пуставой адзначыў, што «расійскі бок ацэньвае ход работ на пляцоўцы як здавальняючы». «Адставання ад графіка на сённяшні дзень няма. Плануецца, што асноўныя работы на пляцоўцы будаўніцтва АЭС пачнуцца ў лістападзе», — заявіў Пуставой.

Гэта значыць, мы атрымалі афіцыйнае пацверджанне, што АЭС будавалася без праекта і сталінска-стаханаўскім метадам, бо Саўмін ухваліў архітэктурны праект АЭС толькі 30 верасня.

### МІКАЛАЙ СНАПКОЎ



Падобна на тое, што міністру фінансаў Мікалаю Снапкову надакучыла знаходзіцца ва ўрадзе. 22 кастрычніка на пасяджэнні прэзідыума Савета міністраў ён заявіў пра перагляд прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2014 год у бок пагаршэння. У аснову карэкціроўкі прагнозу на 2014 год легла суразмернасць фінансавых магчымасцяў з патрэбамі эканомікі ў наступным годзе.

Рост ВУП, па разліках Мінэканомікі, у 2014 годзе прагназуецца на ўзроўні 2,4% супраць раней прагназаваных 5,7%. У прагнозе–2014 перагледжаны ўзровень інфляцыі да 14,5% (у гэтым годзе — 12%). «Гэта абумоўлена рэалізацыяй задачы па скарачэнні перакрыжаванага і бюджэтнага субсідавання і павышэнні ўзроўню кампенсацыі насельніцтвам затрат на жыллёва-камунальныя паслугі да 50%, а таксама ростам цэнаў на транспарт», — сказаў міністр.

Намінальная сярэднямесячная заработная плата, згодна з прагнозам, можа дасягнуць 628 долараў у эквіваленце. У 2013 годзе планавалася 600 долараў, а значыць, павышэнне заробку будзе ніжэй за інфляцыйны паказчык. Снапкоў адзначыў, што для збалансаванасці ўнутранага развіцця і зніжэння інфляцыі тэмп росту рэальнай зарплаты (104%) не перавысіць тэмпу росту прадукцыйнасці працы па ВУП (106%).

Сваімі словамі Снапкоў тарпедуе беларускі эканамічны цуд. У апраўданне ён заявіў, што, хоць прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на 2014 год не забяспечвае дасягненне шэрагу колькасных паказчыкаў пяцігодкі, ён дазваляе выйсці на якасныя паказчыкі развіцця і такім чынам знаходзіцца ў рэчышчы патрабаванняў прэзідэнта.

### ВІКТОРЫЯ АЗАРАНКА



Беларуская тэнісістка не перастае здзіўляць свет. Падобна на тое, што яна не толькі паспяхова выступіла падчас пачатку выніковага турніру WTA, выйграўшы ў італьянкі Сары Эрані, але і распачала кар'еру актрысы, зняўшыся ў кліпе свайго бойфрэнда Рэдфу.

7-хвілінны кліп, які з кожным днём набірае сотні тысяч праглядаў на Youtube, больш падобны на міні-фільм, чым на відэа да песні. У ім ёсць сюжэт, галоўны герой і нават спецэфекты. Азаранка з'яўляецца ў сярэдзіне кліпа секунд на 20.

У кліпе Рэдфу ў сваіх фірмовых акулярах і яркім пінжаку паўстае перад судом у якасці злачынца, якога абвінавачваюць у тым, што ён заклікае моладзь насіць яркія фарбы і быць індывідуалістамі. На спецыяльнай прэс-канферэнцыі дыджэй павінен папрасіць прабачэння ва ўсяго свету, але замест выбачэнняў ён, наадварот, прапагандуе быць «адвязанымі». За свой учынак Рэдфу дэпартуюць з ЗША. На дапамогу галоўнаму герою прыходзіць сцюардэса, якую якраз грае Вікторыя Азаранка.

З дапамогай ключа ад кайданкоў, якія Азаранка кідае ў адну са шклянак з колай, дыджэю ўдаецца ўцячы ад ахоўнікаў.

Можа, па завяршэнні тэніснай кар'еры Азаранка і сапраўды сыдзе ў кіно?

МЕРКАВАННЕ

# Павал Севярынец: ДЭМАКРАТЫЧНЫЯ СІЛЫ МУСЯЦЬ БЫЦЬ АДЗІНЫМІ

Сяргей ПУЛЬША




**Павал Севярынец з першага ж дня свайго вызвалення акунуўся ў палітыку. Дакладней, яго «акунулі»: найперш, «сустрэчай» на вакзале ў Мінску, калі ягоныя паплечнікі і журналісты былі затрыманыя міліцыяй. Да таго ж ён выйшаў у дзень святкавання 25-годдзя стварэння БНФ.**

Пра гэта ён з жартам адказвае: «Палітыка — маё пакліканне, таксама, як і літаратура, і тут, як кажуць, трэба несці крыж».

— Нават калі займацца палітыкай давядзецца ў тых умовах, у якіх былі стваральнікі БХД у 1920–1930-я гады, безумоўна, мы будзем гэта рабіць. Бо Беларусі патрэбная маральная рэвалюцыя. Беларусі трэба мяняць грамадства і дзяржаўны апарат, заснаваны на хлусні, на страху, на крадзяжы. Трэба будаваць дзяржаву, заснаваную на павазе да закону, на любові і павазе да сваіх грамадзянаў і сваёй краіны, на веры. Мы верым, што хрысціянскай дэмакратыі гэта ўдасца.

***— Ці будзе дазволена вам займацца палітыкай?***

— Зараз я знаходжуся ў статусе судзімага. То бок, на я на ўліку ў сваім РАУС, на працягу двух гадоў мне трэба будзе паведамляць у крымінальна-выканаўчую інспекцыю пра змену месца жыхарства, працы ці сямейнага становішча. Аднак гэта не прэвентыўны нагляд, мяне не будуць правяраць, дзе я знаходжуся ўвечары, я магу ездзіць па краіне і гэтак далей. І намеснік начальніка спецкамендатуры на развітанне паведаміў мне з усмешкай, што вылучацца кандыдатам нават у мясцовыя саветы на працягу бліжэйшых двух гадоў я не маю права.

***— Якой вы пабачылі БХД, апынуўшыся на волі?***

— Насамрэч, я адсутнічаў, але быў на сувязі. Я займаўся сваёю справаю — працай з рэгіёнамі, гэтая мая сфера адказнасці як сустаршыні БХД. Я ведаю каардынатараў, я ведаю, чым мы займаліся мінулы час, ведаю, што людзей у БХД прыбавілася. Спадзяюся, што гэта ўсе ўбачаць на мясцовай выбарчай кампаніі.

Шмат моладзі. БХД стала больш стылёвай, больш дасведчанай. Калі мы пачыналі «з нуля», у нас, напрыклад, была праблема, дзе сабрацца. Зараз такіх праблем няма. Зараз БХД — гэта асяродкі людзей, якія ўмеюць і ведаюць як. Людзі сталі больш устойлівыя да ціску. Калі раней былі перапалохі, допыты, і ва ўсіх былі вялікія вочы, напрыклад, у тых жа пастараў цэркваў, то зараз прыходзіць разуменне, што гэта трэба пераадолець, працягваць дзейнічаць у такіх сітуацыях, і нават перамагаць.

***— БХД зараз апынулася ўбаку ад нейкіх кааліцыяў іншых партый. Ці слушна гэта?***

— Насамрэч, мы зараз абмяркоўваем стратэгію, якая павінна прывесці да яднання ўсёй апазіцыі. Таму мы засталіся паміж дзвюма кааліцыямі — «Народным рэферэндумам» і «Талакой». Мы падаем рукі і адным, і другім. Мы думаем, што трэба яднацца — гэта адзін з урокаў Плошчы–2010.

Трэба яднацца і ў стратэгіі, і ў тактыцы, і ў камандзе, і, калі будзе прынятае рашэнне аб вылучэнні адзінага кандыдата, то і ў кандыдаце. Павінна быць адзінства.

***— А ці патрэбны адзіны кандыдат ад апазіцыі? Кампанія 2010 года, у якой было 10 кандыдатаў, была весялейшай?***

— Кампанія 2010 года была такой вясёлай і разняволенай не таму, што было некалькі кандыдатаў, а таму, што было дазволена… Была дазволеная пэўная доля вольнасці. У 2015 годзе нічога падобнага не будзе і блізка. Будзе вельмі цяжкая кампанія. Грамадства пасля 2011 года структурна змянілася: пратэстныя настроі выраслі, а апазіцыя, наадварот, здрабнела, — у гэтай сітуацыі БХД лічыць крытычна важным быць адзінымі і выступаць з адзіных пазіцый.

Я не бачу асаблівых разыходжанняў паміж альянсам «Талака» і «Народным рэферэндумам». І туды, і туды ўваходзяць структуры, якія былі і ўдзельнікамі, і байкатыстамі на мінулых выбарах. І туды, і туды ўваходзяць левыя і правыя. Незразумела, навошта дзяліцца. Разыходжанняў, па вялікім рахунку, няма. Ёсць разыходжанні ў асобах, можа быць, па крыніцах фінансавання, па пытаннях дробнай тактыкі, але гэта не павінна ўплываць на лёс Беларусі.

Калі дэмакратычныя сілы хочуць быць моцнай сілай, яны мусяць быць адзінымі. Гэта ўрок 2010 года, і адзін з важнейшых. Таму нам трэба будзе паступацца партыйнымі амбіцыямі, трэба яднаць высілкі і ствараць адзіную стратэгію, адбудоўваць адзіную каманду, і, калі трэба будзе, — адзінага кандыдата.

БХД выступае зараз за адзінага кандыдата, гэта зараз партыйная пазіцыя, да мяне ў Куплін прыязджала кіраўніцтва, і мы разам абмяркоўвалі гэты пункт.

***— Але ты зараз не можаш выставіць сваю кандыдатуру ў якасці кандыдата ў прэзідэнты…***

— Прэзідэнцтва, ці, пра што зараз кажуць, кандыдацтва на прэзідэнта — гэта не бонус і не прывілей. Гэта крыж. Я думаю, тыя, хто ведае, чым скончылася вылучэнне на прэзідэнцтва большасці кандыдатаў у 2010 годзе, чым зараз яно адгукаецца, прыкладам, для Мікалая Статкевіча і ягонай сям'і, разумеюць, што гэта не прагулка і не накручванне рэйтынгу. Гэта вельмі сур'ёзна.

Калі ў чалавека ёсць пакліканне, калі Госпад гартуе яго менавіта для гэтага, тады чалавек можа ісці ў прэзідэнты. Можа, гэта прагучыць парадаксальна, але я не зайздрошчу зараз і Лукашэнку. Настолькі моцная адказнасць за сённяшнюю Беларусь, пры ўсім тым, што яго ўзровень — узровень дырэктара саўгаса… Страшна казаць, што робіцца з ягонай душой. Многія вернікі, і я ў тым ліку, молімся за тое, каб Лукашэнка пакаяўся і павярнуўся. Гэта каласальныя нагрузкі нават для чалавека, які сам сябе робіць прэзідэнтам, і гэта не пакідае нават пытання пра тое, што кандыдацтва на гэтую пасаду — лёгкая прагулка.

Я спадзяюся, што ёсць людзі, якія прыйдуць не проста пакрасавацца, хадзіць наступныя пяць гадоў па краіне ў статусе былога кандыдата ў прэзідэнты, але тыя, хто прыме гэты крыж, каму Госпадзь дасць і магчымасць, і перамогу. Я ведаю некалькі такіх людзей, я не буду іх называць — яны павінны самі зрабіць свой выбар.

Зразумела, што выбараў няма, адзіны кандыдат — гэта будзе ахвярны чалавек. Ахвяра за нас за ўсіх. Той, хто пагодзіцца быць такім мужным чалавекам, такой постаццю, я думаю, будзе варты ўсеагульнай падтрымкі.

***— Ці можа БХД выставіць свайго «адзінага»?***

— Мы будзем прапаноўваць адзінства, ахвяруючы партыйнымі вылучэннямі. Мы вылучацца не будзем. Мы гатовыя выступіць аб'ядноўчай сілай, таму што ў нас няма асабістай зацікаўленасці, давайце рабіць адзіную каманду, давайце рабіць адзіную стратэгію, і з дапамогай гэтага адзінства перамагаць. Бо сітуацыя ўжо за крытычнай рысай.

На працягу двух тыдняў зараз я буду сустракацца з кіраўнікамі палітычных структураў і шукаць «кропкі аб'яднання».

***— То бок, вы — не прыхільнікі байкоту выбараў зараз?***

— Цалкам магчыма, што ў 2015 годзе давядзецца байкатаваць тое, што называецца «выбарамі». У тым выпадку, калі Лукашэнка абярэ сабе «спарынг-партнёраў», не зарэгіструе моцнага адзінага кандыдата ад апазіцыі. Тады ніякага іншага выйсця не будзе. Трэба будзе ствараць народную сістэму ўлады, прэзентаваць таго чалавека, які будзе гатовы ўзяць адказнасць за краіну, ствараць народныя ўрады на месцах — тыя, якія гатовыя будуць узяць уладу тады, калі пачнуцца падзеі. Падзеі адбудуцца: будзе гэта пераварот ці геапалітыка… Нам трэба да гэтага рыхтавацца і «выйсці шчыльнымі радамі».

Зараз выглядае на тое, што мы маем тры альтэрнатывы. Першая — «байкот на канапе», калі мы прынцыпова не ўдзельнічаем у гульнях рэжыму і не робім фактычна нічога. Другая — адзіны кандыдат ад апазіцыі, але ўдзелам мы легітымізуем рэжым. І трэцяя — вось гэтая працоўная, мне здаецца, схема: спрабаваць правесці ў жыццё сістэму альтэрнатыўнай улады. Таму што людзі павінны бачыць тых, хто працуе кожны дзень, кожны месяц, кожны год побач з імі для іх дабра. Тых, хто заменяе няясных і прызначаных дэпутатаў, тых, хто замяняе карумпаваных чыноўнікаў. Вось гэтая ўся сістэма, калі нацыя «адслойваецца» ад рэжыму, калі людзі перастаюць успрымаць сённяшні рэжым як уладу, на мой погляд, гэта тое, на чым рэжым паслізнецца.

***— Тым не менш, стварэнне «альтэрнатыўнай улады» пачынаецца з мясцовых выбараў. Але зараз складваецца ўражанне, што БХД, як і іншыя палітычныя структуры, перамагаць на іх не збіраецца, а засяроджваецца на правядзенні прапагандысцкай і агітацыйнай кампаніях…***

— На мінулых выбарах БХД здолела правесці ў мясцовыя саветы трох дэпутатаў — гэта быў лепшы вынік за іншыя партыі. Людзі набралі больш галасоў, чым сфальсіфікавалі. Безумоўна, такія людзі, мы спадзяемся, будуць і цяпер. Але пры сённяшняй сістэме фальсіфікацыі спадзявацца, што ўсе, хто перамог у рэальнасці, стануць дэпутатамі, не трэба.

Таму тактыка БХД будзе такой: мы за тыдзень да галасавання абвесцім, што БХД як адказная палітычная сіла ўдзелу ў фальсіфікацыі галасавання прымаць удзел не будзе. Мы ўжо выбралі сваіх «народных дэпутатаў» — тых, хто на акругах працаваў з людзьмі, — у нас ужо ёсць больш за 200 чалавек, якія будуць вылучацца кандыдатамі ў дэпутаты, ідуць «прамоўцамі» БХД. Мэта гэтага ўсяго, найперш, умацаванне і БХД, і агулам дэмакратычных палітычных сілаў напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2015 года.

Калі ў 2014 годзе не рыхтавацца да кампаніі 2015 года, усё зваліцца як снег на галаву.

Для нас стратэгічнай задачай з'яўляецца стварэнне маральнай базы для пераменаў. Зараз сто тысяч чалавек — дзяржаўныя чыноўнікі, якія вызначаюць аблічча дзяржавы, спавядаюць хлусню як норму, крадзеж — як норму, страх — як норму. На гэтым немагчыма пабудаваць нічога, нават калі мы зменім прэзідэнта. Таму нам трэба рыхтаваць як мінімум сто тысяч сумленных прафесіяналаў, якія здолеюць узяць адказнасць за краіну на сябе. На мясцовым узроўні гэта рабіць прасцей, чым дзе, — бо там людзі канкрэтна ведаюць праблемы, ведаюць, як іх вырашыць, і вырашаюць. І людзі сваёй падтрымкай такім асобам могуць заявіць — вось гэта наш чалавек, які бярэ адказнасць за вёску альбо за мікрараён.

Ключавой структурай, арганізаванай супольнасцю, якая зараз утрымлівае неабходную колькасць прафесіяналаў, і непадкантрольная дзяржаве, з'яўляецца царква. Царква не як «каталіцкая» ці «праваслаўная», а як супольнасць людзей. Менавіта цэрквы зараз з'яўляюцца нашай мэтавай групай. Менавіта яны могуць змяніць маральны клімат у краіне, і мы зараз з гэтым працуем.

Беларуская апазіцыя як арганізаваная сіла, на сённяшні час, не ў стане выставіць столькі сумленных прафесіяналаў. Праваслаўная царква, касцёл і пратэстанцкія цэрквы — здольныя.

***— Мясцовыя выбары, падаецца, ніхто не збіраецца выкарыстоўваць для таго, каб паламаць машыну фальсіфікацыяў. Прынамсі, адпрацаваць нейкія заходы і прыёмы, якімі можна было б карыстацца ў 2015 годзе…***

— Для гэтага мы і аб'ядналіся ў кампанію назірання з ініцыятарамі «Народнага рэферэндуму», у «Права выбару». Справа паламаць машыну фальсіфікацый, альбо зменшаць, выкрыць яе, паведаміць пра гэта народу, які жыве ў акрузе праз інтэрнэт ці іншым чынам, з'яўляецца адной з асноўных. Безумоўна, гэта вельмі важная задача.

Разам з тым, мы разумеем, што на мясцовых выбарах глабальных поспехаў дамагчыся немагчыма. Але менавіта на іх трэба будаваць пераможную стратэгію ў 2015 годзе.

НАШЫ ПРАВЫ — НАША БАГАЦЦЕ

# ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА ЯК ВЫШЭЙШАЯ КАШТОЎНАСЦЬ

Паважаныя чытачы! Прапануем вашай увазе цыкл артыкулаў пра правы чалавека. Іх аўтар — вядомы юрыст Міхаіл Пастухоў, доктар юрыдычных навук, прафесар, былы суддзя Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь.

Мэта гэтых публікацый — растлумачыць сутнасць і значэнне асноўных правоў і свабодаў чалавека, навучыць грамадзян карыстацца імі і абараняць іх. Вы даведаецеся пра асноватворныя акты ў галіне правоў чалавека, пра канстытуцыйныя правы, свабоды і абавязкі грамадзян Рэспублікі Беларусь, пра гарантыі і механізмы абароны правоў чалавека, пра меры, якія неабходна здзейсніць, каб палепшыць абарону правоў і свабодаў грамадзян.

Мы адкрытыя для шчырай і наўпроставай размовы з вамі. Вы можаце напісаць у рэдакцыю пра свае праблемы, звязаныя з парушэннем асноўных правоў. Аўтар дапаможа іх вырашыць.



Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Давайце задумваемся над пытаннем: што самае галоўнае ў дзейнасці дзяржавы? Прааналізуем магчымыя адказы.**

Першы варыянт: абарона ўлады ад усякіх замахаў. Такую мэту мае кожны кіраўнік у недэмакратычнай дзяржаве. Ён імкнецца кіраваць непадзельна і ў сваіх інтарэсах. Некаторыя з іх пратрымаліся ва ўладзе 20, а то і 30 гадоў. Але вынік заўсёды той жа: ганебны канец.

Другі варыянт: дабрабыт грамадства і кожнага грамадзяніна. У дэмакратычнай дзяржаве прадстаўнікі ўлады дзейнічаюць у адпаведнасці з законамі. Любыя парушэнні законаў і правоў чалавека расцэньваюцца як недапушчальныя дзеянні.

Такім чынам, мы маем дзве асноўныя мадэлі дзяржаўнай улады: недэмакратычную, калі ўлада выкарыстоўваецца ў інтарэсах вузкай групы асобаў, і дэмакратычную, калі ўлада выкарыстоўваецца для дабрабыту ўсіх і кожнага. Пры гэтым прасочваецца такая заканамернасць: чым грамадства больш развітае і згуртаванае, тым улада больш дэмакратычная.

Шматлікія мысляры мінулага казалі пра каштоўнасць правоў і свабодаў грамадзян і неабходнасць паважлівага стаўлення да іх з боку дзяржавы. Тут можна прыгадаць антычных філосафаў (Сакрата, Платона, Арыстоцеля), асветнікаў эпохі буржуазных рэвалюцый (Джона Лока, Шарля Мантэск'ё, Жан-Жака Русо, Поля Гольбаха, Імануіла Канта), амерыканскіх канстытуцыяналістаў (Томаса Пэйна, Томаса Джэферсана, Аляксандра Гамільтана), рускіх асветнікаў (Уладзіміра Салаўёва, Івана Ільіна) і іншых.

Да прыкладу можна прывесці цытату з прац французскага філосафа Поля Анры Гольбаха (1723 –1789 гады.): «Свабода з'яўляецца неад'емным правам усякага грамадства з прычыны таго, што яна неабходная для захавання і росквіту грамадскіх саюзаў. Быць свабодным — значыць выконваць толькі законы, накіраваныя на забеспячэнне грамадскай карысці і ўхваленыя грамадствам. Самаўпраўства — варожае грамадскай карысці, як дэспатызм або тыранія».

Пазней сталі прымацца заканадаўчыя акты, у якіх замацоўваліся найважнейшыя правы чалавека. У гэтым плане шэдэўрам лічыцца французская Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна 1789 года. У яе прэамбуле адзначаецца, што «…адзінымі прычынамі народных бедстваў і разбэшчанасці ўрадаў з'яўляюцца няведанне, забыццё ці пагарда правамі чалавека».

Безумоўна, усе артыкулы Дэкларацыі (17) заслугоўваюць увагі, але згадаем толькі непасрэдна звязаныя з тэмай публікацыі. Так, артыкул 2 абвяшчае, што мэтай любой улады з'яўляецца «захаванне натуральных і неадчужальных правоў чалавека». Сярод іх галоўныя — свабода, уласнасць, бяспека і права на супраціў прыгнёту.

У апошнім выпадку гаворка ідзе пра права народа даць арганізаваны адпор самаўпраўнасці з боку ўладаў і абараніць сваю свабоду. Іншымі словамі, народ як суверэн мае права на паўстанне, калі ўлада перастае служыць яго інтарэсам і «пагарджае» (не выконвае, парушае) правы чалавека.

У адпаведнасці з артыкулам 3, ніводны чалавек не можа ажыццяўляць уладу, якая не зыходзіць ад народа. Гэта значыць, улада павінна перадавацца народам у выніку вызначаных і ўсталяваных працэдур (выбараў).

І яшчэ адзін пункт Дэкларацыі варта прыгадаць: «Грамадства (дзяржава), у якім не забяспечаны гарантыі правоў і не ўсталяваны падзел уладаў, не мае канстытуцыі» (арт. 16).

Гэту норму варта разумець у тым сэнсе, што правы чалавека мусяць быць рэальнымі, а ўлада не павінна знаходзіцца ў адных руках. У адваротным выпадку, нягледзячы на наяўнасць канстытуцыі, яна з'яўляецца фікцыяй, а грамадзяне пазбаўленыя свабоды.

Палажэнні французскай Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна захавалі сваё значэнне і дзеянне, яны сталі складовай часткай Канстытуцыі Францыі 1946 года, а затым — Канстытуцыі 1958 года. У тым ці іншым выглядзе яны замацаваныя ў шэрагу міжнародных актаў пра правы чалавека і ў канстытуцыях шэрагу дзяржаў.

Што да нашай рэчаіснасці, дык заўважым: паводле Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (і 1994, і 1996 гадоў), чалавек, яго правы, свабоды і гарантыі іх рэалізацыі з'яўляюцца вышэйшай каштоўнасцю і мэтай грамадства і дзяржавы (ч. 1 арт. 2). Больш за тое, дзяржава адказная перад грамадзянінам за стварэнне ўмоў для свабоднага і годнага развіцця асобы (ч. 2 арт. 2).

Як той казаў, правільна па форме, але разыходзіцца з рэальным становішчам спраў. Для нашай сітуацыі прама падыходзіць артыкул 16 вышэйназванай Дэкларацыі: правы чалавека абвяшчаюцца, але не забяспечваюцца, а падзел уладаў заменены аднаасобнай уладай. Значыць, лагічна разважаючы, можна зрабіць выснову, што ў Беларусі няма канстытуцыі. Дзяржава ў асобе дзейнай улады не паважае правы чалавека, і яны для яе не ўяўляюць ніякай каштоўнасці.

Вось такое атрымліваецца адкрыццё. Якраз варта задумацца: у якой дзяржаве мы жывем?

**працяг будзе**

ПРАБЛЕМА

# БЕЛАРУСЫ БЕЗ ПРАВОЎ

Сяргей ПУЛЬША

**Праваабаронцы ўжо колькі гадоў называюць сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі «стабільна кепскай». Настолькі кепскай, што на адной з сустрэчаў праваабаронцаў з журналістамі нават выказвалася пажаданне вярнуцца ў «ліхія 90-я». Тады, маўляў, стан з правамі чалавека ў краіне быў лепшым.**

Па словах намесніка кіраўніка незарэгістраванага праваабарончага цэнтру «Вясна» Валянціна Стэфановіча, канешне, сітуацыя з правамі чалавека ніколі не была добрай. Але кепскай яна стала з 1996 года, калі была зменена Канстытуцыя краіны, і пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года. «Перад выбарамі была іншая рыторыка, нехта казаў пра «лібералізацыю» і спадзяваўся на яе, хаця ўжо тады праваабаронцы папярэджвалі: не было ніякіх



сістэмных зменаў для такога меркавання. Усе законныя і падзаконныя акты, правапрымяняльная практыка не змянялася альбо пагаршалася. І пасля Плошчы–2010 мы пабачылі гэта на ўласныя вочы», — сказаў ён.

Увогуле, пасля 1996 года ніводзін год не прахадзіў без таго, каб праваабарончыя арганізацыі не фіксавалі які-небудзь палітычна матываваны крымінальны пераслед. У адных выпадках гэта было прад'яўленне абвінавачванняў з наступным іх зняццем, у іншых — людзі прысуджаліся да буйных штрафаў, а ў некаторых выпадках атрымлівалі рэальнае пазбаўленне волі. Такім чынам, паводле адмысловага сайта palitviazni.info, за гэтыя гады ў краіне з 1996 года крымінальны палітычны пераслед зазналі 190 чалавек. У войску такое падраздзяленне да 200 чалавек называецца ротай.

«З 2010 года ў нас застаецца больш-менш стабільная лічба палітвязняў у 10 чалавек. Вось зараз выйшаў на волю Павал Севярынец, але застаецца пагроза, што замест Севярынца за парушэнне правілаў нагляду за краты будзе адпраўлены Уладзімір Яроменак. Суд першай інстанцыі прысудзіў яму турэмны тэрмін, зараз з яго зняты гэты нагляд, але што вырашыць касацыйная інстанцыя — невядома», — адзначае Стэфановіч.

А адміністрацыйна арыштаваных «за палітыку» ўжо, здаецца, ніхто і не лічыць.

Стэфановіч падкрэслівае, што пасля 2010 года ў Беларусі былі значна лімітаваныя і абмежаваныя ўсе асноўныя грамадска-палітычныя правы чалавека. «Гэта права на свабоду мірных сходаў, права на свабоду выказвання, права на атрыманне інфармацыі, на яе распаўсюд, права на свабоду асацыяцый і гэтак далей. Вялікія праблемы мы маем з незалежнасцю галінаў улады, у сувязі з гэтым, з функцыянаваннем улады, і ў прыватнасці — з судовай сістэмай. А аснова ўсіх гэтых праблем у тым, што не выконваецца таксама адно з фундаментальных правоў грамадзян — права на кіраванне дзяржавай праз сваіх прадстаўнікоў», — адзначае Стэфановіч.

То бок, гэта права на свабодныя і сумленныя выбары. Выбараў у Беларусі няма, увесь працэс ужо падобны на савецкі рытуал, і з 1996-га ніводныя выбары не былі прызнаныя міжнароднай супольнасцю як тыя, якія б адпавядалі волевыяўленню грамадзян.

«Адсутнасць выбараў — гэта тупік і застой. Адсутнасць публічнай палітыкі, калі палітык у краіне толькі адзін, прыводзіць да дэградацыі. Дэградацыі не толькі апазіцыі, пра што многія кажуць, але і дэградацыі ўлады, бо няма канкурэнцыі, няма развіцця, няма новых ідэяў. Таму гэта сапраўдны застой, і будучыня тут змрочная», — мяркуе Стэфановіч.

Але ж на думку кіраўніка дзяржавы ў Беларусі асноўныя правы чалавека выконваюцца. Найперш Аляксандр Лукашэнка кажа пра права на годнае жыццё. З гэтым Стэфановіч крыху нязгодны. «Калі Лукашэнка кажа пра права на жыццё, ён мае на ўвазе заробкі, працу і гэтак далей. Насамрэч, гэта не права на жыццё, гэта права на існаванне. З увядзеннем зменаў у Крымінальны кодэкс, з магчымасцю замены смяротнага пакарання на пажыццёвае ў 1999 годзе сітуацыя крыху палепшылася. Калі ў 1998 годзе было 47–48 смяротных прысудаў, то зараз іх выносіцца 2–4 на год», — адзначыў Стэфановіч.

Але ўсё роўна Беларусь застаецца адзінай краінай у Еўропе, дзе смяротнае пакаранне існуе, і адзінай краінай у Еўропе і СНД, дзе яно прыводзіцца ў выкананне. А ў дачыненні да Кавалёва Беларусь парушыла ўзятыя на сябе міжнародныя абавязкі — прысуд быў прыведзены ў выкананне, калі справа разглядалася ў ААН, насуперак нашым абавязкам», — кажа Стэфановіч.

Яшчэ праблема ў тым, што гэтую справу разглядаў Вярхоўны суд як суд першай інстанцыі. «У такім выпадку няма касацыйнага інстытута, куды б можна было падаць скаргу. Канешне, была пададзеная скарга ў парадку нагляду, але такая скарга не можа лічыцца касацыйнай — то бок, прысуд адразу ўступіў у сілу», — адзначыў праваабаронца.

Карацей, зараз беларусы сапраўды маюць менш правоў, чым у тым жа 1994 годзе. І ад таго, што яны гэтых правоў не маюць, сітуацыя толькі пагаршаецца. Не толькі ў міжнародным аспекце, кажучы пра «апошнюю дыктатуру Еўропы». Найперш адсутнасць правоў і свабодаў не дае краіне шанцаў для развіцця.

ПРЫКЛАД

# Уладзіслаў Завальнюк: КРОЧУ ПА ЖЫЦЦІ З НАКАЗАМ МАЦІ

Марат ГАРАВЫ

**Больш за год таму, не дажыўшы некалькі месяцаў да свайго 99-га дня народзінаў, сышла ў лепшы свет Ганна Іванаўна Завальнюк — маці Уладзіслава Завальнюка, пробашча мінскага касцёла святых Сымона і Алены,грамадскага дзеяча, літаратара і навукоўцы.**

Знаёмства з ім выклікае захапленне прыгажосцю чалавечай асобы з шырокім гуманістычным поглядам на свет, добразычлівасцю і мудрасцю.

У юнацтве Уладзіслаў марыў стаць лётчыкам, але адчуў Божы дар — пакліканне і вырашыў стаць святаром. Чатыры гады працаваў на будоўлях у Латвіі, каб вывучыць латышскую мову і паступіць у адзіную ў СССР духоўную каталіцкую ўстанову — вышэйшую семінарыю ў Рызе. Потым — душпастырская дзейнасць у таталітарным атэістычным Савецкім Саюзе — сапраўднае блуканне па пакутах. Давялося перажыць абвінавачванні ў рэлігійнай прапагандзе, запужванне, адмову ў прапісцы, сыход у падполле, збіццё, пагром святыні і плябані, адміністрацыйныя абмежаванні абавязкаў адпраўленнем набажэнстваў і споведзяў, арышты, карную псіхіятрыю, непрызнанне ўладамі і, урэшце, пагрозу дэпартацыі за мяжу як дысідэнта…

Верагодней за ўсё, так і адбылося б, калі б не перабудова. Менавіта яна дала магчымасць святару прадоўжыць адукацыю ў Варшаўскай духоўнай акадэміі, а потым працягнуць сваё святарства ўжо ў новых постсавецкіх умовах.

Найбольш ярка таленты ксяндза Уладзіслава раскрыліся падчас службы ў Чырвоным касцёле, які намаганнямі свайго пробашча і ягонай паствы стаў сапраўдным домам Божым, дзе чалавека заўсёды супакояць, наставяць і падтрымаюць. Вось чаму парафіяне так любяць свайго святара, якога натхняе адказнасць перад Богам, людзьмі і будучыняй.

Сярод добрых спраў ксяндза — змаганне за вяртанне вернікам святынь, аднаўленне і стварэнне новых каталіцкіх парафій, штогадовыя пілігрымкі ў Будслаў, духоўная апека пчаляроў Беларусі ў якасці іх капелана, выданне кнігі духоўнай паэзіі народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна «Ксты» і вылучэнне яе на Нобелеўскую прэмію, праца па адкрыцці ў сталіцы каталіцкага ўніверсітэта і ўзвядзенні помніка Яну Паўлу II. Сваімі справамі ксёндз Уладзіслаў далёка пераўзышоў мару юнацтва, бо ў сваім духоўным чыне ўзляцеў нашмат вышэй за любога авіятара…

Вялікую ролю ў жыцці святара, безумоўна, адыграла ягоная маці:

— Самыя першыя мае ўспаміны пра маці звязаныя з яе ўвагаю да сваіх дзяцей — мяне і абедзвюх старэйшых сясцёр. Маці была прысвечаная і адданая сваёй сям'і, заўсёды пільнавала нас. Пры гэтым яна была вельмі працавітым чалавекам, а працы ў нашым вясковым доме было вышэй галавы. І падрастаючы, я ўцягваўся ў кола гэтай абавязковай штодзённай бязмежнай сялянскай працы. Бывала і такое — дзесьці змахлюеш, а потым шкадуеш. Аднак маці, трэба аддаць ёй належнае, заўсёды паблажліва адносілася да мяне, ніколі не крычала і аніякім чынам не зневажала. Наадварот, спакойным выхаваўчым тонам яна пыталася: «Навошта ты так зрабіў і чаму так паступіў? Ты бачыш, як мне цяжка. А для каго я раблю? Для цябе і дачок». І такія простыя шчырыя ветлівыя словы добра кладліся ў маю душу. Асабліва ўздзейнічала на нас, дзяцей, набожнасць маці і яе малітвы. Нягледзячы на ўсялякія цяжкасці і напружанае працоўнае жыццё, маці строга адносілася да таго, каб у нядзелю і хрысціянскія святы мы ішлі ў Божы храм — касцёл і не бралі ў рукі сякеру…

Трэба падзякаваць маці і за яе ахайнасць, за тое, што яна вельмі клапацілася пра добрае і разнастайнае харчаванне сям'і з ухілам на вегетарыянства, дзякуючы чаму я з дзяцінства прызвычаіўся да акуратнасці і да сённяшняй пары захаваў добрае здароўе. У адносінах да сям'і, родзічаў, суседзяў і ўвогуле да людзей яна зыходзіла з правіла: «Няхай маё пройдзе, але каб быў святы спакой». Вось чаму ўсё жыццё маці была цярплівай да людскіх слабасцяў, усім прабачала і абыходзіла ўсялякія звадкі, стараючыся не браць іх да сэрца. Бо ў прабачэнні — здароўе, прабачаючы, чалавек здаравее… Маці была заўсёды каля мяне ва ўсе гады майго святарства ў васьмі краінах свету. Парафіяне называлі яе «наша маці» не толькі таму, што яна ўдзельнічала ў касцельных набажэнствах і працэсіях, а таму, што заўсёды дапамагала людзям сваімі добрымі парадамі разумнай вытрымкі і цярплівасці перад шматлікімі жыццёвымі выпрабаваннямі. З гэтым наказам маці і я крочу па жыцці…



Уладзіслаў Завальнюк з маці Ганнай Іванаўнай падчас вучобы ў Рыжскай вышэйшай духоўнай каталіцкай семінарыі

Фота з асабістага архіва Уладзіслава Завальнюка

У адносінах да сям'і, родзічаў, суседзяў і ўвогуле да людзей яна зыходзіла з правіла: «Няхай маё пройдзе, але каб быў святы спакой»



Папа Ян Павел II бласлаўляе ксяндза Уладзіслава Завальнюка



Ксёндз Уладзіслаў сярод сваёй паствы

Сярод найбольш важкіх спраў, якімі сёння заклапочаны ксёндз Уладзіслаў, ён вылучыў тры.

**Першая справа** звязана з пачаткам беатыфікацыйнага працэсу асобы фундатара Чырвонага касцёла Эдварда Вайніловіча:

— Калі 11 чэрвеня 2006 года, згодна з воляю святой памяці Эдварда Вайніловіча, ягоны прах вярнуўся на радзіму, я прапанаваў вернікам маліцца, каб гэты вялікі чалавек не толькі прыйшоў да парогу сваёй святыні, але і ўвайшоў у яе ў якасці слугі Божага ці благаславёнага, — згадвае Уладзіслаў Завальнюк. — Пакуль жа прах гэтай выбітнай асобы спачывае перад храмам. Але днямі я атрымаў дазвол ад мітрапаліта, арцыбіскупа Мінска-Магілёўскага Тадэвуша Кандрусевіча на падрыхтоўку дакументаў, неабходных для беатыфікацыі Вайніловіча. Потым гэтыя дакументы разгледзіць спецыяльная папская камісія, каб вырашыць, ці заслугоўвае асоба Вайніловіча надання ёй статусу слугі Божага. Затым вернікі будуць маліцца і прасіць Божыя знакі аб заступніцтве слугі Божага Эдварда Вайніловіча. Для нас вялікі гонар, што па просьбе былога асабістага сакратара Яна Паўла II, кардынала Станіслава Дзівіша інфармацыйны працэс у справе беатыфікацыі фундатара нашай святыні ўзяўся весці шаноўны ксёндз-доктар Славамір Одэр, які ў свой час каардынаваў справу беатыфікацыі і каналізацыі Вялікага Папы Яна Паўла II.

**Другая справа** — наданне Чырвонаму касцёлу тытулу асобай царквы (базілікі). Гэты тытул прысвойваецца пантыфікам альбо ватыканскай Кангрэгацыяй набажэнства і дысцыпліны таемстваў, якой Папа Рымскі дэлегуе адпаведныя паўнамоцтвы. Базіліка мае шэраг прывілеяў у параўнанні з шараговымі цэрквамі. У базіліцы, пры адпаведных умовах, можа быць дараваная поўная індульгенцыя, яе святары маюць права на адмысловае адзенне, у набажэнствах і працэсіях выкарыстоўваецца цінцінабулум (cincinabulum — літургічны званочак), а ў інтэр'еры святыні традыцыйна ўстанаўліваецца ўмбракулум (umbrakulum) — архаічны варыянт сцягу Царквы ў выглядзе паласатага чырвона-жоўтага канічнага парасону з шоўку. Выява umbrakulum размяшчаецца і на намёце герба базілікі.

— Падрыхтаваны і складзены на рукі мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча ўсе неабходныя дакументы па наданне Чырвонаму касцёлу тытулу базілікі. Мы чакаем разгляду гэтых дакументаў у Ватыкане і лічым, што наш храм дастойна заслугоўвае высокага статусу базілікі, — кажа Уладзіслаў Завальнюк.

**Трэцяя справа** — падрыхтоўка да абароны дысертацыі на атрыманне навуковай ступені доктара гістарычных навук:

— Ужо год, як я падаў заяву ў Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка на абарону доктарскай дысертацыі па тэме «Гістарыяграфія посту», — распавядае Уладзіслаў Завальнюк. — Справа ў тым, што гэтая тэма амаль не даследаваная ў навуцы. Я хачу паказаць, як пост разглядаецца рэлігіяй і медыцынай на працягу тысячагоддзяў — ад Шумеру, Акаду і Егіпту, праз паганства, Біблію і сусветныя рэлігіі да сучаснасці. На маю думку, уздзеянне посту павінна разглядацца з двух бакоў — медычнага і духоўнага, бо мы маем справу з чалавекам, які ідзе і да доктара, і да святара. Як святар, я павінен рассмацьваць пост не толькі як магчымасць духоўнага ўзвышэння чалавека, але і яго фізічнага аздараўлення. І таму ўсе мае парады верніку, які збіраецца пасціцца, павінны ўлічваць дасягненні медыцыны. На гэтую тэму я напісаў дзве манаграфіі: «Не хлебам адзіным» (выйшла чатыры выданні) і двухтомнік «Другое прышэсце посту».

Дарэчы, гэтыя выданні святар прысвяціў сваёй маці. У наступным годзе ксёндз Уладзіслаў адзначае тры «круглыя» даты — 40-годдзе святарства, 30-годдзе душпастырства на Беларусі і 25-годдзе з дня запрашэння на пасаду пробашча Чырвонага касцёлу. Зараз наш герой працуе над мемуарамі, у якіх прадставіць свой шматпакутны жыццёвы шлях. Дык пажадаем шаноўнаму спадару Уладзіславу Завальнюку добрага здароўя на доўгія гады, здзяйснення ягоных задумаў дзеля таго, каб беларусы жылі з Богам.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

## 28 КАСТРЫЧНІКА, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.00** Трагікамедыя «Марафон» (Расія).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Клуб рэдактараў.
**14.10** Вакол планеты.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Журналісцкае расследаванне.
**15.55** Заўтра - гэта мы!
**16.25** Усё як мае быць!
**16.50** Крымінальная меладрама «Згубленыя ў лясах» (Расія).
**19.20** Арэна.
**19.40, 23.30** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Фантастычны серыял «Каўчэг».
**00.05** Дзень спорту.
**00.20** Крымінальны баявік «Паркер» (ЗША).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здарова!».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** «Самы лепшы муж».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Хатняя прыслужніца». Шматсерыйны фільм.
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Ток-шоў «Пазіцыя».
**22.05** АНТ прадстаўляе: «Фінал Чэмпіянату свету па брэйк-дансе Battle of the Year».
**23.40** Фільм «Арол Дзявятага Легіёна».
**01.40** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.40** «Вялікі сняданак».
**10.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Віцебск.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Такі лёс».
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Віцебская вобласць.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** «Зорны рынг. Новы сезон.
**15.45** «Уявіце сабе».
**16.20** «Наша справа».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Вялікія таямніцы».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Мікашэвічы.
**20.30** Фільм «Віртуоз». Германія- ЗША - Вялікабрытанія - Іспанія, 2002г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».
**00.15** «Эліксір маладосці».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Двайняты» (Расія).
**10.15** Навіны надвор'я.
**10.50** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**12.00** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.35** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія).
**13.10** Рамантычная камедыя «Утаймаванне свавольнага» (Італія).
**15.05** Меладрама «Бальная сукенка».
**16.40** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**23.05** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**00.00** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Пра тое, як Колька і Пецька лятаі ў Бразілію». Кароткаметражны фільм па расказах Данііла Хармса.
**08.40** «Чэрвень 41-га. Заходні асобы». Дакументальны фільм пра першыя дні вайны на тэрыторыі Беларусі.
**09.20** «Сляды на асфальце». Дак. фільм аб творчасці беларускіх скульптараў К. Селіханава, М. Петруля і А. Шапо.
**09.35** «Залатое цяля». 7-я серыя.
**10.20** «Дыя@блог». Пра мову.
**10.45** «Фараон». Мастацкі фільм.
**13.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці драматурга Андрэя Макаёнка.
**13.30** «Тэатральны ліцэй». У пачатку было.. Пра акцёраў Маскоўскага Мастацкага акадэмічнага тэатра.
**14.00** «Кінарэжысёр Барыс Сцяпанаў». Фільм-партрэт кінарэжысёра, заслужанага дзеяча мастацтваў.
**14.30** «Уніз па Ясельдзе-рацэ». Дак. фільм.
**14.45** «Апошні сон Барыса Сачанкі». Дак. фільм.
**14.55** «Наперад у мінулае».
**15.20** «Белыя Росы». Мастацкі фільм.
**16.50** «Іголькі сны...». Канцэрт заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь І.Афанасьевай.
**18.10** «Калейдаскоп».
**18.15** «Дзяржаўная граніца». Фільм першы «Мы наш, мы новы...».
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Я, Францыск Скарына». Мастацкі фільм.
**22.30** «Дыя@блог». Пра мову.
**22.55** «Залатое цяля». 8-я серыя (закл.).
**23.40** «Тэатральны ліцэй». У пачатку было.. Пра акцёраў Маскоўскага Мастацкага акадэмічнага тэатра.
**00.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці драматурга Андрэя Макаёнка.
**00.35** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Прэм'ера. Дэтэктыў «Пчаляр».
**21.20** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Карпаў. Сезон другі».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Вострасюжэтны серыял «Уцякач».

### МИР

**05.00** М/ф «Пяць хвілін да метро».
**06.35** Мультфільмы.
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.15** М/ф «Алёшкіна каханне».
**10.50** Выніковая праграма «Разам».
**11.45** «Агульны рынак».
**12.25, 02.40** Т/с «Клон».
**14.10** Д/ф «У свеце цудаў».
**15.25, 22.05** Ток-Шоў «Слова за слова».
**16.20** Т/с «Закон».
**18.25** «Беларусь сёння».
**19.00** Т/с «Жыць спачатку».
**21.25** «Акцэнты».
**21.40, 05.25** Д/ф «Рэальны свет».
**23.00** Т/с «Чыста ангельскія забойствы».
**00.40** М/ф «Суперзорка».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Зона «Свабоды».
**07.30** Эксперт (сатырычная праграма).
**08.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Міхал Клеафас Агінскі.
**08.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.35** «Дом», серыял: 6 серыя.
**18.00** «Кароль-вінароб», серыял: 1 серыя.
**18.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Еўфрасіння Полацкая.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Навіны.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Дэвайс.
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.55** Рэпартаж Euronews.
**20.00** Навіны.
**20.10** Два на два (тэледыскусія): Актуальныя выклікі для беларускай дзяржаўнасці: Зянон Пазняк і Алесь Краўцэвіч.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Фільматэка майстроў: «Чужая», маст. фільм, 2010 г., Германія.
**23.25** «Лебядовыя гады», дак. фільм.
**00.00** Аб'ектыў.

## 29 КАСТРЫЧНІКА, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**10.10** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**11.05** Дак. цыкл «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна). Закл. серыя.
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.15** Фантастычны серыял «Каўчэг».
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Арэна.
**15.45** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).
**16.50** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.35** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.35** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**21.00** Панарама.
**22.00** Фантастычны серыял «Каўчэг».
**00.10** Дзень спорту.
**00.25** Сфера інтарэсаў.
**00.40** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** «Самы лепшы муж».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Хатняя прыслужніца». Шматсерыйны фільм.
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Наша Беларашa».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Станіца». Шматсер. фільм.
**23.25** «Вячэрні Ургант».
**00.00** Прэм'ера. Камедыя «Імя».
**02.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Мікашэвічы.
**09.15** «Вялікія таямніцы».
**10.15** «Жыць будзеце».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Мікашэвічы.
**14.05** Фільм «Персанаж». ЗША, 2006г.
**16.05** «100 адсоткаў».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Пінск.
**20.30** Фільм»Фантамас супраць Скотланд-Ярда». Францыя - Італія, 1966г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жывая тэма».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.25** «Тэрыторыя памылак».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Двайняты» (Расія).
**10.20** Месцы сілы.
**10.55** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**11.50** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**12.55** Цела чалавека.
**13.55** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**15.30** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**16.40** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Драма «Кат» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**23.05** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**00.00** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Пад аблокамі». Дак. фільм пра парашутыста і альпініста В. Чыжыка.
**08.40** «Лёгка сказаць». Жонка рэжысёра Міхаіла Пташука - Лілія Пташук.
**09.05** «Любча. Восем дзён лета». Дак. фільм.
**09.35** «Залатое цяля». 8-я серыя (заклю).
**10.20** «Дыя@блог». Пра літаратуру.
**10.45** «Дзяржаўная граніца». Фільм першы «Мы наш, мы новы...».
**13.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці актрысы Ганны Абуховіч.
**13.30** «Тэатральны ліцэй». Амерыканскі дэсант. Пра акцёраў Маскоўскага Мастацкага акадэмічнага тэатра.
**14.00** «Знакі лёсу. Віктар Казько». Дак. фільм.
**14.30** «Камертон». Оперная спявачка Алена Абразцова.
**14.55** «Музей Якуба Коласа». Дак. фільм.
**15.10** «Я, Францыск Скарына». Мастацкі фільм.
**16.55** «Палескі пачастунак». Дранікі.
**17.10** «Зорка на спражцы». Кароткаметражны фільм па матывах аднайменнага апавядання Янкі Брыля.
**17.40** «Карані». Жанчыны Кішынёва.
**18.10** «Калейдаскоп».
**18.20** «Дзяржаўная граніца». Фільм другі «Мірнае лета 1921 года..».
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Альпійская балада». Мастацкі фільм.
**22.15** «Дыя@блог». Пра літаратуру.
**22.40** «Зорка эпохі». 1-я серыя.
**23.35** «Тэатральны ліцэй». Амерыканскі дэсант. Пра акцёраў Маскоўскага Мастацкага акадэмічнага тэатра.
**00.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці актрысы Ганны Абуховіч.
**00.30** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.55** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Прэм'ера. Дэтэктыў «Пчаляр».
**21.25** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Карпаў. Сезон другі».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Вострасюжэтны серыял «Уцякач».

### МИР

**05.00** М/ф «Пяць хвілін да метро».
**06.35** Мультфільмы.
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.15** М/ф «Паездкі на старым аўтамабілі».
**11.15** «Навіны Садружнасці. Культура».
**12.25, 02.40** Т/с «Клон».
**14.10** Д/ф «У свеце цудаў».
**15.25, 22.05** Ток-Шоў «Слова за слова».
**16.20** Т/с «Закон».
**18.25** «Саюзнікі».
**19.00** Т/с «Жыць спачатку».
**21.25** «Акцэнты».
**21.40, 05.25** Д/ф «Рэальны свет».
**23.00** Т/с «Чыста ангельскія забойствы».
**00.40** М/ф «Доўгае развітанне».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Два на два (тэледыскусія): Актуальныя выклікі для беларускай дзяржаўнасці: Зянон Пазняк і Алесь Краўцэвіч.
**18.00** «Днюка», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Мадла і Туп».
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**19.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: рэпартаж Euronews.
**19.30** Навіны.
**19.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Рэпартаж Euronews.
**20.00** Навіны.
**20.30** Беларусы ў Польшчы.
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Антоні Тызенгаўз.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Дэкалог-89+», цыкл кароткаметражных фільмаў: фільм 9: «Філіжанкі Ёка Она».
**21.50** Форум (ток-шоў): Чорна-белае кіно.
**22.35** Аб'ектыў.

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

**Выпуск №10 (86) (кастрычнік)**

www.lit-bel.org www. novychas. info

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


**Анонс**



**ПАМФЛЕТ**



# ЗАХАД ЦІ УСХОД?

**Віктар САЗОНАЎ, Беларускае Радыё Рацыя**

**«Вайна нішто, галоўнае манеўры». Гэтую фразу чуў хіба што кожны, каму хоць адну гадзіну давялося адслужыць у савецкім войску. Хаця там, звычайна, служылі не менш двух гадоў. І гэтая фраза тады гучала з салдацкім, не зусім цэнзурным вымаўленнем. Але сэнс застаўся гэткі ж. Па вайсковаму просты, як стрэл, лаканічны, як загад, і максімальна набліжаны да рэчаіснасці.**

Дык вось, у Беларусі толькі што прайшлі вайсковыя вучэнні. І ўдзельнічалі ў іх не толькі беларускія вайскоўцы, але і расійскія. І нават кіраўнікі гэтых краін. Папрысутнічалі яны, адпаведна, на землях абодвух незалежных дзяржаў. І на сённяшняй расійскай тэрыторыі, якая дасталася Расіі па праву мацнейшага пасля перамогі над гітлераўскай Германіяй, і на беларускай зямельцы, якую не ўсю да канца, пасля той пераможнай вайны, саветы нахабна параздавалі, каму хацелі. І невядома па якім праве.

Беларусь пасля тых сумесных з Расіяй ваенных дзеянняў стала ўнікальнай краінай-пераможцай, якая, у адрозненне ад іншых пераможцаў, не здабыла, а згубіла сваю тэрыторыю. Яшчэ сваю тэрыторыю таксама Германія страціла. Але яна, здаецца, у адрозненне ад нас, тую вайну прайграла.

Цяперашнія вучэнні назвалі «Запад-2013». Пісаць назву, напэўна, трэба выключна па расійску. Бо тое, што для іх «Запад», для нас акурат цэнтр Еўропы, які па волі лёсу ёсць нашай Радзімай. Асабіста я нават памятаю «манеўры» з падобнай назвай. Тады яны называліся «Запад-81».


Жывём мы тут. Але ці насамрэч Расійская Федэрацыя чакае замежнай інтэрвенцыі з гэтага, заходняга кірунку, што і манеўры тут замуцілі, і вайсковую авіябазу пішчом пруць?


Праўда, «Запад», на думку савецкіх генералаў, тады быў значна далей на захад. Недзе пад мяжой з той самай Нямеччынай…

Тады ў краінах-удзельніцах Варшаўскай дамовы было ўжо вельмі неспакойна. І, верагодна, гэтая назва вучэння ім вельмі не спадабалася, бо яны сябе і так залічылі «Захадам». Як і мы. І з Захадам ваяваць не збіраліся. Мажліва таму наступныя сумесныя вучэнні называліся ўжо то «Дружба», то «Шчыт». І аніякага «Западу». Хоць, калі быць да канца шчырымі, то і «шчыта» з імі ў СССР не атрымалася, а тым больш «дружбы».

Цяпер назва «Запад» зноў загучала. І гэтым разам ужо мы, Беларусь, ёсць Захад. Хоць мы і так даўно гэта ведалі. Як і словы заходняга класіка, што Захад ёсць Захад, а Усход ёсць Усход. І з месца яны не сыйдуць. Гэта нашым усходнім суседзям трэба вызначацца, хто яны. Але ж кіраўнік суседняй краіны так і не вызначыўся, назваўшы Расію і не Усходам, і не Захадам. Так і не здужаў зрабіць цывілізацыйны выбар.

Можа таму — з кім цяпер салдаты і афіцэры дзвюх суседніх краінаў ваявалі — разабрацца чалавеку недасведчанаму ў гіперсучасных вайсковых справах практычна немажліва. Хто наш верагодны супраціўнік, якая ў нас вайсковая канцэпцыя, ад каго мы мяркуем адбівацца, хто на нас нападаць збіраецца і чаму арэнай бітвы для беларусаў стала Калінінградская вобласць Расійскай Федэрацыі? — засталося неразгаданым. Як і тое, чаму мы вучымся ваяваць плячо ў плячо з войскамі той краіны, галоўнакамандуючы якой неяк заявіў, што хацеў бы Беларусь далучыць да сябе цалкам або часткамі. Калі мы такія моцныя і ўпэўненыя ў сваіх сілах і ані кроплі не баімся падобных пагроз, то трэба толькі радавацца. Але навошта тады некаму даваць падглядаць нашае дасканалае вайсковае майстэрства?

Зрэшты, калі краіна мае свае войскі, то яны мусяць вучыцца ваяваць. Гэта лагічна і правільна. І шукаць тлумачэння прысутнасці ў Беларусі беларускай арміі не трэба. Жывём мы тут. Але ці насамрэч Расійская Федэрацыя чакае замежнай інтэрвенцыі з гэтага, заходняга кірунку, што і манеўры тут замуцілі, і вайсковую авіябазу пішчом пруць? Няўжо і праўда — Еўропу падазраюць? А мо на ўсходнія свае землі ўжо рукой махнулі? Прыйшлі да высновы, што ўсё адно там парадку навесці не ў стане…

Ці, усё ж, маюць тут, у Беларусі, нейкія планы? Цікава, якія! Хоць калі падумаць, то можна і здагадацца.

Але ж замест бессэнсоўнай справы, ад якой яшчэ Кіплінг засцерагаў, вырашылі б лепш, хто яны самі. Усход ці Захад. І рухаліся б нарэшце ў абраным кірунку. Тады, можа, і манеўраў аніякіх не спатрэбілася б. Прынамсі тут, у Беларусі.

**АНТАЛОГІЯ**

## СЛОВА ДА ПАНАВІТЫХ

**Рыгор БАРАДУЛІН**



*Слова пашаны панавітым:*
*Дзеясловаўцы,*
*Шануйце слова,*
*Дзеяслаўцы,*
*Аблічце славу!*
*Шчыры ваш парыў*
*Абавязкова*
*Зацікавіць*
*Велічную справу.*
*Афіцэр-кампутар*
*Ці хлапчо-пяро*
*Беларускае нутро*
*Яшчэ глыбей*
*Абеларусіць*
*Старацца мусяць.*

Новыя вершы народнага паэта Беларусі Рыгора БАРАДУЛІНА — яго хмельна-метафарную нізку «SEX-ЦЫКЛ» — чакайце, шукайце і чытайце ў наступным выпуску «Літаратурнай Беларусі».




# РАДА СБП

**Адбылося паседжанне Рады ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**

На парадку дня былі наступныя пытанні: прыём і аднаўленне ў арганізацыі новых сяброў і справаздача па дзейнасці Саюза за апошнія паўгады. Рада СБП таксама разгледзела пытанні аб працы Школы маладога літаратара і аб святкаванні 80-годдзя Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Празаікі Віктар Супрунчук і Андрэй Федарэнка выйшлі з альтэрнатыўнага СП і падалі заявы на аднаўленне сяброўства ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Адкрытым галасаваннем іх заявы былі задаволеныя.

Шэрагі СБП папоўнілі таксама шэсць новаабраных літаратараў.

**Яўгенія Яўгенаўна Казлова** нарадзілася 6 мая 1949 г. у Вільні. Жыве ў Оршы. Скончыла Віцебскае медвучылішча, працавала ў Аршанскім гарадскім цэнтры гігіены і эпідэміялогіі на пасадзе памэпідэміёлага. З вершамі ў друку ўпершыню выступіла ў 1999 г. у «Аршанскай газеце». Аўтар двух кніг паэзіі: «Спеў флейты» (2004) і «Мора любові» (2007).

**Сяргей Аляксандравіч Календа** нарадзіўся 15 сакавіка 1985 г. у Капылі на Міншчыне. Скончыў БДУ. Заснавальнік і рэдактар часопіса сучаснай беларускай прозы «Макулатура». Стыліст міжнароднага класу (у 2008 годзе закончыў Toni&Guy Academy, Лондан). Аўтар пяці кніг прозы: «Помнік атручаным людзям», «Казкі. Гісторыі (не) пра нас», «Іржавы пакой з белымі шпалерамі», «Трохлітровая проза», «Кантынэнтальны сьняданак».

**Анатоль Станіслававіч Кашэвіч** нарадзіўся 28 чэрвеня 1937 г. у в. Крушнікі Петрыкаўскага (сёння — Мазырскага) раёна. Скончыў Мінскі падінстытут. Больш за сорак гадоў працаваў настаўнікам, з іх каля трыццаці — дырэктарам школы. Выдатнік Асветы СССР і БССР. Мае медаль «За выратаванне тапельцаў». Аўтар дакументальных аповесцяў «На куранях», «Уратуйце нашы душы», «Залатое вяселле», «Дзед Міколік».

**Міхаіл Саламонавіч Нардштэйн** нарадзіўся 24 студзеня 1924 г. у м. Абчуга Крупскага раёна Мінскай вобласці. У 1952 г. скончыў Маскоўскі гісторыка-архіўны інстытут, працаваў у Мінусінску супрацоўнікам дзяржархіва, пазней быў пераведзены ў Енісейскі дзяржархіў. У 1955-м скончыў Хабараўскае артылерыйскае вучылішча. З 1961 г. — ваенны журналіст, 15 гадоў адпрацаваў у Беларускай вайсковай акрузе. У 1989–1991 гг. быў спецкарам рэспубліканскай газеты «Знамя юности», у 1992–1999 — галоўны рэдактар яўрэйскай рэспубліканскай газеты «Авив». Аўтар кнігі ў 2-х тамах «Рубиконы. Очерки одной жизни и не только» (2008).

**Мікалай Іванавіч Пацяюк** нарадзіўся 24 снежня 1938 г. у в. Ляхаўцы Маларыцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Маларыцкую СШ, Гродзенскае музычна-педагагічнае вучылішча, філалагічны факультэт Брэсцкага педагагічнага інстытута. Працаваў настаўнікам музыкі і рускай мовы і літаратуры. Аўтар двух паэтычных зборнікаў: «Мелодыя сэрца» і «З-пад буслінага крыла».

**Сяргей Іванавіч Сапоненка** нарадзіўся ў 1966 г. у Гомелі. Рэдагаваў і рыхтаваў да друку газету гомельскага таварыства інвалідаў «Сям'я». Аўтар паэтычных зборнікаў «Versus» і «Песні Сіёна» (галандскае выдавецтва «DRTS»), зборніка вершаў у 2-х тамах «Сэрца на паперы» (нямецкае выдавецтва «TITEL»).

**Прэс-служба ГА «СБП»**

## ЗАЯВА

## Сакратарыята ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў»

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь прыняло рашэнне (№189 ад 25 верасня 2013 года) правесці скарачэнне колькасці работнікаў устаноў культуры.

Сярод прапанаваных мераў – скарачэнне на 20% колькасці кіраўнікоў і спецыялістаў мясцовых органаў у сферы культуры. Літаратурны музей Максіма Багдановіча і Літаратурны музей Петруся Броўкі плануецца далучыць да Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, пазбавіўшы статуса самастойнай юрыдычнай асобы. Штат Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа і Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы скарачаецца на 25%.

Гэтыя сумнеўныя меры па «аптымізацыі штатнай колькасці работнікаў» варта разглядаць не як паасобныя праявы чыноўніцкай «ініцыятывы», а як сістэмную з'яву і дзяржаўную палітыку, якая разам са скарачэннем колькасці гуманітарных дысцыплінаў ва ўстановах адукацыі, закрыццём бібліятэк і сельскіх установаў культуры вядзе не толькі да занядбання беларускай культуры, мовы і літаратуры, але і да планамернага і паслядоўнага размывання самой нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў.

Мы разумеем, што гэтыя меры Міністэрства культуры выкліканы няпростым становішчам у эканоміцы краіны, аднак лічым, што нацыянальная культура – не тая галіна народнай гаспадаркі, на якой варта і можна эканоміць. У сувязі з гэтым Сакратарыят ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» звяртаецца да калегіі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь з прапановай устрымацца ад такіх сумнеўных мераў «аптымізацыі», якія ў перспектыве толькі ўзмоцняць крызісныя з'явы ў нацыянальнай культуры, і адклікаць сваё рашэнне.

▸ **КОНКУРС**

# УГАНАРАВАННЕ ФІНАЛІСТАЎ «ЭКСЛІБРЫСА»

**12 кастрычніка адбылося ўрачыстае ўзнагароджанне лаўрэатаў конкурса «Экслібрыс» імя Янкі Маўра, прысвечанага літаратуры для дзяцей і праведзенага Саюзам беларускіх пісьменнікаў.**



Пераможцы атрымалі дыпломы і падарункі, каштоўныя прызы ад кампаніі «Прэстыжыо», а самай маладой фіналістцы, якая пакарыла журы, аказалася ўсяго 13 гадоў.

На конкурс прыйшло 117 заявак. Сярод удзельнікаў — жыхары Беларусі, Расіі, Украіны, Балгарыі ва ўзросце да 40 гадоў. Канкурсанты прапанавалі творы ў самых розных жанрах — казкі і п'есы ў вершах, тэксты песень для дзяцей, апавяданні ў стылі фантастыкі, фэнтэзі або на аснове фальклору, коміксы, ілюстраваныя аповесці і раманы і нават цэлыя праекты кніг.

Уладальнікам трэцяга месца стаў **Серж Мядзведзеў** з перакладам «Чараўніка краіны Оз» Фрэнка Баўма. Для лаўрэата быў перададзены дыплом, а таксама падарункі ад СБП — усе кнігі серыі «Пункт адліку», кніга Эвы Суса «Снежны чалавек» у перакладзе на беларускую Алесі Башарымавай, а таксама прыз ад партнёраў конкурсу – рыдэр Prestigio на электронных чарнілах.

Другім месцам была ўганараваная **Дар'я Вашкевіч** з казкай «Баваўняная дзяўчынка» (твор ілюстраваны мастачкай Аленай Медзяковай). Пераможца атрымала рыдэр і магчымасць выдаць кнігу.

А першае месца атрымала **Вольга Гапеева** з казачнымі гісторыямі «Сумны суп», а разам з ім — планшэт ад кампаніі «Prestigio» і выданне кнігі.

Яшчэ 9 фіналістаў сталі дыпламантамі конкурса «Экслібрыс»: Мілана Пасанен з дзённікавымі гісторыямі «Королева рулета»; Сяргей Календа супольна з Дашай Зайчанка і Лідай Наліўка за праект кнігі «Дзе жывуць беларускія пачваркі»; Надзея Кандрусевіч (за пераклад твора Сары Лундберг «Віта Белая Крэска» са шведскай на беларускую мову); Павал Касцюкевіч (пераклад «Аўтаспынам па Галактыцы» Дугласа Адамса); Алесь Квіткевіч (пераклад першай кнігі «Хронікі Нарніі» Клайва Стэплза Льюіса); Глеб Лабадзенка з кнігай дзіцячых моўных малюнкаў «дзіцячая заМова» (і з працягам гэтага праекта); Элеанора Ляхновіч (напісала казку «Турба-Элік і яго сябры», а таксама ілюстравала яе); Наталля Рудак з перакладам «Маленькай вядзьмаркі» Отфрыда Пройслера і Ксенія Шталянкова з працягам прыгодніцкага рамана для падлеткаў «Адваротны бок люстра».

## ЛІСТАПАДАЎСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**

01.11.1948 — Мікалай Пракаповіч
12.11.1958 — Леанід Пранчак
20.11.1953 — Міхась Шаховіч
21.11.1958 — Вера Страмкоўская
24.11.1958 — Ігар Тумаш



Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

▸ **MEMORIA**

# ПАМЁР НОРБЕРТ РАНДАЎ



**1 кастрычніка спачыў у вечнасці нямецкі славіст, перакладчык, ганаровы сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў і Беларускага ПЭН-цэнтра Норберт Рандаў.**

Ён нарадзіўся 27 лістапада 1929 г. Вывучаў славістыку ў Растоку і Берліне. Закончыў аспірантуру ў Сафіі. Займаўся мастацкімі перакладамі з балгарскай і беларускай літаратур.

У 1962 г. спецслужбы прасавецкай Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі знайшлі на кватэры Н. Рандава кнігу Пастэрнака «Доктар Жывага» і абвінавацілі славіста ў антысавецкай агітацыі, а таксама ў «антыдзяржаўным падбухторванні» і «дапамозе нелегальнай эміграцыі». З 1962 па 1965 гады Н. Рандаў быў у зняволенні. Да 1989 г. штазі не дазваляла яму пастаяннай працы і сачыла за ім.

Н. Рандаў перакладаў творы Якуба Коласа, Янкі Купалы, Алеся Гаруна, Максіма Гарэцкага і Васіля Быкава, з якім быў асабіста знаёмы.

У 2003 г. Н. Рандаў дапамог у знаходцы ў нямецкім горадзе Гёрліц асобніка Бібліі Францыска Скарыны і пазней выступіў з навуковым дакладам з гэтай нагоды.

Ягоны пераклад аповесці Максіма Гарэцкага «Дзве душы» дагэтуль не выдадзены. Нямецкі журналіст Інго Пэтц паведаміў, што Рандаў называў «Дзве душы» ключавым творам беларускай літаратуры. Пэтц прызнаўся, што яму на ўсё жыццё запомніліся словы Рандаў: «Гэта скандал, што мы на Захадзе нагэтулькі сляпыя ў дачыненні да беларускай літаратуры, якая ёсць неад'емнай часткай еўрапейскай культурнай гісторыі».

Добрая памяць аб удумлівым працаўніку хай навечна застанецца ў беларускіх сэрцах!

# ПАМЁР МІКАЛАЙ ВІНЯЦКІ

**14 кастрычніка пайшоў з жыцця беларускі паэт Мікалай Віняцкі.**



Мікалай Фёдаравіч Віняцкі нарадзіўся 13 красавіка 1939 года ў вёсцы Чыгірынка Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці. Працоўны шлях пачаў тапографам. Скончыў БДУ, аспірантуру пры Беларускім тэхналагічным інстытуце. Кандыдат тэхнічных навук. Да выхаду на пенсію працаваў галоўным рэдактарам Беларускага картографа-геадэзічнага аб'яднання «Белгеадэзія». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Сярод літаратурных дасягненняў Мікалая Фёдаравіча можна вылучыць стварэнне вянка вянкоў санэтаў. Акрамя таго аўтар выкарыстоўваў у сваёй паэзіі цэлы шэраг экзатычных жанраў: тэрцэты, квінцілы, секстыны, септымы, ноны, дэцымы.

ЮБІЛЕЙ

# БЕЛАРУСКІЯ ЛАБІРЫНТЫ

## ДЗЯРЖАВАТВОРНАЯ КАНЦЭПЦЫЯ ВАЦЛАВА ЛАСТОЎСКАГА

Алік АКУЛІЧ

**Станаўленне беларускай дзяржаўнасці адбывалася ў ідэйным суплёце з развіццём мастацтва: палітыка ядналася з творчасцю. Беларуская літаратура з пачатку XX стагоддзя прапагандавала два асноўныя канцэпты мадэлі нацыянальнага дзяржаваўладкавання, натхнёна запазычаныя са спратаў гісторыі: Крывію (старажытнае Полацкае княства) і Вялікае Княства Літоўскае.**



Вацлаў Юстынавіч Ластоўскі — паэт, празаік, драматург, публіцыст, літаратуразнаўца, гісторык, выдавец, палітык, дыпламат — нарадзіўся 130 гадоў таму; у 35 стаў кіраўніком БНР (старшынёй Рады, прэм'ер-міністрам), у 45 — акадэмікам Акадэміі навук Беларусі; знішчаны бальшавіцкай уладай у 55-гадовым веку і рэабілітаваны яе спадчыннікамі адным з апошніх — праз 50 гадоў пасля расстрэлу. На скрыжалях Беларускай Кнігі пад ягоным імем гісторыяй навечна ўпісаны словы-вызначэнні: творца і дзяржаўнік.

Адным з першых мастацкую праграму ўсведамлення будучага беларускай краіны праз асэнсаванне яе мінуўшчыны прапанаваў пісьменнік-энцыклапедыст, палітык еўрапейскага маштабу Вацлаў Ластоўскі. Галоўная ідэя яго твораў — адраджэнска-нацыянальная, а тэма — сцвярджэнне самабытнасці беларускага народа. Болесныя роздумы над лёсам Бацькаўшчыны прывялі В. Ластоўскага ў пракаветныя лабірынты-таямніцы беларускай душы — у міфічную Крывію. Яго найбольш вядомы празаічны твор — аповесць «Лабірынты» — стаў узорам рамантычнай прозы на гістарычную тэму. Аднак, думаецца, гістарызм «Лабірынтаў» — ужо «паслявальтэрскотаўскі», гістарызм найперш інтэлектуальны, бо на парозе ўжо было XX стагоддзе, самы яго разгар, і таму проза В. Ластоўскага 20-х гадоў адчувала павевы новага мастацкага мыслення, звязанага з эпохай мадэрнізму. Тыя павевы мадыфікавала ўласная нацыянальная глеба, напаўнялі змястоўнасцю задачы новага беларускага адраджэння і адпаведныя гісторыка-культурныя асацыяцыі. «Лабірынты» — сплаў філасофска-культурных напрацовак (да ўсяго — мінітрактатаў па гісторыі сусветнай міфалогіі, народнай астраноміі, этнаграфіі) і мастацкай містыфікацыі гісторыка-міфалагічнага кшталту, духоўная аснова беларускай Крывіі, адна з першых фундаментальных мастацкіх канструкцый нацыянальнай канцэпцыі быцця.

Шмат у чым аўтабіяграфічнаму герою «Лабірынтаў» у круглай падземнай «салі» адкрыўся пракаветны алімп дахрысціянскіх продкаў: славянская Троіца і «сем галоўных сіл, уладаючых светам»: Кон (Конязь) з сімвалам сонца, Княжыч (Месяц) з сімвалам маладзіка, Ярыла з сімвалам Марса, Радзігост з сімвалам Меркурыя, Пярун-Грамавік, Грамавіца з сімвалам Венеры і Лада (Ладон) з сімвалам Сатурна. «Ніжэй гэтых сямёх асоб маецца дванаццаць сімвалаў, азначаючых дванаццаць знакаў Задыяка, а пад імі — чатыры вятры, бытуючыя на чатырох канцах зямлі <...> У самым нізе было <...> царства смерці, дом вечнай цемры з яго жыхарамі. На першым плане былі дзве галоўныя фігуры: Люцец, Люты (Pluto), або Кашча Бяссмертны, і яго жана — Марва».

Міфалагічныя, тэасофскія, фальклорныя, навуковыя і ўласна-мастацкія штудыі ў «Лабірынтах», па вялікім рахунку, былі скіраваны на асвятленне актуальных праблем сучаснасці, яны, як адчуваў і сам В. Ластоўскі, дапамагаюць раскрываць «сімвал пройдзенай народам гісторыі». «Нягледзя на тое, што даўно па-свойму рашыў Юпітэр зямельнае права, права гэта да сягоння несправядлівае. І будзе датуль актуальным, пакуль кожны народ не станецца гаспадаром у сваім краі, — наўпрост выводзіць В. Ластоўскі паралелі ў сваю рэальнасць, — пакуль кожны, хто палівае сваім потам загон, не будзе праўным, прызнаным і ўсвячоным правам яго валадаром. Гэты ж час ужо недалёк!».

Таму, думаецца, называць «Лабірынты» В. Ластоўскага ўтопіяй (як выказваліся некаторыя навукоўцы) можна толькі ў вузкалітаратурным значэнні, бо традыцыйная філасофская трактоўка паняцця ўтопіі — як мадэлі прыдуманага ідэальнага грамадства — аніяк не магла адпавядаць задумам і ідэям В. Ластоўскага, які, выпісваючы ў «Лабірынтах» мадэль-ідэал духоўнага і сацыяльнага ўладкавання сваёй краіны, хоць і з рамантычным, ідэалістычным флёрам, усё ж высільваўся пераканаць у непрыдуманасці, колішняй рэальнасці, фундаментальнасці вымалёўванай мадэлі быцця, пераканаць у яе трывалых падмурках, якія закладваліся цягам доўгіх стагоддзяў і працай (найперш духоўнай) многіх пакаленняў крывічоў-беларусаў. Менавіта адсюль у аповесці — шмат спасылак і зносак на навуковыя працы, «рэдактарскія» прыпісы, угрунтаваны тэрміналагічны апарат, насычанасць сімволікай, паняццямі міфалогіі, эзатэрыкі. Больш правільна, думаецца, пра «Лабірынты» трэба гаварыць як пра нацыянальную містэрыю, дзе апісаны народны духоўны космас і асноўныя вехі нацыянальнага культурнага станаўлення, як пра адмысловую нацыянальную практопію, створаную на аснове старажытнай беларускай гісторыі.

> **Крывія — на стагоддзе шырэйшая і на пакаленні багацейшая ў сваёй адраджэнска-эстэтычнай сутнасці мастацкая трансфармацыя беларускай нацыянальнай ідэі**

Калі бальшавіцкая дагматыка пачала, прафануючы, дапасоўваць беларускую нацыянальную ідэю да ідэалогіі прарасійскай БССР, некаторыя беларускія творцы (і адным з першых В. Ластоўскі), адчуўшы фальш і падман, сталі выяўляць нацыянальную ідэю ў вобразе міфічнай Крывіі. Крывія — тая міфапрастора, якую ўжо не маглі ні паланіць, ні скарыць аніякія чужынцы. Крывія для беларускіх творцаў — як вечны Акропаль для грэкаў. Крывія — і ўсё тыя ж духоўныя лабірынты, і духоўны супраціў, эміграцыя ў саміх сябе. Крывія — на стагоддзе шырэйшая і на пакаленні багацейшая ў сваёй адраджэнска-эстэтычнай сутнасці мастацкая трансфармацыя беларускай нацыянальнай ідэі, — у параўнанні з «лабірынтамі» творцаў XIX стагоддзя. Філаматы і філарэты, Адам Міцкевіч, Ян Чачот, Тамаш Зан і іншыя, у выглядзе ліцвінізма патэнтавалі адно своеасаблівую мутацыю старабеларускасці і нацыянальнай ідэі, «крывізм» жа на пачатку 20-х гадоў XX ст. рабіўся новай сімвалічна абгрунтаванай канцэпцыяй нацыянальнага быцця беларусаў.

Адной з частак аповесці «Лабірынты», яе ўмоўным працягам (ці, правільней, пачаткам) можна лічыць і «Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» В. Ластоўскага. Гэта — біблія крывіцкай душы, якая яшчэ раз «узаконьвала» думку аб тым, што «ісконе бе слово» і на пачатку кожнай нацыі была мова. Прадмова да «Слоўніка» В. Ластоўскага (па сутнасці — верш у прозе) стала шыфрам-ключом да ўсёй працы. У прадмове тэзісна выкладзена — па перыядах — уся гісторыя «Крывіі»: «На зарані гістарычных часоў наш народ выступае як сарганізаванае цэлае, нацыянальнае і палітычнае, пад найменнем Крывічы. <...> у перыёд ад прыняцця хрысціянства да запанавання новай, літоўскай дынастыі, наступае замяшанне ў паняццях: народ Крывічы, якім яго ўсе кругом называюць, хочучы адзначыць сваю прыналежнасць да хрысціянства ўсходняга абрадку, мяную сябе <...> Русамі, Руссю». Крыўска-рускую дынастыю, паводле Ластоўскага, у XIII стагоддзі змяняе літоўская, замест найменя «Крывічы» пачынае ўжывацца «Літва». Гэта — другі перыяд, «які трываў немаль да канца XVIII ст. <...> Дзяржаўна — Літва, па веравызнанню — Русь. Па гэтай старой памяці ў палуднёвых і ўсходніх паветах <...> дагэтуль наш народ называе сябе Літвінамі». Трэці перыяд у гісторыі развіцця беларуска-крыўскага народа, на думку В. Ластоўскага, быў літоўска-польскім, калі беларуская шляхта пачувалася патрыётамі літоўскімі, «а па культуры і веры мела сябе за палякаў». Пад расійскім панаваннем праходзіў перыяд чацвёрты — расійска-беларускі, калі «ад народу адпадае рэшта грамадскіх вярхоў, тонучы ў расійскай самадзяржаўнасці і называючы сябе <...> «рускімі»<...> Гэты перыяд замацаваў яшчэ адно найменне — Беларусы».

Распачынаючы новую хвалю беларускага нацыянальнага Адраджэння, В. Ластоўскі імкнуўся (у некаторых выпадках нават і праз містыфікацыю) выявіць канцэптуальныя першавытокі станаўлення нашай дзяржаўнасці, высвеціць да самых «каранёў» нацыянальную ідэю. «Цяперашняе нацыянальнае адраджэнне нашае пачалося не са старых абсохшых галін, а з каранёў народных, — пісаў ён у той жа «Прадмове». — <...> не выракаючыся культурных здабыткаў, прыдбаных у нашу нацыянальную скарбніцу пад найменнем «Русь», «Літва»<...>, хочучы быць самастойным славянскім народам, выносіць з гісторыі нашай і нашага народу на свет прастарое племяннае і нацыянальнае сваё найменне — Крывічы».

Сваю крыўскую ідэю В. Ластоўскі працягваў развіваць і ў навукова-папулярных артыкулах: «Крыўскі варыянт быліны аб Іллі Мурамцы» (1924), «Крыўскі (Беларускі) старадаўні лістоўны стыль» (1924), «Аб назовах «Крывія» і «Беларусь»» (1925). Апошні найбліжэй стаіць да згаданай «Прадмовы», датлумачвае і пашырае яе высновы: «Жаданне паставіць на годную вышыню імя «крывічы» лагічна выплывае з разумення адраджэнча-нацыянальнага руху <...>. Крыўскае адраджэнне ад сваіх першых пачаткаў мае на мэце злучыць разбіты гістарычнымі падзеямі вялікі і слаўны крыўскі народ духова і фізічна <...>. Як «беларусы» мы — толькі адбіццё агульнарускай індывідуальнасці, нейкі «промежуток и недоумок», але як «крывічы» — мы асобны індывідуум, асобнае славянскае племя са сваёй багатай мінуўшчынай, сваёй асобнай мовай, тэрыторыямі і духовай творчасцю».

Ідэі В. Ластоўскага ў многім прадвызначылі кірункі далейшага развіцця беларускай літаратуры. Крывія В. Ластоўскага займела сотні прадаўжальнікаў — як у тэарэтычна-навуковым, так і ў «практычна-літаратурным» увасабленні, займела сотні адданых «грамадзянаў»: ад узвышаўцаў У. Дубоўкі і У. Жылкі да літаратараў канца XX ст.

В. Ластоўскі ўпершыню ў беларускай літаратуры, узвысіўшыся над простай аналітычнай ілюстратыйнасцю, даў грунтоўнае, цэльнае і кампактнае ўвасабленне нацыянальнай канцэпцыі быцця, фундаментальнымі катэгорыямі якой выводзіліся міфалагічнае светабачанне, гістарычная самасвядомасць, актыўнае выкарыстанне дасягненняў традыцыйных навук (з пераважным акцэнтам культуразнаўчай галіны), родная мова і, як неадменны сацыяльны і культурны гарант, — незалежнае дзяржаўнае існаванне ў дзейсным сусветным узаемаабмене матэрыяльнымі і культурнымі набыткамі.

ВАНДРОЎКІ

# У КРАІНЕ КАМЯНЁЎ І ФІЁРДАЎ

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

## Пералёты

Дабіраліся мы ў Нарвегію з двумя перасадкамі і трыма авіяпералётамі. У Рызе доўга чакаць наступнага рэйсу не давялося. І дзякаваць Богу, бо нагрэты трыццаццю градусамі аэрадром дыхаў пякельнай спёкай. Нават вецер там быў гарачым, быццам у якойсьці Сахары.

Дацкі аэрапорт больш нагадваў рэспектабельны гандлёвы цэнтр з фірмовымі буцікамі і шматлікімі кавярнямі. Адны пасажыры спяшаліся на рэгістрацыю з чамаданамі на колцах, другія бавілі час за прысмакамі, размовамі або пакупкамі. Уражвала разнастайнасць людскога патоку, дзе прысутнічалі ўсе зямныя расы, прыцягвала пагляд упэўненасць і саліднасць мужчын у дарагіх касцюмах.

Пазней мы даведаліся, што з дацкага аэрадрома можна пабачыць Швецыю. Швецыя і Данія нашмат бліжэй для нарвежцаў, чым поўнач уласнай краіны, дзе карэннае насельніцтва — саамы. Тады нам было не да геаграфіі, бо стомленыя, пацёпваючыся ад ветру, гуськом і пешкі мы падаліся на пасадку. Усё было неяк пахатняму, па-простаму, як бывае на аўтастанцыях у мястэчках. Пасажыры ўжо не тыя, што на версе сацыяльнай лесвіцы, — выглядаюць цалкам дэмакратычна. Тым не менш, прыкметна, што карыстанне авіяпералётамі для іх — звычайная справа.

Чарговы борт належаў іншай, больш заможнай фірме, якая прапанавала жадаючым вячэру і нават выпіўку ў міні-пляшачках. Сусед маладзейшага з нашай дэлегацыі аказаўся украінцам, які перавучыўся і здабывае ў Нарвегіі газ. Ён лятаў на радзіму праведаць бацькоў. Хлопцы добра паразумеліся, гаворачы кожны на сваёй мове. Ад высознага сцюарда (як толькі месціцца ў самалёце?) упершыню пачула нарвежскую мову — мяккую, плаўную і зусім не падобную на нямецкую, хоць і адносіцца да германскай групы. Англамоўныя фармальнасці ніхто ўжо не захоўваў.

Над хмарамі яшчэ гралі апошнія праменні, але пры зніжэнні, прарэзаўшы воблачнасць, мы апынуліся ў вечаровым змроку. Пад крылом было фантастычнае відовішча: з блізкага мора выпіналіся круглыя, як шапкі грыбоў або як пухіры, чорныя выспы. Кожная такая выспа, усыпаная агеньчыкамі паселішчаў, сведчыла пра абжытасць людзьмі. Берагавая лінія захаду Скандынаўскага паўвострава на карце выглядае карункавай. Як быццам неадольная сіла падрала яе пры нацяжэнні на дробныя шматкі ды раскідала іх бліз берага.

Нарвегія — нагор'е з гнейсу і граніту. «Хто-небудзь лічыў, колькі ў вас астравоў?» — спыталася я на прыёме ў мэрыі горада Ставангера. Намеснік мэра хуценька пагугліў і выдаў лічбу: 240 тысяч з улікам зусім непрыдатных для жыцця. Здаецца, ён сам уразіўся такой колькасці. Дарэчы, мэрам у Нарвегіі з'яўляецца не старшыня выканкама, як у нас, а старшыня гарадскога савета. Але пра гэта, як і пра многае іншае, мы даведаемся пазней.



Гэта сапраўднае свята дэмакратыі, дзе кожная з асноўных партый прадстаўляла сваю праграму, дзе выступілі лідэры і кандыдаты ў парламент

## Дачы

Наша невялікая дэлегацыя з чатырох чалавек правяла ў Нарвегіі поўных пяць дзён. Нас прымала партыя-партнёр БХД — Хрысціянская народная партыя (KrF) з нагоды пачатку блізкіх парламенцкіх выбараў. Наш візіт пачаўся з усходняй часткі краіны, дзе нас размясцілі ва ўтульным дачным доміку. Знешне ён зусім някідкі, дашчаны, але аказаўся цалкам прыдатным для жыцця, з цёплай вадой і астатнімі зручнасцямі. Тэраса, дзе мы пілі ранішнюю каву, падперта сваямі, як і ў многіх іншых жылых будынках, і ўпісана ў навакольны рэльеф. Зусім блізка марская прастора з нязменнымі прыбярэжнымі астравамі. Да камяністага грувасткага берага падысці складана.

Участак мінімальнага памеру і не абазначаны. Вакол буяюць ядловец, глог, кашлатыя дубкі з круглымі малымі жaлудамі. Ніжэй па схіле ўзвышаюцца сосны. Цвітуць верас і скрыпень. Навакольныя катэджы ўпрыгожаны дэкаратыўнымі кустамі, кветкамі, абсталяваны дзіцячымі пляцоўкамі. Ні сабак, ні тым болей градаў мы не заўважылі. Як, зрэшты і жыхароў. Людзі сустрэліся толькі на далекаватым пляжным беразе, куды вядзе звілістая, з плаўным сыходам сцежка. Што некаторыя тут жывуць стала, сведчылі паштовыя скрынкі на пачатку вуліцы.

Дачны домік невядомага нам нарвежца пры ўсёй сваёй сучаснасці нагадваў маленькі музей. Драўляная — пад старызну — нелакаваная мэбля, мацерчаты дыванок на сцяне, паліца-выстава бабуліных талерак, старасвецкага выгляду завесы на вокнах, паліцы старых кніжак выдання 40-70 гадоў мінулага стагоддзя. Заўважце: літаратура ўсе — нарвежскіх аўтараў. І на стале — карта Нарвегіі з яе пасечанымі фіёрдамі берагамі.

## З усходу на захад

Праз два дні нас везлі з усходу на захад, агінаючы паўднёвую мяжу краіны, па звілістай дарозе з тунэлямі і абмежаваннем хуткасці да 70 км. Мэта нашага пераезду — нафтава-прамысловы горад Ставангер, цэнтр вобласці Рагаланд. Пры апытанні жыхароў горада, праведзеным партыяй, у якасці асноўнай праблемы яны назвалі якраз транспарт. Паромы цераз фіёрды хоць і надзейны від перамяшчэння, але марудны. Вось чаму не толькі пад скаламі, але і пад камяністым марскім дном пракладваюцца розная даўжыні тунэлі і дзейнічаюць 53 аэрапорты.

Па меры руху асобныя скалістыя глыбы ператвараліся ў сапраўдныя горы — альбо лысаватыя, альбо зарослыя лесам. Горы рабіліся ўсё вышэйшымі, вузкімі рукавамі ў далінах выцягнуліся не то азёры, не то рэкі. Там усё месціцца сярод каменю і чапляецца за яго: дрэвы, жывёлы, людзі… І ўсё, як ні дзіўна, выжывае і знаходзіць сабе нішу для існавання. Далей паабапал дарогі пачалі сустракацца статкі жывёл. Пераважалі рудыя або бела-рудыя, мясцовай пароды каровы. Авечкі не горш за козаў скакалі па россыпах валуноў. Успомніўся жарт эколага, пачуты там жа на семінары: «Калі ў Нарвегіі ўсяго 30 ваўкоў, то чаму так стогнуць фермеры?»

Фермы, напэўна, размяшчаліся ў зацішных, захінутых гарамі куточках, бо трактароў і іншай сельгастэхнікі на прыдарожных сядзібах не назіралася. Поўдзень краіны лічыцца прыдатным для развіцця сельскай гаспадаркі з-за ўмеранага вільготнага клімату і ўрадлівай глебы. Вышэй на карце размешчана самая паўночная кропка Еўропы, дзе сеюць жыта. Сельгаспалеткі забаронена займаць пад новабудоўлі. Каб падрыхтаваць глебу для выкарыстання, камяні выворваюць, як карняплоды, і выкладваюць на межах доўгімі буртамі. Мясцовы будаўнічы матэрыял шырока выкарыстоўваецца як у будоўлі, так і ў афармленні ландшафту. Падпорныя сценкі з колатых глыбаў, кветнікі ў атачэнні камянёў, абкладзеныя бутам дрэвы, эфектныя прыродныя гіганты ў межах паселішчаў, абыграныя архітэктарамі, — усім гэтым я не праставала дзівіцца і любавацца, бясконца шчоўкаючы з акна аўто сваім лічбавым фотаапаратам. Не паспееш адключыць і пакласці на калені, як адкрываецца новы непаўторны краявід з домікамі на верхатуры, рознага колеру скаламі, воднай паласой уздоўж трасы, ліловай палянай скрыпеню або тунэлем. Таварышы пасмейваліся з мяне: «У Галіны фотазалежнасць». Яны не ведалі, што ў мяне літазалежнасць: даўняя незразумелая ўлюбёнасць у камень ва ўсіх яго выглядах.

Яшчэ сотня кіламетраў — і новая змена рэльефу: як бы стаміўшыся ад уласнага цяжару, горы пачалі скідваць, ссыпаць з сябе каменныя крушні. Потым яны ўвогуле расступіліся, адкрыўшы вачам панараму горада, да якога мы рухаліся.

## Людзі і грамадства

Такую ж велічную панараму Ставангера назіралі мы з акна дома нашага апекуна, старшыні абласнога аддзялення KrF Улафа. Пакуль яго ветлая жонка гатавала традыцыйныя нарвежскія вафлі, мы распытвалі гаспадара. Сцены ўпрыгожвалі па-мастацку аформленыя здымкі сям'і: ад вясельнага да дзяцінкіх. Вось дзеці зусім малыя, вось падлеткі з усмешлівымі тварамі... Цяпер двое сыноў і дачка Улафа ўжо юнацкага ўзросту, становяцца на крыло.

Загаварылі пра нацыянальныя строі. Улаф прыносіць свой: з каракаватым чорным каптанам, аздобленым срэбранымі гузікамі, з камізэлькай, якая ўжо не захацела сыходзіцца на стане, з шарсцянымі гетрамі, што адзяюцца пад кароткія — да каленяў — штаны. Дзяўчаткам спраўляюць строі адразу пасля канфірмацыі. (Нагадаю, што нарвегі спавядаюць лютэранства.) Хлопчыкам — пазней, бо яны марудней растуць. Такі строй захоўваецца ўсё жыццё і лічыцца прадметам гонару.

Нам давялося назіраць старт выбарчай парламенцкай кампаніі ў двух абласцях каралеўства, якія на рускамоўным сайце чамусь называюць губернямі. Гаспадарам было пра што расказаць, нам было што паглядзець. Уразіла прэзентацыя партый на галоўнай плошчы горада Арэндаля. Гэта сапраўднае свята дэмакратыі, дзе кожная з асноўных партый прадстаўляла сваю праграму, дзе выступілі лідэры і кандыдаты ў парламент. І ніводнага «стража парадку»! Нават для прыліку ніхто не тапталіся з дубінкай ці без…

На прыёме ў мэрыі горада Ставангера мы пацікавіліся сістэмай адукацыі. За тры старэйшыя класы сярэдняй школы бацькі даплочваюць невялікія грошы. Вышэйшая адукацыя цалкам бясплатная, пры гэтым студэнты не атрымліваюць стыпендыі. Школьнікі да 15 гадоў бясплатна карыстаюцца транспартам, студэнты маюць на праезд льготу. Прадугледжана навучанне для зняволеных і для тых, хто працяглы час знаходзіцца ў шпіталі.

Сацыяльная абароненасць моладзі мае свае мінусы: даволі частыя выпадкі, калі школьнікі не заканчваюць вучобу. А пасля, як хтосьці пажартаваў, «тры гады гуляюць у камп'ютэр і атрымліваюць за гэта грошы». Іх пасля цяжка сацыялізаваць.

Вобласць Рагаланд, дзе хрысціянскія дэмакраты маюць найбольшую падтрымку, лідзіруе па тэмпах росту насельніцтва і таму мае дадатковае месца ў парламенце. У апошнія дні нашага гасцявання мы наведалі раён Цюсвар, што размешчаны на востраве. Дабіраліся туды цераз два падводныя тунэлі, потым на велічным няспешным пароме, пасля цераз некалькі астравоў, злучаных мастамі, дзе горы (ну як жа без іх?) густа параслі рабінамі, ядлоўцам і верасам.

Згодна рэйтынгу ААН, Нарвегія знаходзіцца на першых пазіцыях сярод самых шчаслівых краін свету. І сапраўды — я не ўбачыла панурых твараў, патухлых вачэй, апушчаных галоў… Узіраюся ў твары сустрэчных, адказваю ўсмешкай на зычлівыя ўсмешкі незнаёмых людзей. Мне падалося, што нарвегі падобны да славян. Нашчадкі вікінгаў, зразумела, высокага росту. Жанчыны трапляюцца з ільнянымі, плацінавага адцення валасамі. Дзеці з доўгімі бялявымі кудзёркамі ўвогуле выглядаюць анёлкамі. У параўнанні з еўрапейцамі тут меншая разнастайнасць па росце, камплекцыі і «масці». Часта можна бачыць бацькоў з дарослымі дзецьмі, якія кудысьці ідуць або едуць, пры гэтым узнікае адчуванне іх еднасці, цеснага і цёплага душэўнага кантакту.

Кідаюцца ў вочы старыя людзі, якія з суправаджэннем альбо самастойна перасоўваюцца ў самаходных калясках. На выбарчы ўчастак у Ставангеры, дзе папярэдняе галасаванне пачынаецца за месяц, першымі прыйшлі мясцовыя сухенькія пенсіянеры. Стэндаў яны не вывучалі: кожны ўжо вызначыўся, каму аддаць свой голас. Мы спыталі пра назіральнікаў. Аказалася, што нікога з прэтэндэнтаў на заканадаўчую ўладу не хвалюе, хто там увайшоў у выбарчую камісію. Назіранне па сутнасці фармальнасць, па тасоўкі там немагчымыя ў прынцыпе. У наступным годзе будзе адзначацца юбілей — двухсотгоддзе нарвежскага парламента. «Слабы пол» дапусцілі да галасавання ў 1907 годзе, а праз чатыры гады ў парламент была абрана першая жанчына. За столькі гадоў напрацавана пэўная палітычная культура, у параўнанні з якой няпісаныя правілы правядзення выбараў у Беларусі выглядаюць дзікасцю і перажыткам мінулага.

Увогуле, нам давялося шмат супастаўляць і параўноўваць. І параўнанні, на жаль, былі не на карысць нашай дзяржавы...

ВЕРШЫ

# ПТУШКІ БЕЗ НЕБА

Леанід ГАЛУБОВІЧ



***

*Майсея на рэчцы ў кашолцы знайшлі,*
*Ісуса ж — у яслях, травою напханых…*
*Божа, яшчэ нам каго Ты пашлі,*
*пакінь у разораным радзе бульбяным.*

*Мы ўсе сцераглі тут і ўдзень і ўначы*
*Слова Тваё праз Майсея й Ісуса,*
*аднак жа Твой Дух не змаглі зберагчы —*
*і ў пройме душы цяпер змрочна і пуста.*

*Мы тут парадніл і зло і дабро,*
*казанні прарокаў і пракурораў.*
*Белае з чорным змяшалі. Таўро*
*шэрасці гіблай — над нашай прасторай…*

*Божа, пашлі нам нарэшце таго,*
*хто не дапусціць душы ўкрыжавання,*
*а, назапасіўшы Духу Твайго,*
*верне жывым чалавечае званне.*

*Чым за габрэяў мы горшы народ —*
*змучаны, збіты, нямы, распластаны?!*
*Божа, пашлі яго ў гіблы наш род,*
*хай ён у полі бульбяным паўстане.*

***

*Калі б мяне вы ведалі дазвання*
*і калі б вас дазвання ведаў я, —*
*то мы не мелі б на зямлі адхлання,*
*былі б клубком гідлівым гадаўя.*

*Мне скажуць: пра сябе ты думаць можаш,*
*што хочаш, а пра іншых — памаўчы;*
*вялікі досвед толькі смутак множыць,*
*ад выраку ж зямнога не ўцячы.*

*Прашу вас не палохацца дарэмна,*
*бо тых заган не ўведае ніхто,*
*якіх мы і на споведзі таемнай*
*дарэшты не адкрыем нізашто.*

*Але жыццё яны вядуць да скону*
*і выявяцца ўсе ў апошні час,*
*хоць і не мы адкрыем іх заслону, —*
*яны адкрыюць перад Богам нас.*

***

*Запахла зялёнай крывёю травы…*
*І бензакасільшчык дастаў*
*цыгарэту.*
*Ну, колькі, пытаю ў яго, —*
*гавары! —*
*скасіў ты жывога цвітучага*
*свету?!*
*Ён пашпарт тэхнічны з кішэні*
*дастаў*
*і з ЖЭСам дамову ў падцёках*
*саляркі…*
*І больш анічога ў адказ не сказаў,*
*абдаўшы чарнільным душком*
*пралетарскім…*

*Касілка стальная дымела й раўла,*
*пакуль запацелае сонца не села, —*
*і там, дзе шумела жывая трава,*
*пад небам ляжала знямелае сена…*

*Я розумам ведаў і лад і намер*
*прыроды зямной і прагрэс*
*чалавечы,*
*а дух мяне ўсё-такі ўзносіў наверх,*
*дзе прагла злучыцца часовае*
*з вечным…*

*Туды, дзе трава зелянее штодня,*
*і ў ёй той касільшчык цвіце,*
*цверазее,*
*дзе Госпад касуе ўсе нашыя Я,*
*і семя адзінства нятленнае сее…*

***

*Я жыць не наперад спрабую,*
*— назад.*
*Не важна, што будзе, а — што засталося…*
*Ужо састарэў мной пасаджаны сад*
*і ўсё, што ў ім спела, здзічэла й звялося.*

*Не надта цікавіць тэхнічны прагрэс,*
*ні рэтра-майстры, ані новыя песні.*
*Маленства майго спілавалі ўжо лес,*
*бабуль і бацькоў на пагорак аднеслі…*

*За дзень учарашні аддаў бы ўсе дні,*
*наканаваныя мне ў гэтым свеце.*
*О Божа, хоць Ты гэты час павярні*
*чалом да жыцця, а не страхам да смерці...*

*Нішто не вяртаецца зноўку назад*
*з таго, што сыходзіла нават ад Бога…*
*І толькі ўва мне ажывае мой сад,*
*і лес, і бацькі, і ўсе згадкі былога…*

***

*Не помню радасці вялікай,*
*як і бяды, каб скрозь гняла,*
*бо Той, хто жыць мяне паклікаў,*
*не аддзяліў дабро ад зла…*

*Ён настаўляў і сарамоціў,*
*і выпрабоўваў, і скараў,*
*я ж, па прымусу ці ахвоце,*
*як забароненае, краў*
*жыцця наспеласць і прынаднасць,*
*не ўсведамляючы таго,*
*што не жыву Яму на радасць,*
*а прагну кары ад Яго…*

*Не проста кары за учынак,*
*а — справядлівасці за ўсё,*
*што я займеў тут грэшным чынам,*
*каб апраўдаць сваё жыццё…*

***

*Столькі звілістых сцежак*
*у гэтым лесе,*
*нібы карункаў на начной кашулі*
*каханай…*

*А грунтавая дарога*
*да патрэбнага месца —*
*адна.*

*Навошта ж тады пратаптана*
*столькі сцежак?*

*Каб кожны мог адчуць*
*асалоду ўласнага шляху…*

## У маміным часе

*У спусцелай хаце бацькоўскай*
*начую.*
*Пакуль заснуў —*
*з былымі гаспадарамі*
*пагаманіў, пасамоціўся…*
*Гэта ж колькі не бачыліся?!*
*А ранкам,*
*нібы ў юнацтве,*
*з ложка ўсхапіўся*
*на звон даёнкі —*
*мама! —*
*зноў апярэдзіла*
*мяне і сонца…*
*Выскачыў на ганак настылы —*
*няма яе ні ў хляве, ні ў двары…*
*У вушах толькі звон далёкі*
*яе даёнкі…*
*Толькі — звон…*
*Але ж я не сплю*
*і гэта не сон…*
*Во, і ног сляды*
*на зарошанай сцежцы,*
*але — куды?!*
*Не паспяваю за маміным часам —*
*праспаў яго,*
*як заўжды,*
*й гэтым разам…*

## Паміж зямлёй і небам

*Выгульваючы сабаку*
*ў лясной зоне Зялёнага Лугу,*
*стаў заўважаць,*
*што вакол пратаптанай*
*людзьмі сцяжыны*
*снуюць шэрыя купчастыя птушкі:*
*яны ўспырхваюць амаль з-пад ног,*
*і зноў садзяцца непадалёк…*

*Я не ведаю,*
*як іх называюць,*
*толькі памятаю,*
*што ў дзяцінстве*
*мы вылоўлівалі такіх у старых пнях*
*наўзбоч лясное дарогі,*
*дзе яны гнездавалі…*

*Птушкі, што страцілі неба,*
*не прыжыўшыся на зямлі…*

*Калі я ўсё ж паэт,*
*то чаму так падобны да іх?!*

## На Радаўніцу

*Я куплю на вакзале,*
*дзесь нарваных у лесе,*
*два букеты канвалій*
*на магілы Алесям.*

*З'езджу да Асташонка,*
*побач — да Пісьмянкова*
*(там Алесева жонка —*
*цень яго — і нікога)…*

*Госпадзе наш Ісусе,*
*дай іх вольнаму духу*
*ў небе над Беларуссю*
*сум развейваць і скруху.*

*Каб і проза Алеся,*
*як і вершы Алеся,*
*бы канвалії ў лесе,*
*не сканалі ў аскезе.*

*Мне, нямеючы словам,*
*горка й цяжка маральна*
*чарку за Пісьмянкова*
*піць з вадой мінеральнай,*
*як і за Асташонка…*

*Тут, каля іх магілаў,*
*помніць мая пячонка*
*ўсё, што душа забыла…*

**2011–2013 гг.**

ФРЭСКА

# КАМАРЫК

Барыс ПЯТРОВІЧ


Фота М. Сёдэрберг

## 1.

…некаторыя камары жывуць і паміраюць, так і не пакаштаваўшы смаку крыві…

я не разгубіўся — злавіў гэтую думку, як матылька ў сачок, і яна адразу ж забілася ў непакоі: а ці праўда гэта?

я спыніўся: ці можа такое быць?

бо мы прывыклі лічыць камароў крывасмокамі… усіх

бо ідэальнай з пункту гледжання, скажам, жыхара камарынага краю беларуса-палешука, павінна быць іншая, адваротная выснова: ніводзін камар не памірае, не выпіўшы хоць бы кроплі крыві… бо тым самым ён выканае сваё прызначэнне, сваё наканаванне, бо іначай — навошта ён прыходзіў у гэты свет?

адказ знайшоўся адразу: праўда… можа! можа такое быць: кроў п'юць толькі самкі, а бедныя самцы нават і не думаюць піць чужую кроў, бо харчуюцца сокам раслінаў… і так і паміраюць, выканаўшы хіба адно сваё прызначэнне, асноўнае: працягнуць род

і зноў жа — не ўсе…

няшчасныя істоты?

а можа, наадварот — шчаслівыя

бо нікога: ні чалавека, ні жывёлу не зачапілі сваёй прысутнасцю на гэтым свеце, нікому не тое што болю не прычынілі, а нават «не сапсавалі настрой»…

і падумалася, як працяг, іншае: а ці ёсць людзі, якія паміраюць, не забіўшы ніводнага камара…

так: не забіўшы нікога — нават камара

не растаптаўшы мураша ці нейкую іншую казюрку

не саграшыўшы…

няўжо знойдзецца той, хто пагодзіцца з гэтым? памятаеце: хто не грэшны, хай першы кіне ў мяне камень…

ці можна пражыць на зямлі (так і хочацца сказаць — на гэтай грэшнай зямлі), не прычыніўшы зла нікому і ніколі?

зноў жа — не саграшыўшы?

я чую ў маўчанні, што вібруе ў цішыні навакольнай, адказ: не, немагчыма…

можна хіба толькі не нарадзіўшыся

але ж і гэта таксама камусьці грэх…

## 2.

значыць, мы нараджаемся, каб грашыць…

ад першага крыку да апошняга выдыху нас суправаджаюць грахі нашыя

што большы грэх: забіць чалавека, забіць котку ці забіць мураша?

не — гэта страшна, лепш скажу так: што большы грэх — пакрыўдзіць чалавека, пакрыўдзіць котку ці пакрыўдзіць мураша?

але — ці можа ўвогуле грэх быць большым альбо меншым?

не ў сэнсе велічыні, памераў пакрыўджанага (забітага) альбо самой крыўды, а —

ці ёсць розьніца: забіць наўмысна, з асалодай усведамлення таго, альбо зусім не жадаючы — растаптаць мураша між іншым, у кідку радасці да знойдзенага баравічка: мураш таксама некуды спяшаў, таксама жыў нейкаю надзеяй, поўз у гэтым лесе з пэўнаю мэтай, а ты яго растаптаў і не заўважыў нават…

вынік то адзін: забойства

зноў маўчанне: не чую ні слова, відаць, занадта дробную праблему закрануў — усяго толькі праблему жыцця і смерці

…жыцця і смерці…

для камара ты — крыніца жыцця, дык дай яму напіцца тваёй крыві, зрабі ласку, зрабі дабро, пацярпі, перацярпі — ад цябе ж не ўбудзе — і адпусці яго… а ты — хлоп! і забіў… навошта? і кроў твая размазалася клейка па руцэ, нікому непатрэбная цяпер…

ты думаў забіць камара на шчасце, а даў сам сабе поўху

дык як жыць, каб не грашыць? нават выпадкова…

каб толькі рабіць дабро — між волі і наўмысна

не выйдзе…

я жыву сярод людзей і заўважаю, што найчасцей за маё дабро яны плоцяць злом: ты добры, значыць, ты слабейшы;

значыць, цябе можна падмануць, ударыць, пакрыўдзіць: можна сесці табе на галаву…

такая вось аддзяка ад людзей

і ці адзін я — грэшны! — так думаю?

**Мажліва, якраз яно, паверхнёвае, і ёсць тою самаю праўдаю праўд, якую не трэба шукаць далёка, якая заўсёды побач, заўжды з намі...**

мажліва, я памыляюся — я хачу верыць, што памыляюся, я сябе пераконваю, што памыляюся: людзі добрыя і спагадлівыя, толькі не ўсе яны ведаюць пра гэта…

## 3.

пачынаецца ўсё з расціснутага камарыка ці мураша, а заканчваецца вайной між дзяржавамі, на якой гінуць спачатку тысячы, а потым мільёны не камарыкаў, не мурашоў (іх увогуле ніхто не лічыць, калі падаюць бомбы) — людзей

беспакаранасць у маленькім граху спараджае надзею на беспакаранасць у вялікім: калі можна забіць аднаго камарыка, значыць, можна забіць і тысячы

чалавека можна забіць за тое, што ён — вораг (іншадумец, іншаверац, чужаземец…)

ніводная рэлігія не аспрэчвае гэта: зло павінна быць пакарана, а што вораг — зло, не сумняваецца ніхто, і словы пра падстаўленую другую шчаку забываюцца імгненна, калі гэта тычыцца не сябра, а во-ра-га

хто для яго «вораг», вызначае той, хто забівае — і ў гэтым першая несправядлівасць

і спакуса:

калі можна назваць ворагам і забіць аднаго чалавека, значыць, можна забіць мільёны

ворагаў — гэта значыць: іншаверцаў, іншапляменцаў

ці проста тых, хто перашкаджае табе ісці да прыдуманай табою мэты (да шчасця тых, хто пакуль не разумее, што ты іх вядзеш да шчасця), незалежна ад іх колеру скуры і веры, незалежна ад таго, жывуць яны на бліжнім востраве, у памежнай краіне ці ў суседнім доме, у суседскай кватэры…

і калі Бог не карае забойцу за тысячы (мільёны) знішчаных па дарозе прыдуманага ім шчасця, а дазваляе дажыць да васмідзесяці, да ста гадоў, значыць, ён усё рабіў правільна, значыць, ён дагадзіў Яму — так, відаць, думае забойца і жыве ў цялесным спакоі…

ніхто не ведае, што думае Бог і чаму ён дае мажлівасць ка´ту памерці сваёй смерцю — чаму дазваляе тырану, які пусціў рэкі чалавечай крыві ў акіяны слёз, дажыць да спачувальнай старасці

што яго, забойцу мільёнаў, чакае там, куды ён, урэшце, пойдзе? калі ён прыйдзе туды, куды адправіў па дарозе да ўяўнага шчасця (а аказалася — толькі дзеля захавання сваёй улады і ўласнай скуры…) мільёны суайчыннікаў і нічыіх ворагаў?

мы не ведаем, колькі б нас ні палохалі пеклам

ён сам не ведае таго — і толькі ў гэтым ягоны спакой тут…

## 4.

камар можа пражыць сваё камарынае жыццё, не саграшыўшы: так і не выпіўшы ні кроплі крыві (зрэшты, зноў пытанне: хіба можна лічыць грахом тое, што наканавана табе ад прыроды, тое, што ўласна і падтрымлівае тваю душу ў целе?)

камар можа… пэўна ж, можа пражыць — насуперак сваёй прыродзе, можа, калі народзіцца не ў горадзе сярод людзей і не паблізу вёскі, а ў далёкай бязлюднай і безжывёльнай тундры

мураш можа пражыць без граху

дык а чаму ж тады чалавек не можа?

пачакайце, не пераконвайце: не веру, што не можа

бо мы й з'явіліся тут, на гэтай планеце, каб навучыцца ўрэшце рэшт жыць і не грашыць

думаю: канец свету прыйдзе менавіта тады, калі чалавек — усе чалавекі! — зможа жыць, не грашыўшы

у добрым сэнсе — канец свету

бо гэта будзе не канец, як мы яго разумеем, — а пачатак чагосьці новага, абсалютна новага —

магчыма якраз таго, што ўласна і называецца жыццём

## 5.

не думаў, зусім не думаў, пачынаючы пісаць, што мяне панясе ў псеўдафіласофію — у агульначалавечае, так бы мовіць (ці агульнакамарынае…)

хацеў скласці просценькі тэксцік з некалькіх сказаў, асновай якога была «прыгожая» думка, што ёсць на свеце камары, якія паміраюць, так і не пакаштаваўшы смаку крыві… (і тым самым нібыта не выканаўшы сваё прызначэнне ў нашым разуменні іх як крывапіўцаў)

а атрымалася чарговая банальшчына пра людзей… (а ў чым, уласна, прызначэнне людзей на зямлі? няўжо, каб выжываць, забіваючы? няўжо, каб перамагаць, знішчаючы? няўжо, каб грашыць дзеля… ды няважна чаго дзеля…)

але хто сказаў, што банальнае і паверхнёвае не можа быць ісцінай? (бо менавіта самае простае ўбачыць найцяжэй, і, як паказвае гісторыя, найчасцей яно бывае самым дакладным і правільным)

мажліва, якраз яно, паверхнёвае, і ёсць тою самаю праўдаю праўд, якую не трэба шукаць далёка, якая заўсёды побач, заўжды з намі...

так — пакуль нараджаюцца і лятуць да нас камары, пакуль паўзуць некуды па сваіх справах мурашы, пакуль не перавяліся на зямлі грэшнікі, пакуль зямля круціцца…

«пакуль зямля яшчэ круціцца»…

у кожнага з нас ёсць шанец спыніцца і задумацца:

чаму, дзеля чаго я (ты, ён, яна, мы…) з'явіўся на гэты свет?

і прыйсці да высновы:

мо якраз дзеля таго, каб не забіць, а напаіць сваёю крывёй хоць бы аднаго камара…

і тым выканаць сваё прызначэнне

## 6.

дык ці ёсць на свеце камары, якія так і паміраюць, не пакаштаваўшы смаку крыві?

любы, трохі дасведчаны, чалавек адкажа вам адназначна: вядома ёсць… і параіць, калі вы яшчэ гэтага не зрабілі, набраць у інтэрнэце слова «камар», каб даведацца ўсё пра гэтых малых смактуноў

і тады пацвердзіцца, што кроў п'юць толькі самкі, а бедныя самцы нават і не думаюць піць чужую кроў, бо харчуюцца сокам раслінаў…

і тады апынецца, што ёсць на зямлі благаславенныя мясціны — рай для людзей, дзе (цяжка паверыць) увогуле няма камароў: астравы Новай Зеландыі

аднак, не ўсё гэтак бяскрыўдна, як можна падумаць

на Каўказе, ад аднаго грузіна, я пачуў міф пра беларускіх партызанаў, якія прыдумалі найжорсткае пакаранне для фашыстаў і здраднікаў: пакідалі іх на ноч голых і звязаных каля балота: камары высмоктвалі да раніцы з іх усю кроў, і яны паміралі пакутніцкай смерцю…

тут, на Беларусі, я нічога такога не чуў, праўда, некалі чытаў у нейкай кнізе, што такое рабілі японскія захопнікі-самураі ў Кітаі ды на Халкін-Голе

і тады высветліцца, што ад укусаў камароў, ад бяскрыўдных камароў, памірае ў свеце больш людзей, чым ад СНІДу, раку, іншых хваробаў, чым у аўта- і авіяварыях, чым цяпер на войнах, што раз-пораз недзе адбываюцца, бо камары пераносяць невылечныя захворванні і надзяляюць імі ўкушаных людзей…

не ўсё так проста, аказваецца, на гэтым свеце

але — і не ўсё так прыкра

фільм «Парк юрскага перыяду», памятаеце, заснаваны на тым, што дыназаўраў кланавалі з кропелькі крыві, якая захавалася ў камары, «мумізаваным» у бурштыне

а таму — падумайце, перш чым забіць камара, які вырашыў падхарчавацца вамі, магчыма, прызначэнне камароў у тым, каб уратаваць чалавецтва ад знікн…

зрэшты, рабіце высновы самі

## 7.

кропка — тэкст на гэтым скончаўся…

але

мяне затрымала і не адпускала слова «камар», бо я згадаў раптам, што вулічная мянушка нашага роду ў вёсцы была (і ёсць) Камаровы

у палескіх сёлах, дзе часта на некалькі сотняў, а то і тысячаў, жыхароў усяго два-тры (чатыры-пяць) асноўных прозвішчаў — такое звычайная рэч, каб адрозніць усіх цёзак Пятроў Іванавічаў ды Сяргеяў Уладзіміравічаў

у вёсцы гэта спрацоўвала, а калі, да прыкладу, маім аднакласнікам Дземідзенкам Віктарам Міхайлавічам, якіх у школе адрознівалі якраз па клічках, давялося ехаць у ваенкамат, то там вымушаныя былі іх называць аднаго сынам Марыі, другога сынам Наталлі, а трэцяга сынам Тамары…

пашанцавала: у іхніх маці былі розныя імёны

у маім класе Сачанак было шасцёра — і ўсе не радня, бо карані сваяцтва — якое, безумоўна, было — згубіліся недзе ў мінулым, але, дзякуй Богу, ва ўсіх нас былі розныя імёны, і таму нас не блыталі

дык вось, мянушка нашая вясковая была Камаровы, і адпаведна бацька мой быў Пятро Камароў, а я — Барыс Пятра Камаровага, а мама — Маня Пятра Камаровага

дарэчы, недзе напрыканцы пазамінулага стагоддзя ў вёсцы з'явілася і афіцыйнае прозвішча Камароў — п'яны бацюшка, вянчаючы брата майго прадзеда, спытаўся, як яго завуць — і ён адказаў па-вулічнаму: Алесь Камароў; бацюшка так і запісаў яго ў сваёй кнізе, і цяпер мае стрыечныя браты па мужчынскай лініі (па мячы) не Сачанкі, а Камаровы

(камар і сачок на пачатку тэксту — аказваецца, невыпадковае спалучэнне…)

найважнейшае слова тут — у гэтым дадатку — Камароў, ці — Камар, як часцей скарочана называлі кожнага з нас паасобку — бацьку ці мяне, іншых з нашае радні, і была гэтая мянушка крыўднай-крыўднай, і не адзін абазваны так Камар біўся ў кроў з нейкім Шундзікам ці Лапласам (таксама вясковыя мянушкі — Кашперкаў ды Іваненкаў), хоць, здавалася б, нічога крыўднага ў ёй, гэтай мянушцы, няма…

## 8.

а цяпер, каб канчаткова заблытацца, перачытайце ўвесь гэты тэкст са словам камар з вялікай літары.

кропка

САНЭТЫ

# ЗНАКІ ЗАДЫЯКА

**Фёдар ЯСТРАБ**



***

*Вятры вякоў сівых, як лістагоны,*
*Штось замятуць да зімаў, кінуць ніц,*
*А дзесь аголяць праўду таямніц,*
*І зашумяць пагрозлівыя кроны.*

*Нічога вечнага — і нават троны*
*Скідаюць седакоў у тло цямніц;*
*Усіх час выбіў са сваіх байніц —*
*Не зратавалі скарбы і кароны.*

*Мільярды душ, прайшоўшых па зямлі,*
*Зрабіўшы штосьці, у яе ляглі…*
*Каго з іх памяць наша зберагла?*

*Было заўжды пад неба сутарэннем:*
*Даруе Час іскрыстае імгненне —*
*Была пустэча, будзе зноў імгла…*

***

*Ночы, як знічкі, і дні-скараходы*
*Прамільгацяць і губляюцца дзесьці,*
*Быццам з мінулага цьмяныя весці:*
*Аэрапланы, аўто, параходы,*

*Модныя дамы, мужчынскія кепкі,*
*Тлумны натоўп увесь дзень на вакзале —*
*Час неадступнае сальта-мартале*
*Жудасна круціць, шугаюць аскепкі*

*Жыццяў далёкіх, усімі забытых,*
*Бедных, багатых, важных, нікчэмных,*
*Схімнікаў, злодзеяў і каралёў…*

*Колькі іх там, у магілах зарытых,*
*Хіба іх шлях быў настолькі дарэмны?*
*Хіба падзяка — грудок між палёў?*

***

*Калі цябе адольвае маркота,*
*Яе, як злую фею, прагані*
*І запалі тры свечкі, тры агні,*
*І хай агнём напоўніцца істота.*

*Агонь атуліць, напаўзе дрымота,*
*І ўбачыш сон: ты на гнядым кані*
*Ляціш туды, дзе сонца прамяні*
*Цябе аблашчаць, агарнуць пяшчотай…*

*Ах, сон — збавенне ад зямных турбот*
*І невыказны лёгкасці палёт,*
*І вобразаў размытых дух сакральны!*

*А можа і не сон, а іншы свет,*
*Ён побач, ды яго не знойдзеш след,*
*І можа, гэты свет — такі ж рэальны?!*

***

*Бывае нейкім днём, калі турботы,*
*Нібыта злыя ў спёку авадні,*
*Так дапякаюць, хоць з маста сігні…*
*Няўжо нас Бог стварыў дзеля работы?*

*Я не ў сябрах адвечнае ляноты,*
*Але, калі вячэрнія агні*
*Завуць прывабна — Божа барані,*
*Да спраў быць прыкаваным без ахвоты.*

*Жыццё — не толькі для работы кут,*
*І я не конь, каб надзяваць хамут:*
*Ёсць для работы час, а ёсць — для свята.*

*Жыццё адно — я два не пражыву.*
*Калі мне Бог назначыць рандэву,*
*То не хачу прад ім стаяць гарбатым!*

***

*Душой не стану спакваля крывіць,*
*Бо не хачу духоўнае растраты,*
*І так, напэўна, гэты час пракляты…*
*Яго пакуты як нам перажыць?*

*І сэрца рванае за ўсіх баліць —*
*Да часу гэтага Хрыстос распяты.*
*А новы век… Ён запісаўся ў каты,*
*Згубіўшы дзесьці Арыядны ніць.*

*Гартаеш лёсаў жоўклыя старонкі,*
*На іх нажывы дух крывава-звонкі…*
*Я думаю, што гэта й нам прысуд.*

*Гібее Вера, і заўсёдна рады,*
*Хто сее зерне нечаканай здрады,*
*І падрастае дзесьці новы Брут.*

***

*Над галавой тваёю — знакі Задыяка…*
*Плёў сетку зорную мільярды год павук,*
*Каб метак-зорак лёсаносны перагук*
*Накрэсліў шлях твой рысаю*
*сакральнай знака.*

*То не карцінка дзіўная пад слоем лака,*
*Не штосьці раз і назаўсёды — быццам з рук*
*Даюцца варыянты. Не пазбегнуць мук,*
*Калі не зробіш выбар. Выбар — ёсць адзнака.*

*Ты скажаш: «Што за глупства,*
*выпадковасць гэта!*
*Мы самі па сабе. Прычым дыктат Сусвету?*
*Яму якія, зрэшты, справы да мяне?»*

*Як быццам бы і праўда: ты —*
*фантом, імгненне,*
*Але табой калісьці кінутае зерне*
*Узыдзе і ў Сусвеце нешта закране!*

СЯБРЫНА

# СВЕТЛАСЦЬ СЛОЎ

**Алексій КАНАНЕНКА**

***

*Мая памяць жыве ад мяне асобна.*
*Мая памяць — іанакшы чыннік.*
*На ёй — старэнькі мой плашч зялёны,*
*Мае чаравікі і мой гадзіннік.*

*На ўсё астатняе я забыўся,*
*А вось гадзіннік мой — неаспрэчна,*
*Ён у мінулым годзе спыніўся,*
*Я вырашыў, што навечна.*

*Аж бачу, памяць па ім звярае*
*Мае секунды, мае гадзіны,*
*Мае надзеі, сумоты, страты,*
*Мае здабыткі, мае правіны.*

*Чаму ж блукае па свеце памяць?*
*Чаму мы з ёю ніяк не разам?*
*Маю цыгарку нахабна паліць,*
*Мой час пільнуе… З якога часу?*

*Знайду нябогу, схаплюся ўпарта:*
*— Вось і сышліся! Бо ўсё сышлося!*
*Мо, годзе бегаць? Хадзем дахаты!*
*Прашэпча памяць:*
*— Пайшлі — у Восень…*

***

*Я ўпаў у снег.*
*А воўча зграя*
*Хрыпіць*
*За міг якісь*
*Ад майго цела — ласы падвячорак…*
*Я — мяса.*
*Не адпрэчыць вечны боль.*
*Боль першасны,*
*Пякельны боль,*
*Пячорны.*
*Я прыпыніў шалёны бег.*
*Упаў у снег…*
*Чаго хацеў?*
*Чакаў якой хвіліны я?*
*Не ведаю.*
*Ваўкі сягоння будуць сытыя.*
*Надоўга?*
*Яшчэ трымцела*
*Гарачае цела…*
*Сагрэты,*
*Раставаў паволі снег…*
*Набегла зграя…*

**Галіна ТАРАСЮК**

## На Сёмуху дождж

***Алаізію Вальдану***

*Хтосьці збіраўся ў царкву,*
*ды не мае грошай на свечку,*
*вось і глядзіць у вакно*
*на сумна-зялёны дождж,*
*густы і ціхі, як трава ў садзе,*
*і баіцца прызнацца Богу,*
*што і на хлеб няма.*
*З варот насупраць,*
*падмінаючы дождж,*
*выпаўзае шыкоўнае аўто.*
*«Бог яго любіць», — думае той,*
*хто на свечку не мае,*
*пра таго,*
*хто ў чорным лімузіне.*
*Нядзеля, Сёмуха. Дождж.*

***

*Воля Твая бязмежная*
*і мілата Твая*
*у небе самотна мерзне*
*крык жураўля*

*у небе самотным небе*
*колькі самоты тут*
*маланак чорныя сцяблінЫ*
*дзікай сінню цвітуць*

*даўка й дрыготка льецца*
*з вечнасці светласць слоў.*
*Божа, гэта завецца*
*спаміж людзей любоў*

## Жаночая логіка

*Чалавецтва жыве па законах*
*Мужчынскай логікі.*
*Прырода — па законах жаночай.*
*Таму яна не ведае,*
*Што такое безвыходнасць.*
*Безвыходнасць перад смерцю.*

**Алеся САНДЫГА**

## Людміла

*Людзям мілай была,*
*як магла, так жыла, існавала.*
*Ці снавала над сонцам, заснула і*
*і раптам за вокнамі ноч.*

*і стаіць, як пустая, забытая хата,*
*на яе белых сценах*
*курчавы хлапчыска-вандал,*
*купідончык, ісусік ці, можа,*
*маленькі Валодзя Ульянаў і*
*хто разгледзіць у прыцемку і*
*напісаў, што ты, Людка, дурніца,*
*а тады ў сініх шыбах*
*выбіў каменем чорныя зрэнкі-прагалы.*

*Людзям мілай была, як магла,*
*так жыла, існавала,*
*Ці снавала над сонцам, заснула і*
*аж раптам за вокнамі ноч.*

*І ляжыць, быццам дрэва паміж берагамі,*
*і паўзуць праз яе мностввы шэрых гадзюк.*
*Ах, Афелія, то ж над табою*
*серабрыста стракозкі дрыжаць, і трымціць*
*машката, быццам хмарка,*
*і плывуць у смузе павуцінкі,*
*а вярба ці аплаквае гора твае,*
*ці зласліва плюе табе проста ў зшарэлы*
*і зморшчаны твар.*

*Людзям мілай была, як магла, так жыла,*
*існавала,*
*ці снавала пад сонцам, заснула і*
*аж раптам за вокнамі ноч.*

*І вісіць, як ануча, на прызбе забытая,*
*а наўкол стракаціць*
*свет гламурных старонак,*
*шакаладных абгортак,*
*шаргаціцца, прыніжаны, кінуты,*
*ветрам аднесены,*
*шчэ нядаўна жаданы, асыпаны золатам*
*свет,*
*дзе так пляскалі ў ладкі агаленым*
*і хударлявым,*
*залатыя расставіўшы пальчыкі,*
*і барвяныя ў прожылках пяцярні,*
*і далонькі брунатныя...*
*Мы збуцвеем, яны расцвітуць, пачакаўшы.*
*Толькі ты, о ануча з нейлону.*
*Людзям мілай была, як магла,*
*так жыла, існавала,*
*ці снавала пад сонцам, заснула і*
*аж раптам за вокнамі ноч.*

*Цела жоўтае, гладкае яе серыяльнага*
*мача Хуана*
*ценем Дона Хуана раптоўна накрыла,*
*і зноў*
*ты стаіш, хата белая,*
*ляжыш, дрэва шэрае,*
*вісіш пашарпанаю чорнай анучай,*
*адны бессаромна і гола тырчаць*
*ступакі,*
*нязграбна абцёсаны Сынам Грааль,*
*у якім ацiхае душа,*
*а знадворку шкрабецца*
*вострым кіпцікам Бог.*

*...Раба без імя, на бязлюддзі, нямілая,*
*ці змагла, ці адолела, ці жыла-існавала і*
*ці снавала пад сонцам, заснула і*
*прачніся! За вокнамі ноч.*

## Лічылка

*Раз — мокры сабака,*
*Два — мокры сабака.*
*Два мокрыя сабакі гойсаюць*
*між крыжамі,*
*лашчацца, выпрошваюць пачастунак,*
*а вочы ў іх карыя — як у мяне.*

*Тры — чорныя вароны,*
*чатыры — чорныя вароны.*
*Чатыры вароны зладзілі над мокрымі*
*могілкамі*
*у паралельным вымярэнні*
*шумную вечарынку.*

*Пяць — жанчын у чорным,*
*шэсць — жанчын у чорным,*
*стогнуць жанчыны ў чорным*
*па ўсіх могілках,*
*нібы просяцца ў неба, да таварышак.*

*Сем — белых вяргіняў,*
*восем — белых вяргіняў,*
*як гірлянды згаслых галагенавых*
*лямпачак.*
*Госпадзі, думае цвінтар,*
*калі ў іх скончацца нарэшце*
*гэтыя белыя вяргініі?*
*Дзевяць — свежых магіл.*
*Дзесяць — свежых магіл —*
*не ўпасці б.*
*Расце-расце цвінтар хутка,*
*як чужое немаўля.*

**Пераклад з украінскай Людмілы Рублеўскай**

ЗГАДКІ

# ПАМЯЦЬ ПРА РАДАСЦЬ

Алесь ЖУК

**З Міхасём Стральцовым пазнаёміўся яшчэ школьнікам, калі пасля першае свае публікацыі ў «Нёмане» прывёз апавяданні ў «Маладосць». Стральцоў спадабаўся мне нечаканай ціхай усмешлівасцю і быццам сарамлівасцю, усё роўна як гэта ён, а не я прыйшоў са сваімі спробамі.**



Назіраў, як яго рука з алоўкам не адрывалася ад напісанага мной, акуратна, як школьнае сачыненне. Чытаў ён і курыў цыгарэту, тоненька віўся лёгкі дымок, нешта заклапочана перабіраў на сваім стале Мікола Аўрамчык, коратка пазіраючы то на мяне, то на Міхася. І пад той час, як было скончана чытанне, Мікола Якаўлевіч знік з кабінета. Чалавек вопытны, ён ведаў, якая будзе гаворка. Я не надта і запамінаў, што мне гаварыў Міхась Лявонавіч, бо прайшоўся ён і па радках, і па асобных словах. Я здагадваўся пра агульную ацэнку напісанага, бо яно таго і заслугоўвала. Калі стаў студэнтам, працягваў насіць Стральцову напісанае. Ён чытаў, паўтараў памятнае мне з першай сустрэчы: «Разумееш, старычок», «тут нешта не тое, старычок…»

Пасля першае сустрэчы я яшчэ і са школы прысылаў напісанае, бо ён сказаў мне не пакідаць пісаць. З прысланага мной ён адобрыў толькі невялічкую навэлку «Балада». Для друкавання ў часопісе гэтага было мала. Гэтая навэлка спадабалася і Рыгору Бярозкіну, які быў кіраўніком семінара на нарадзе маладых пісьменнікаў на Свіцязі, яна і была надрукавана ў «ЛіМе» як твор удзельніка семінара. Пазней я памяняў назву на «Мужчыны»…

У той час сталі даступнымі чытачу Рэмарк, Фітцджэральд, Хэмінгуэй, барадатыя партрэты якога прадаваліся ў кіёсках «Саюздруку». Захапленне імі не магло не закрануць літаратурных пачаткоўцаў. Але ўсё тое замежнае было недзе далей, бліжэй было сваё, якое літаратуразнаўцы называлі лірычнай прозай, пачатай Янкам Брылём, падхопленае Міхасём Стральцовым, Вячаславам Адамчыкам… «Блакітны вецер» Міхася Стральцова не мог не паланіць тонкай паэтычнасцю, настраёвасцю, мелодыкай фразы, псіхалагічнасцю, дакладнасцю пісьма, увагай да канкрэтнага жывога чалавека. Пасля заідэалагізаванай, груваскай па пісьму, груба канструяванай літаратуры было ап'яненне ад гэтага свежага, новага струменю. Магчыма, цяпер, перачытваючы напісанае амаль усімі з першага і наступных «філалагічных» пакаленняў, можна прыдрацца да самамэтнага любавання словам, захаплення пластыкай фразы, маляўнічасцю і настраёвасцю, але тое не было даганяннем ні Буніна, ні Чэхава. Прыйшоў аб'ектыўны працэс, калі беларуская літаратура павінна была ў сціслы час дараспрацаваць тое, што пачынаў у сваіх ранніх апавяданнях Кузьма Чорны, што закладваў у сваіх творах Максім Гарэцкі, ды і не толькі яны, але і іншыя дачасна загубленыя беларускія пісьменнікі. Няхай і была зададзенасць, але здабыткі напісанага «філалагічнымі» пакаленнямі маюць мастацкую вартасць. А што датычыць Міхася Стральцова, то ім напішуцца хрэстаматыйныя творы, што відавочна ўжо сёння.

Першае апавяданне Міхась Стральцоў надрукаваў у 1957 годзе, кніга апавяданняў «Блакітны вецер» выйшла ў 1962-м. Адразу была заўважана і чытачом, і крытыкай, стала з'явай у беларускай літаратуры, бо вельмі асвяжальны і патрэбны быў гэты блакітны вецер. Адрэагавала на кнігу Стральцова і артадаксальная крытыка, вядома ж — адмоўна. Наступная кніга прозы Міхася Стральцова «Сена на асфальце» выйшла ў 1966 годзе.

Хаця першае апавяданне было пазначана 1957-м, усе пазнейшыя кнігі: «Сена на асфальце», выбранае ў «Бібліятэцы беларускай прозы», «Выбранае» 1987 года (як даўно не перавыдаваўся Стральцоў!) будуць пачынацца «Трыпціхам», цыклам з трох невялічкіх апавяданняў. Першае мае назву «Трывожна крычыць птушка». Стральцоў невыпадкова на першае месца ставіць пазнейшае па часе напісання. Ужо першы зборнік Міхася Стральцова адметны тонкай стылістычнасцю, пазначаны творчай індывідуальнасцю. У «Трывожна крычыць птушка» чалавек, істота далёка не вечная на зямлі, пададзены сам-насам з вечнаю прыродаю, яе прыгажосцю. У ім неспадзявана ўзнікае разуменне гэтай кароткасці чалавечага жыцця на зямлі, і гэтае разуменне абуджае ў ім падсвядомую трывогу за драматычнасць кароткасці чалавечага жыцця. І вось гэтае адчуванне стварае своеасаблівы стральцоўскі настрой. Гэтым настроем будзе падсвядома няўлоўна падсвечана ўсё напісанае Міхасём Стральцовым: і ў прозе, і ў паэзіі, і «Загадка Багдановіча».

Сама назва кнігі «Сена на асфальце» дала назву таму, што адбывалася ў жыцці. Нечакана імкліва пачала адыходзіць у нябыт беларуская вёска, вясковы чалавек рабіўся гарадскім жыхаром, яму трэба было стварыць і асвойваць новы лад жыцця. Чалавек разгубіўся, сёйтой пачаў проста прападаць у новых умовах, астатнія імкліва перараджаліся, дарваўшыся да спажывальніцтва, якое намнога болей даступна ў горадзе, чым у вёсцы. Міхась Стральцоў болей амаль не вяртаўся да гэтае тэмы, ён толькі абазначыў яе, даўшы ёмкую назву новаяўленаму гараджаніну, — «сена на асфальце». А праява гэтая была складаная, адгалоскі яе чуваць яшчэ і дасюль, бо ў выніку атрымалася з людзей не толькі «сена», але і дэнацыялізаваная «пацяруха» ў вялікіх і малых гарадах. Ды і сама вёска, якую былі аб'явілі «неперспектыўнай», не надта паддавалася «абгарадзенню», а калі і засвойвала, но не лепшае з гарадскога ўкладу жыцця, імкліва пачала траціць стагоддзямі намытыя залацінкі сапраўдных чалавечых каштоўнасцяў, нацыянальнага характару, ды і проста чалавечай годнасці і самапавагі. Ёй і сёння, новай, патрэбен падмурак для станаўлення, падмурак стагоддзямі назапашанага жыццёвага вопыту…

Але тады ў творчасці Міхася Стральцова быў толькі, няхай адразу сталы, але пачатак, яго болей прываблівалі «вечныя» тэмы, тэма загадкі самога творчага пачатку ў чалавеку. Інакш ён не ўзяўся б пісаць «Загадку Багдановіча». «Загадка» будзе пазней. А пакуль што маладосць і сучаснасць бралі сваё, ды і тое, што хацелася сказаць у прозе, не было яшчэ сказана. У жыцці ўжо былі не толькі Лагацкія, але і «Светы Іванавічы данжуаны», была і проста маладая радасць жыццю. За «Светаў Іванавічаў» Стральцову перападала больш за ўсё ад крытыкі, пра якую ўжо гаварылася.

Была яшчэ і памяць дзяцінства, самая моцная ў чалавеку. Міхась Стральцоў, як і яго равеснікі, дзіцячымі вачыма бачыў вайну і перажыў пасляваеншчыну. Назва апавядання «На чацвёртым годзе вайны» падсвечана эпіграфам з К. Случэўскага: «И капля вод полна трагедий И неизбежности полна». Герой апавядання нават не мае ўласнага імя, ён проста «малы», ён жыве са старымі, і на ўсіх іх адно гора, гора вайны. А для малога і яго сям'і — пахаронка на бацьку. Апавяданне пранізліва-балючае праўдаю простага чалавека, тым, што робіць яму вайна.

Пазней гэты «малы» атрымае ўласнае імя ў аповесці «Адзін лапаць, адзін чунь».

Пасляваенная вёска, холадна і галодна, нават няма чаго абуць, каб выйсці з хаты хлопчыку Іванку, якому б найвялікшаю радасцю было пастраляць з рагаткі па вераб'ях. Які маленькі абмежаваны свет Іванкі і яго дзеда Міхалкі! І гэтак апаэтызаваны сумнымі зімовымі краявідамі. Гэта адчувае і Іванка, і дзед Міхалка. У яго жыццё канчаецца, ён гэта ведае. У другога наперадзе яшчэ многа радасці — цэлае жыццё. Але і на краёчку жыцця дзед Міхалка шкадуе Іванку за яго беднае дзяцінства, з горыччу думае, што ў ягоным жыцці ўжо нічога не засталося, акрамя шкадавання. Іванка шкадуе дзеда за тое, што ён ужо зусім старэнькі. Адно жыццё гаротна канчаецца, другое жыццё гаротна пачынаецца. Гэтая аповесць як не адна іншая рэч пранізана шчасцем і трагізмам, паэзіяй чалавечага жыцця. Усё гэта дасягаецца найперш тым жа стральцоўскім настроем. Дакладнасць псіхалогіі, паэтычнасць, бездакорная стылістычнасць тут усяго толькі інструментарый.

Ад'язджаючы з вёскі ў горад, я забыўся дома часопіс «Маладосць» з аповесцю Міхася Стральцова. Калі прыехаў у наступны раз, мама спытала, ці ведаю Стральцова, колькі яму гадоў. Яна прачытала аповесць. Мама пражыла цяжкае сірочае дзяцінства. Ды і пазней за работаю ёй не было калі чытаць. Літаратуру яна ведала толькі тую, якую некалі вучыла ў школе. Ад яе я пачуў і запомніў не толькі Купалавага «Хлопчык і лётчык», але «І лягла ціўшыня У бары за гарой, Каб дрывінка адна Хоць кіўнула сабой», Коласава «Не сядзіцца ў хаце Хлопчыку малому». А «Савося — распусніка» мама чытала па памяці ўсяго. Калі я сказаў, колькі гадоў Міхасю, паківала галавой: «Якая душа ў чалавека — такі малады, а так пра нас усіх напісаў». Прызналася, што калі чытала, плакала. Часопіс папрасіла пакінуць.

У гэтай аповесці ўжо прагучаў Стральцоў-паэт:

*Ноччу бязлюднай і цёмнай,*
*Іду па зямлі,*
*Высачэзны і лёгкі,*
*Пакалыхваючыся ад тугі.*
*Галава прыгнулася пад небам,*
*Я плачу.*
*Зоркі — слёзы мае.*
*Спяць гарады і вёскі,*
*Я над імі іду.*
*Высокі, пахілы і лёгкі,*
*Пакалыхваючыся ад тугі.*
*Шукаю шэрую вёску,*
*Вёску сваю.*
*Баюся:*
*Вышэзны і лёгкі,*
*Не прысяду там на парог,*
*Як самалёт рэактыўны не сядзе*
*На травяністым аэрадроме…*
*Я плачу.*
*Зоркі — слёзы мае.*

«Адзін лапаць, адзін чунь» выйшла ў 1970 годзе. У 1973-м Стральцовым будзе напісана «Смаленне вепрука», пасур'ёзнаму апошняя яго празаічная рэч, і будзе выдадзена кніга паэзіі «Ядлоўцавы куст».

«Смаленне вепрука» нельга раскласці на састаўныя, нельга разабраць, сыходзячы з крытычна-літаратуразнаўчых пастулатаў. Гэтае апавяданне — адно з тых рэдкіх твораў у літаратуры наогул, якое не паддаецца разгляду. Ужо сорак гадоў з часу яго напісання, а яно і сёння найперш і на слыху, і на духу, калі гаворка заходзіць пра Міхася Стральцова. Яно запатрабаванае і сённяшнім маладым ужо чытачом. Яно ў нейкім магічным крыстале скандэнсавала ўсё, што турбавала і цікавіла пісьменніка праз усё літаратурнае жыццё. Апавяданне скрозь паліфанічнае, асацыятыўнае. Канкрэтныя дэталі ператвараюцца ў сімвалы, абагульненні, узнікае трохмернасць адчування і разумення, памяці і існасці сённяшняй, пазначаны пункціры ў будучае. Надзвычай багаты інструментарый, але не ён галоўнае і не ён самамэта. Ідзе пераўвасабленне пісьменніка ў аб'ект пісання, у сына, у гаспадара. Героямі апавядання іх назваць ніяк нельга. Пісьменнік адкрыта гаворыць, што намагаецца загнаць у падтэкст напісанае, а на самай справе ён намагаецца вывесці да чытача напісанае. Канструкцыя, выкарыстаная Стральцовым прыёмы дазваляюць свабодна перамяшчацца ў часе, праецыраваць напісанае на будучае — і ўжо ад яго вяртацца ў сённяшняе.Стылістыка Стральцова мяняецца ад музычнай, пластычнай па ладу фразы да кароткай, у якой пазбягаюцца эпітэты. Нешта такое ў зачатку было ў ранніх апавяданнях Кузьмы Чорнага. Вось апісаны сон, і пасля яго кароценькі абзац:

«Ва ўсіх нас ёсць ці была маці, і, на жаль, не заўсёды добрыя прыходзяць да нас тэлеграмы…»

Жыццё і смерць, драматызм і трагізм чалавечага жыцця ўстае за ўсім гэтым, у самым зачатку жыцця, і няўмольна ідзе следам.

«…І раптам побач, ці не за драўляным плотам, у гародчыку, коратка і жаласна ціўкнула птушанё. Гэта як бы нейкі знак быў, і ён спыніўся і паглядзеў туды. Халаднаватая чырвань аблівала бэз, павеў скразнявога ветру, і цені ад яго затрапяталіся на жоўтай сцяне, і зноў прыцішана жаласна ціўкнула птушанё. Тады ён прыгледзеўся і ўбачыў яго. Ён бачыў яго блізкае, тое сумнае натапыранае, шэрае птушанё, гэтак бясконца, незразумела адзінокае ў знаёмай яму і, мусіць, не першы раз аблюбаванай засені падвечаровага куста. На сцяне, на вялікіх прасцягах горада памірала сонца, і што адчуваў, каму і на што жаліўся ён, гэты жывы маленькі камячок, натомлены за дзень нейкім сваім, зразумелым яму, а мо і зусім незразумелым клопатам? Што гэта: страх, натужанае чаканне непасільнага празарэння ці чуйна, вусцішна і раптоўна адасобленасць ад усяго і разлад з усім? І ці не так трывожыць, гняце незразумелым нейкім сэнсам і самога чалавека тужлівая палоска расхінутай на захадзе вечаровай зары?...»

Успомнім тое, на пачатку намі гаворанае «трывожна крычыць птушка», і запомнім гэтую вечаровую чырвань. Яны яшчэ ўзнікнуць.

Пра каго і дзеля каго і чаго гэта напісана? Пра сябе і кожнага з нас?..Наогул пра жыццё?..

У канцы апавядання «Смаленне вепрука» чытаем: «Наіўны, ён хоча перамагчы сапраўднасць, ён хоча верыць: я засцярогся ад бяды — бо сказаў. Дабро і надзея тут накрэслілі свой круг». Не дапамаглі ад бяды ні засцярога, ні круг надзеі і дабра, ды і круг — дзеянне закончанае…

Пісаць пастаянна ў такім напружанні, як напісана «Смаленне вепрука», нельга, такога напружання і самаахвярнасці вытрымаць доўга немагчыма, але і па-ранейшаму пісаць ужо немагчыма нават на адным узроўні. Пра гэта дакладна сказала Бэла Ахмадуліна: «Писать, как хочу, не умею, Писать, как умею, — зачем?»

У прадмове да «Выбранага» Міхася Стральцова Алесь Адамовіч справядліва напісаў: «У літаратуры так: нават усе разам і нават выдатныя не могуць замяніць аднаго — калі гэта сапраўдны талент». І яшчэ Алесем Адамовічам было сказана: «Я, напрыклад, упэўнены, што сярод таго лепшага, што будзе выразней заўважацца заўтра, хрэстаматыйна загучаць назвы такіх твораў: «На чацвёртым годзе вайны», «Адзін лапаць, адзін чунь», «Смаленне вепрука», «Загадка Багдановіча»… Сказана прарочa. Адамовічу хацелася і ён спадзяваўся, што Стральцоў вернецца ў прозу. Ён не вярнуўся. Хутчэй таму, што паліфанічнасць, асацыятыўнасць, шматмернасць, свабоднае перамяшчэнне ў часе паштодзённы інструментарый паэта. Проза патрабуе пэўных абавязковых атрыбутаў, якія я называю «радамі», якія мусіш пісаць. Але, можа, Стральцоў і вярнуўся б да свайго заяўленага «Конь гуляў на волі», калі б захацелася «павольнічаць» у прозе — напісаць нешта нечаканае…

З'яўленне эсэ «Загадка Багдановіча» было і нечаканым, і чаканым. Чаканым таму, што Міхась Стральцоў быў ужо вядомы як тонкі, глыбокі прафесійны крытык, які не абмяжоўваў сябе толькі «поўзаннем» па канкрэтным творы, а глядзеў на яго ў кантэксце і ўсёй творчасці самога пісьменніка, і ў кантэксце літаратуры ў цэлым. Гэта датычыла і класікаў, і сучаснікаў. Нечаканым было таму, што так раскавана і шматбакова на Максіма Багдановіча ніхто яшчэ не спрабаваў глянуць. Не варта забываць, што Багдановіча яшчэ трэба было даносіць, нават прапагандаваць. Яго тады яшчэ бясспрэчна не называлі класікам. Найбольш значнаю на той час была чыста літаратуразнаўчая праца Алега Лойкі. Стральцоў паспрабаваў глянуць на Багдановіча шырэй, прасачыць яго шлях да беларускасці такога высокага кшталту. І паглядзець на Максіма як на проста жывога чалавека, якому было звычайна і цяжка, і адзінока — «маладому вераб'ю блага». Стральцову ўдалося падаць Максіма шчаслівага ў творчасці і няшчаснага ў жыцці. Магчыма, Стральцова турбаваў і самога нейкі трывожны знак, як і Багдановіча: ён быў упэўнены, што памрэ ў такім узросце, як і маці, ад сухотаў.

Міхась Стральцоў зрабіў у сваім эсэ цікавае назіранне: напісаныя на рускай мове Багдановічавы вершы ўяўляюць сабой даволі звычайнае пісанне, тыя ж вершы на беларускай мове набываюць іншае, сапраўднае гучанне. Тут ужо, відаць, загадка самой мовы. Мова, як і вада, якая забяспечвае чалавеку яго біялагічнае існаванне, прывычная і паштодзённая. Але таямніца вады і на сённяшні дзень не спасцігнута навукай. З моваю хутчэй за ўсё тое ж самае. «Вне родного языка мысли человека чужеродны…» — гэта Гегель.

«Багдановіч, побач з Купалам і Коласам, — тое трэцяе вымярэнне, без якога немагчыма перспектыва. З Багдановічам нам стала далёка відаць ва ўсе канцы свету», —сцвердзіў Міхась Стральцоў амаль паўстагоддзя назад. А наконт загадкі Багдановіча, то сам жа Стральцоў сказаў, што кожны талент — гэта загадка. Сёння ўжо ў акадэмічнай гісторыі беларускай літаратуры адкрытым тэкстам сказана і пра загадку самога Міхася Стральцова…

Міхась Стральцоў прыйшоў у паэзію адразу стала. Інтанацыю яго верша, як і яго празаічны настрой, нельга зблытаць ні з кім. У свой час Блок запісаў такую думку: «Стиль всякого писателя так тесно связан с содержанием его души, что опытный глаз может увидеть душу по стилю, путем изучения формы проникнуть до глубины содержания». Крыху груваcтка, але дакладна.

Яшчэ задоўга да «Ядлоўцавага куста» мне давялося правесці ноч з Міхасём Стральцовым на яго новай кватэры, калі ён застаўся адзін. Амаль адзінай «мэбляй» у кватэры былі звязкі кніг ягонай бібліятэкі. І ноч напралёт Міхась чытаў вершы. Ён многа памятаў з айчыннай, замежнай і з рускай паэзіі. Але тады ён чытаў найбольш Блока. Магчыма таму, што ў самога яго пачыналася такая невыносна цяжкая паласа, якія як мінімум, два разы перажыў і Блок. Пра гэта можна было толькі здагадвацца: пра асабістае жыццё Міхась не гаварыў. Пазней ён напіша пра той час у вершы:

*Вось сівізна — а мудрасць дзе?*
*А мо пакорлівасць бядзе*
*Завецца словам гэтым?*
*Бяда ідзе, бяду вядзе:*
*Калі міне, сустрэне дзе,*
*Пасварыць дзе са светам…*

А тады, быццам ратуючыся ад скрухі, ён чытаў такія паэтычныя шэдэўры:

*Ты рванулась движеньем*
*испуганной птицы,*
*Ты прошла, словно сон мой, легка,*
*И вздохнули духи,*
*задремали ресницы,*
*Зашептались тревожно шелка.*

І раптам цяжкае, аб адзіноце ў вялікім свеце людзей, і пра сваё маленькае дарагое:

*…Над смрадом, смертью*
*и страданьем,*
*Трезвонят до потери сил…*

*Над мировою чепухою;*
*Над всем, чему нельзя помочь;*
*Звонят над шубкой меховою,*
*В которой ты была в ту ночь.*

А пасля ці то каб крыху супакоіцца і падбадзёрыць мяне сваім «всё будет хорошо, старичок», ці то каб вярнуцца ў цёплы туман паэзіі і сагрэцца ў ім:

*Всё, что минутно, всё, что бренно,*
*Похоронила ты в веках!*
*Ты, как младенец, спишь, Равенна*
*У сонной вечности в руках.*

*А виноградные пустыни,*
*Дома и люди — все гроба.*
*Лишь медь торжественной*
*латыни*
*Поет на плитах, как труба.*

Паэзія самога Міхася Стральцова, у адрозненне ад таго ж Блока, не такая размашыстая і прагна ўсёахопная, хаця не менеi філасафічная, я б сказаў, болей лірычна праніклівая і нават пяшчотная. Хаця метад параўнанняў заганны, калі гаворка заходзіць пра творчасць, напрыклад, для беларускай крытыкі заганны найперш тым, што творчасць аўтара міжвольна падвёрстваецца пад нейкі адпаведнік, нават пры большай відавочнасці таленту, пад творцу з шэрагаў «старэйшага брата». Хаця могуць быць і адваротныя выпадкі, калі творчасць у экстазе ўзносімага на вяршыні новаяўленага творцы пачынае лунаць нават і над сусветнай класікай. Праўда, і тое ўзнясенне, і тое лунанне звычайна вельмі кароткае па часе, і знікаюць неяк самі па сабе вельмі ж незаўважна.



Мова, як і вада, якая забяспечвае чалавеку яго біялагічнае існаванне, прывычная і паштодзённая. Але таямніца вады і на сённяшні дзень не спасцігнута навукай. З моваю хутчэй за ўсё тое ж самае

Паэт — гэта чалавек, які застаецца адзін на адзін са светам, з сусветам, і спасцігнутае ім павінна адазвацца ў душах іншых, калі ён не зможа так сказаць, то ён застаннецца адным са звычайных — усім людзям дадзена і адчуваць, і перажываць, адзінкам дадзена расказваць пра гэта іншым. Марына Цвятаева безаглядна смела сказала на пачатку творчасці: «Моим стихам, как драгоценным винам, настанет свой черёд». Наконт сябе яна ўвогуле не памылілася, хаця і самым-самым вінам прыходзіць свой канец…

Найвялікшае з цудаў, якое стварыў чалавек, гэта музыка, потым паэзія. Проза — чорны хлеб літаратуры. Музыку, паэзію трэба слухаць, жыць ёю, перажываць і суперажываць, тлумачыць яе нельга, яна сама гаворыць за сябе.

*Лёг, маленькі-маленькі*
*На шамоткім плашчы*
*І падціснуў каленькі*
*Перад мечам начы.*

***

*Яны талмудзяць і глякуюць,*
*У іх сабака ў доме ёсць.*
*Прадбачу хвілю, у якую*
*Да іх прыходзіць раптам госць.*

*З якой, з якой, з якой пустыні?*
*Абтрос ён пыл з вунь тых дарог.*
*Няхай вячэра ваша стыне.*
*Хацелі Бога вы? Ёсць Бог.*

Цытаваць Стральцова я магу многа, таму спынюся. Урэшце, паэзію перачытваць трэба самнасам, а не ў цытаванні…

…Тады, калі Міхась зайшоў да мяне ў «ЛіМ», у ім нешта было ад далёкае і цяжкае дарогі. Ён быў у акуратным касцюме, пры гальштуку, і не выглядаў змардаваным тым цяжкім лячэннем. Той жа прыжмур яго зеленаватых вачэй, той жа да болю знаёмы мне дымок ад цыгарэты. Я глядзеў на яго, і мне ўспамінаўся адзін з пагодлівых, ужо не спякотных, але цёплых і ласкавых асенніх дзён. Шчодра раскашавала ў парку Купалы барвовае, жоўтае, чырвонае лісце. Яго не пачыналі яшчэ зграбаць і вывозіць з паркаў і сквераў. Ад гэтага лісця, ад яснасці, сонечнасці душу кранала нейкая журботлівая радасць.

Угледзеў Міхася Лявонавіча нечакана, адзінокага на лаўцы. Ён сядзеў задумлівы і журботны ў такі святочны восеньскі дзень. Я тады не адважыўся падысці да яго…

Цяпер перада мной сядзеў чалавек, які намнога пасталеў і многае перажыў. Мне здалося, што ён адчувае нейкую палёгку. Так бывае з чалавекам, калі ён прыняў рашэнне.

Неўзабаве Міхась пачаў працаваць у «Нёмане». Жыццё, на якое, на жаль, заставалася ўжо зусім мала часу, наладзілася і пайшло звыклым парадкам. Пісаліся кнігі. Да прозы Міхась так і не вярнуўся.

Дазволю сабе працытаваць адзін верш з «Ядлоўцавага куста» цалкам.

***

*Душа поет не то, что море…*
*Ф. Тютчев.*

*Прайшло, мінулася, як дым…*
*Няпраўда. Жыў я не за тым.*
*Няхай у гордай паняверцы*
*Сабе мы кажам «трын-трава»,*
*Зусім не тое тчэцца ў сэрцы,*
*Як часам трызніць галава.*

*І боль, і смех, сваім павевам*
*Ускалыхнуўшы сон душы,*
*Памруць, але не згінуць. Дрэвам*
*Такой не дадзена мяжы.*

*Свайго няма для іх. І травы,*
*Хоць імі прарастаем мы,*
*Не пад цяжарам гнуцца славы,*
*І не ад скрухі лес нямы.*

*Няхай не так. На гэтым свеце,*
*Калі закончыцца мой век,*
*Жальбу травы усё ж не вецер*
*Спасцігне — родны чалавек.*

…Пішучы гэтае эсэ, я перачытваў напісанае Стральцовым і пра Стральцова, Багдановічам і пра Багдановіча, Блокам і пра Блока. Паэтаў зусім розных і па часе, і па тэматыцы, і па задачах, якія яны кожны ставілі перад сабою, словам, розных, розных бясконца… Але звязаных неаспрэчна адным — талентам, Божай міласцю дадзеным. І яшчэ — кароткасцю свайго быцця на зямлі.

Азірнёмся на трагічна кароткі час у зямным сваім існаванні айчынных творцаў, сусветных. Калі б скласці спіс, якім бы ён атрымаўся жахліва агромністым! У свой час суровы Міхаіл Еўграфавіч Салтыкоў-Шчадрын адназначна сцвердзіў, што літаратура непадуладна тленню. Дык гэтыя дачасныя смерці ці нішто іншае, як даніна, якая збіраецца з пісьменнікаў за іх непадуладнасць смерці, бо праз іх гэтая непадуладнасць працягаецца і на ўсё чалавецтва?

*Молчат гробницы, мумии*
*и кости, —*
*Лишь слову жизнь дана:*
*Из древней тьмы,*
*на мировом погосте*
*Звучат лишь Письмена.*

Паглядзім на сонечны заход і сонечны ўсход, на іх кругазварот. Ідзе спрадвечнае змаганне святла і цемры, і яно ніколі не бывае бяскроўным…

…Як гэта ўсё было нядаўна і даўно: у шэсцьдзясят восьмым годзе ўжо мінулага стагоддзя і тысячагоддзя, прадстаўляючы рускаму чытачу кнігу прозы маладога Міхася Стральцова «Что будет сниться», Янка Брыль пісаў: «На кожнай стральцоўскай старонцы я перш за ўсё бачу аднаго галоўнага героя — абаяльны вобраз самога аўтара, чалавека культурнага і душэўнага, з вострым позіркам на праўду і няпраўду, сапраўднага інтэлігента з народа, які вельмі нядрэнна засвоіў шматпакутную, складаную мудрасць часу. Шчыры чалавек, таленавіты пісьменнік ідзе па жыцці з добраю і журботнаю ўсмешкаю. Так хадзілі даўно і нядаўна яго вялікія папярэднікі. З гэтакім жа сумам, шчаслівым болем за ўсіх і за ўсё, горка і радасна ўсведамляючы сябе паэтам. І гэта не сузіральнасць, якой палохаюць нас некаторыя крытыкі, гэта высокая любоў прыгожага, новага, на чым і трымаецца жыццё».

Ужо болей за паўстагоддзя ідзе да людзей сваімі творамі Міхась Стральцоў — і не аддаляючыся, а набліжаючыся да новых пакаленняў.

ВЕРШЫ

# І ДАРОСЛЫМ, І ДЗЕТКАМ

## З КНІЖКІ «ВЕРШЫ ДЛЯ ХОМКІ»

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК



Фота Дж. Кунстандэра

### Хомка і яго рада

*Як згубіў свае ключы,*
*То маўчы, а не крычы;*
*Не звані ва ўсе званкі;*
*Лепей памяняй замкі,*
*Каб сусед ці сябар-зух*
*Не залез у твой катух!*

### Хомка і роварнік

*Хомка мой стаяў на задняй лапцы*
*І на дзвюх пярэдніх… Ну, вядома,*
*Што рабіў ён у такой пастаўцы*
*Не ў забыўлівасці, а свядома.*

*Дык на задняй лапцы ці на ножцы*
*Ён стаяў, і ў гэты міг нячула*
*Роварнік па роварнай дарожцы*
*Праляцеў, — ажно Хаму хіснула.*

### Хомка ветлівы

*Я скажу пра гэта проста:*
*Не вучыўся Хомка ў школе,*
*А на дзетак і дарослых*
*Ён не гаўкае ніколі!*

*Гаўкае хіба на дурня,*
*Для якога (Хомка знае!)*
*Родная літаратура*
*І слабая, і малая…*

### Хомку шанцуе

*Хомка стаў пад клён… Глядзіць —*
*Дзвесце тысяч там ляжыць!*

*Стуалеціўшыся, ды*
*Сам сабе сказаў тады:*

*«Каб пад клён не захацеў,*
*Дзвесце б тысяч не займеў!»*

### Хомка-дырыжор

*Манерамі дзівіць сваімі…*
*І часам (ну, чысты маэстра!)*
*Пярэднюю лапку падыме,*
*Нібыта кіруе аркестрам.*

### Хомка-спявак

*Хомка выйшаў не з «Ла-Скалы»,*
*Але ён спявак удалы.*
*Ноту «гаў» бярэ свабодна —*
*То яснотна, то журботна…*

*І з адною гэтай нотай*
*Мае хлеб ён і да хлеба,*
*І яму (кажу з пяшчотай)*
*Ноты іншыя не трэба.*

### Хомка-пан

*Быццам пан сабе які,*
*Хомка корміцца з рукі.*

*Вечарам — у пяць, у шэсць —*
*Хомка з міскі сам не есць.*

*Вам скажу, сябры мае,*
*Хомка з міскі толькі п'е.*

*І даводзіцца таму*
*Дома ўсім карміць Хаму.*

### Хомка і ратуша

*Хомка любіць ад душы*
*Пахадзіць ля ратушы.*
*Пра яе гукнуць ён рады:*
*«Сімвал гарадской улады!»*

*А яшчэ гукнуць ён рады:*
*«Рада засядала тут,*
*На паседжаннях той рады*
*Войт праводзіў строгі суд!»*

### Хомка і Купалаўскі парк

*Хомка наш трымае марку…*
*Скажам так: не абы-дзе,*
*А ў Купалаўскім у парку*
*Шпацыруе кожны дзень.*

*То-бок, зранку і пад вечар,*
*Меставы забыўшы брук,*
*Ён у парку тым… Дарэчы,*
*Філасофствуе аб нечым*
*Ці дурэе, як хлапчук!*

### Хомка і хлопчык на роліках

*Хлопчык на роліках — ах,*
*Як ён ляціць, не спыняецца…*
*І не бярэ яго страх,*
*І не баіцца параніцца!*

*Хомка з адкрытай душой*
*Крыкнуў на ўсё наваколлейка:*
*«Хлопчык на роліках, стой!*
*Дай пакатацца на роліках!»*

### Хомка і вавёрка

*Ранішняю зоркай*
*З дрэва і на дол*
*Скокнула вавёрка…*

*А Хама пад стол*
*З мяккае канапы,*
*Бо не тыя лапы!*
*«Ах, вавёрка-зорка! —*
*Хомка ж уздыхне. —*
*Прыскачы, вавёрка,*
*Ў госці да мяне!*

*Мы не так, як людзі*
*Енчыць-сумаваць, —*
*А з канапы будзем*
*Мы пад стол скакаць!»*

### Хомка і яго вушы

*У Хамы даволі працы:*
*Чысціць вушы пазурамі…*
*І выходзіць ён на шпацыр*
*Толькі з чыстымі вушамі!*

*Захад сонца адмыслова*
*Кідае ў Хаму праменне…*
*Вушы свецяцца ружова,*
*Як каштоўнае каменне!*

### Хомка і галубы

*Як убачыць галубоў —*
*Гоніць іх з усіх кутоў!*
*Галубы (а так і трэба!)*
*З долу рвуць адразу ў неба!*

*Лозунг у Хамы адзіны:*
*«Каб шчаслівыя былі,*
*Птушкі ў небе быць павінны,*
*А сабакі на зямлі!»*

### Хомка і «Вольга!»

*Ён — рахманы, але часам*
*Хоць ты швогні Хомку пасам…*
*Выгне шыю і бачок*
*І стаіць, як той бычок,*
*Ці праўдзівей — аслянятка…*
*Ні сюды і ні туды…*
*От загадка дык загадка,*
*Што рабіць з Хамой тады?*

*А папраўдзе, амбарасу*
*Тут вялікага няма —*
*Трэба выгукнуць адразу*
*Гаспадыніна імя.*

*Як Хама адно пачуе*
*«Вольга!» — то дзярэ грудок*
*І дадому так шыбуе,*
*Аж спявае павадок!*

### Хомка цікаўны

*Хомка ўздыме галаву*
*І ў густую йдзе траву,*
*Бо цікава — хто жыве*
*У густой у той траве?*

*Абышоўшы цэлы груд,*
*Хомка прамаўляе тут:*
*«Я адкрыў, як двойчы два,*
*У траве жыве трава!»*

### Хомка і байкеры

*«Будзьце, байкеры, людзьмі! —*
*Крыкнуць Хомка гэтак хоча. —*
*Жалязякамі сваімі*
*Не грыміце ўдзень і ўночы!*

*Грукату патрэбна вам?*
*У балота прыце ў дыме*
*І чарцей пужайце там*
*Жалязякамі сваімі!»*

### Хомка і Свіслач

*З-за бетоннага паркана*
*Чуецца рака ледзь-ледзь…*
*Блісне думка нечакана:*
*Свіслач там, а можа — смерць…*

*Хомка ўсё жывое любіць*
*І пытае сумна ён:*
*«Вы раку навошта, людзі,*
*Зацаменцілі ў бетон?!»*

### Хомка і ямка

*Бегучы ў любым напрамку,*
*Пад таполяй ці вярбой*
*Хомка выкапае ямку*
*І з вясёлаю журбой*

*Паглядзіць у ямку тую:*
*Мо крыху шчэ пaграбці?*
*Нібы цацку залатую*
*Хоча ў ямцы той знайсці…*

*Туалетную праграмку*
*Справіўшы, як мае быць,*
*Хомка закапае ямку*
*І далей ізноў бяжыць!*

### Хомка і шкло

*Быццам некаму на зло,*
*Дзеці б'юць у парку шкло.*
*Увіхаюцца яны, —*
*Ажно гром грыміць шкляны!*

*Хомка на хвіліну стаў*
*І малым параду даў:*
*«Каб калецтва не было,*
*Дзеці, не таўчыце шкло!»*

### Хомка і дэкрэт

*Хомка думае адзін,*
*Іншыя сабакі — не:*
*«Шмат у горадзе машын…*
*Дым уверсе і на дне!»*

*У задумлівай тузе*
*Хомка выдумаў дэкрэт:*
*«Трэба, каб сабакі ўсе*
*Гаўкнулі на цэлы свет:*

*— Зачыніце аўташколы*
*І жывіце, як ільвы!*
*З чатырох сыдзіце колаў*
*На чатыры лапы вы!»*

### Хомка-грамадзянін

*У Хамы (хай кожны знае)*
*Мера гонару свая:*
*«Я таксама пашпарт маю —*
*Значыць, грамадзянін я!*

*З дарагой магу душою*
*І брахаць, і кіраваць…*
*Крэсла самае (ну, тое!)*
*Маю права я заняць!»*

### Хомка-філосаф

*Філосаф Хомка наш, канешне,*
*Галосіць у акно: «А то!*
*Калі нішто, то будзе нешта;*
*Калі ж ні нешта, то — нішто!»*

### Хомка і лісце

*Хомка лічыць: «Гаў-гуў-гоў!..» —*
*Ды няма карысці…*
*Хомка лічыць зноў і зноў*
*Восеньскае лісце.*

*Толькі скрозь яно ляжыць,*
*Шмат яго, о Божа!*
*Лісце ў парку палічыць*
*Хто Хаме паможа?*

### Хомка і пачварка

*Напалохаў Хомка ў парку*
*Не пачвару, а пачварку, —*
*І маленькая пачварка*
*Уцякла ад Хомкі шпарка!*

### Хомка-псіхолаг

*Наш Хомка псіхолаг вядомы —*
*Штодня без ніякае стомы*
*Параду і ў свята, і ў будзень*
*Дае і сабакам, і людзям:*

*«Калі не хапае чагосьці;*
*Калі вам захочацца штосьці —*
*Тады выбірайцеся ў госці*
*І будзьце ў гасцях аж да млосці!»*

### Хомка і паломка

*Роварнік займеў паломку:*
*Хутка ездзіць ён прывык;*
*Заглядзеўшыся на Хомку,*
*Наляцеў на нейкі цвік.*

*Хомка гэтаму нябогу*
*Адчаканіў проста ў лоб:*
*«Каб глядзеў ты на дарогу,*
*То паломкі не было б!»*



Фота А. Паплаўскай

АБРАЗКІ

# УСЁ АЛЬБО НІЧОГА. ЖЫЦЦЁ — РЭДАГАВАННЕ

Аксана СПРЫНЧАН

## Атамная рэДакцыя

Мой першы сябра-рэдактар, з якім лёс звёў працаваць у адным кабінеце шмат гадоў, Янка Саламевіч, любіў казаць пра сімвалічную памылку: атамны рэдактар. Ну а паколькі я паводле гучання ініцыялаў АЭС(АС), дык гэты жарт і на мяне перайшоў. А ў маёй сям'і і — атамная рэДакцыя пайшла, бо я рэдактар у трэцім пакаленні.

## Расейскамоўныя іншапланяцяне

Прыйшоў у кабінет аўтар, паведаміў, што ён адчувае сябе іншапланяцянінам (бо мы размаўлялі па-беларуску). У анатацыі да свайёй кнігі ён напісаў: «Тема освещает одну из героических страниц в жизни русского народа: нашествие Наполеона на Россию». Вось яна, гераічная старонка ў жыцці рускага народа — нашэсце Напалеона. А ў жыцці беларускага рэдактара гераічная старонка — нашэсце расейскамоўных іншапланяцян.

## Рэдактары таксама б'юцца

Упершыню за ўсю гісторыю выдавецтва адбылася бойка паміж двума рэдактарамі. Не праз жанчыну, не праз пляшку, не праз грошы, а праз Кнігу. Ёсць такія вялізныя кнігі, што іх вядуць некалькі рэдактараў. Дык вось Рэдактар, які з усёй душою працаваў над кнігай, даў у пысу рэдактару, які з усёю душою халтурыў над кнігай.

## «Непадсільная доза»

Ліст адной з паэтэс рэдактару: «Я виноватая сама в своем провале. Я «отравила» Вас непосильной дозой красивого, сопутствующего прекрасной любви. Во мне эти строчки рождались в течение 10–15 лет, а Вам пришлось их усвоить в один присест. И вывод — налицо». Дзякуй Богу, «в один присест», а не за 15 гадоў.

## Наглядная праца

Праца рэдактара з аўтарам можа быць не толькі слоўнай, але і наглядная. Аднойчы дзед ніяк не мог патлумачыць паэту, што ягоныя радкі «И я немного приоткрыл уже распахнутую дверь» не адпавядаюць здароваму сэнсу. Урэшце рэшт рэдактару давялося ўстаць, адчыніць дзверы і сказаць аўтару:

— На, распахні.

## Правіла ад рэдактара

Паводле новых правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі «літара Э ў запазычаных словах пішацца згодна з літаратурным вымаўленнем». Але як літаратурна вымавіць — сЭкс альбо сЕкс. Паколькі не толькі вымаўленне, але і сэкс у беларусаў вельмі разнастайныя, калісьці, яшчэ пра-



«Янка Саламевіч і я»

цуючы ў «Беларускай Энцыклапедыі», я стварыла сваё правіла. Калі ваш сэкс бліжэй да Эротыкі, дык ён пішацца праз літару Э. А калі вы пішаце секс праз літару Е, дык зразумела, да чаго ён бліжэй... Трэба адзначыць, у адрозненне ад новых правілаў, у якіх цяжка разабрацца, гэтае правіла запамінаюць усе адразу і назаўсёды.

А як пісаць — газЭта ці газЕта? Паколькі журналіст — адна з найбольш старажытных прафесій, дык правіла можна і на газэту распаўсюдзіць: калі праз Э, дык бліжэй да эротыкі, а калі праз Е, дык і так зразумела, да чаго бліжэй...

## У-у-у!

Супрацоўніца-карэктарка з дакорам: «Аксана! Ну няўжо ты не ведаеш, што сэкс нешта няпэўнае, нявызначанае? Чаму ж ты напісала ў Родным склоне «Сэкса». «У-у-у!» — «Сэксу-у».

## Лекаванне

Варажу на ТАРАшкевіцы, лекую ад наркаманаўкі. (Наркаманаўку муж прыдумаў).

## Дзіцячае рэдагаванне

Карэктарка ехала з маленькім сынам праспектам. На плошчы Якуба Коласа сын радасна закрычаў на ўвесь аўтобус: «Мама, мама, глядзі, вунь твой Ябук!»

## Нават не для ворагаў

Ворагу не пажадаеш такое чытаць: «Повесть готова к изданию, состоит из 7 глав, что составляет 7 авторских листов. Жанр повести — остросюжетный детектив. Основная тема — проблема гуляющего по миру педофилизма и драматические судьбы малолетних жертв педофила... По количеству найденных в спальне педофила фотографий девочек и кукол, следствие считает, что насилию подверглись 83 девочки. Все девочки воспитанницы одного детского сада...».

## Дзякуй за вершы! Дзякуй за прозу!

У лунінецкай газеце «Информпрогулка» ў раздзеле «Паэзія» пасля апублікаваных вершаў — рубрыка «Дзякуй за вершы!» І ў ёй наступнае: «Удзячныя за дасланыя вершы Таццяне Паўловіч з в. Дубоўка і Анатолю Варонічу. На жаль, іх творы апублікаваныя не будуць». Па-мойму, гэта цудоўная ідэя. У кожным выдавецтве можна нават кнігі выдаць «Дзякуй за вершы!», «Дзякуй за прозу!» і г.д. Дарэчы, прозвішчы аўтараў вылучаныя тлустым шрыфтам.

## Крыху па-расейску

Калі чытаю дачцэ кнігі беларускіх пісьменнікаў і не выпраўлю раптам русізм, дачка пытаецца:

— А што, гэтая кніга КРЫХУ па-расейску напісаная?

Дык вось, 90 адсоткаў беларускіх кніг напісаныя КРЫХУ ПА-РАСЕЙСКУ. І аўтараў гэта мала абыходзіць, бо яны пераважна і самі нават з роднымі па-расейску размаўляюць, і рэдактараў не шануюць, і проста не разумеюць, бо ніхто ж ім у вочы праўды не скажа. На прыкладзе выдавецкага рэдактара зазначу гэтак: калі аўтар прыносіць свой твор, у яго павінна ўжо быць да мяне некалькі рэдактараў, «вылізаны» тэкст, каб у мяне рэзка падвышаўся адрэналін, калі я нешта знайду.

## Рэстарацыі і рэдактура

У савецкія часы, калі выходзіла кніга, ганарары былі такія, што аўтар вёў у рэстарацыю ўсё выдавецтва. Калі, вядома ж, не быў жахлівым скнарам. Зразумела, і сам пэўны час жыў бязбедна.

Чытаючы кнігі пісьменнікаў тых часоў, ніяк не магу зразумець: няўжо пісьменнік не мог наняць пяць рэдактараў (бо аднаго заўжды мала!), каб яму адрэдагавалі твор лепей.

Цяпер іншыя часы — ганарара не стане і на двух рэдактараў. А сквапнасць бывае такая, што нават святое святых — кнігу, якая выйшла, — не падораць рэдактару. Раней такога ніколі не было.

## Дзяльба

Прыйшоў аўтар у кабінет, дзе было два рэдактары, і вырашыў іх пачаставаць. Дастаў яблычак, узяў са стала нажніцы, расчыкрыжыў і даў па кавалку кожнаму.

Распытваю іх пасля:

— А што, вялікі яблык быў?

— Ды не, маленькі, нягеглы.

— Дык, можа, смачны надзвычай?

— Ды не, ніякі.

— Дык мо патлумачыў неяк сімвалічна?

— Ды не, без гісторыі.

— Дык год жа яблычны.

— Дык аўтар такі.

## Жыццё без кветак

Вядома ж, хто будзе дарыць рэдактару-мужчыне кветкі? Ніхто. А рэдактару-жанчыне? Мне не дарылі. Колькі не распытвала знаёмых рэдактарак, нават у часы «Юнацтва» такога не было. Рэдактару «прынята» паіць і карміць — відаць, каб не адрываліся ад рукапісу, кавалак хлеба не шукалі, альбо паляпшаць умовы працы — гарбатнічак падараваць альбо сканер.

## Адна ноч Васіля Быкава

У 80-я гады, калі перавыдавалі кнігу, здзяйснялі цалкам забыты цяпер працэс — расклейку. Каб атрымаць адзін экзэмпляр гэтай расклейкі, былі патрэбныя два асобнікі папярэдняй кнігі. Кожная старонка выразалася і наклейвалася на аркуш паперы фармата А4. Так утвараўся новы рукапіс. Кнігі часта даводзілася браць у бібліятэках, а пасля аддаваць у падвоеным памеры. Але якая бібліятэка аддасць парэзаць Васіля Быкава? Рэдактарка патэлефанавала Васілю Уладзіміравічу, папрасіла яго аддаць на «смерць-жыццё» дзве кнігі, паведаміла, што прыедзе забраць, але Васіль Быкаў сказаў, што будзе заўтра недалёка ад выдавецтва і сам паднясе. Зранку наступнага дня Быкаў прыехаў, прывёз гатовую расклейку і перапрасіў, што не пранумараваў старонкі. Усю ноч з жонкай клеіў. Вось такія былі сціплыя пісьменнікі.

## Медрэдактары

Пасля васьмі гадоў працы ў выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя» я перайшла працаваць у «Мастацкую літаратуру». І ў «Энцыклапедыі» даводзілася сустракацца з пісьменнікамі, калі пра іх рабіла артыкулы. Але ў такой іпастасі яны былі зазвычай спакойныя і адэкватныя. А вось праз месяц працы ў «Мастацкай» у мяне нават узнікла думка, што я не пісьменніца, бо, прыходзячы ў выдавецтва, не спяваю, не чытаю, не плачу, не сяджу гадзінамі, не абяцаю, не праклінаю, не кідаюся біцца. Цяпер у Тэхналагічным універсітэце пачалі рыхтаваць рэдактараў-тэхнолагаў. Лепей бы падрыхтавалі рэдактараў-псіхолагаў, -псіхатэрапеўтаў і -псіхіятраў. Альбо хаця б медрэдактараў.

## Кнігі не пахнуць

Аднойчы ў часы БССР у кабінет, дзе сядзела рэдактарка з загадчыкам рэдакцыі, завітаў Адам Мальдзіс і перадаў ад аўтара, кнігу якога рэдактарка нядаўна рэдагавала, скрыначку цукерак «Кароўка». Рэдактарка нагрэла гарбатнік, паставіла кубкі і адчыніла цукеркі. Цукерак не было. А была французская парфума. Загадчык, застаўшыся без цукерак, пажартаваў, што рэдактарцы давядзецца рэдагаваць і наступную кнігу гэтага аўтара, а інакш трэба паехаць на паштамт і адправіць пісьменніку ягоную парфуму. Узгадаўшы жахі рэдагавання першай кнігі, рэдактарка пасля працы паехала на паштамт. Зранку яна адрапартавала начальніку, што ўсё сказанае ім выканана. Ён доўга не мог зразумець — што, а пасля быў дужа ўражаны: ён жа пажартаваў. Як бы там ні было — болей кніг гэтага аўтара рэдактарка не рэдагавала.

## Пракурор і адвакат

Калі пісьменнік не ведае, як напісаць «пра гэта», атрымліваецца наступнае: «Тады яна скіроўвала позірк на нешта іншае: голыя плечы, жывот, ягадзіцы і на ўсё тое, што траплялася ёй на вочы». Параграфаўшы з калегамі над чарговай цытатай, патлумачылі рэдактару кнігі, што немагчыма глядзець адначасна на жывот і ягадзіцы. Але яна, вырашыўшы да апошняга абараняць свайго аўтара, падумала і прапанавала версію: «А калі ў яго вялізны жывот, і ён ляжыць на баку, дык і магчыма». Што ж, рэдактар не толькі пракурор, але і адвакат.

## Скрыжаванне паралельных

Дзяўчынка суседзяў па лецішчы вырасла і прыйшла працаваць у Міністэрства культуры. Пабачыўшы мяне на калідоры, яна была нагэтулькі ўражаная, што ў яе міжволі вылецела: «А Вы, аказваецца, такая прыгожая! Так апранаецеся файна...!». І я ўявіла, як дваццаць гадоў яна мяне бачыла з капачамі і вёдрамі з гноем... Рэдагаванне дазваляе быць прыгожым, а зямля — быць.

## Смяротнае пакаранне

Перыядычна знаходзяцца аўтары, якія абяцаюць-пагражаюць, калі іх не выдадуць, засіліцца альбо сканаць (без удакладнення, якім шляхам). І гэтыя «смяротныя пакаранні» вісяць над ні ў чым невінаватымі выдаўцамі.

Але яшчэ не было ніводнага аўтара, які б абяцаў павесіцца, калі яго выдадуць без рэдагавання.

## Пісьменны стол

У рэдагаванні, як і ў кожнай працы, бывае руціна: сядзіш сабе і вылоўліваеш па 10 разоў на старонцы «бышцам», альбо «гэта», альбо «толькі»... А пасля лясь — і жыццё пачынае віраваць. Бо ты сустракаеш «стол пісьменны, вялікі, дзьвюхтумбавы», ці «яна дакранулася патыліцай да спіны (сваёй)», ці «абцягнула халат на такіх жа, як і зад, вялікіх, дзябёлых грудзях». І ўжо няма табе спакою, думаючы, а ці бываюць такія ж вялікія грудзі, як дупа, ці ўсё ж такі дупа заўжды большая. І думаеш, як добра, што бываюць памылкі з пачуццём гумару.

## Кнігі і тлушч

Як толькі ягоная кніга пабачыла свет, пісьменнік К. запрасіў рэдактара ў кавярню адзначыць шчаслівую падзею. А за чаркаю і падпісаў рэдактару кнігу. Падпісаў прыгожа, і рэдактар, вярнуўшыся ў кабінет, стаў хваліцца. Ягоны калега ўзяў кнігу і пабачыў, што яна ўся ў тлушчы. Але адзначаны рэдактар цалкам паважна паведаміў:

— Нічога, заўтра ўсё нармалёва будзе, кнігі маюць здольнасць да нармалізацыі. Галоўнае — каб тлушч з іх не крапаў.

## Расхадуха

Хоць рэдактары цяпер такія, што няма з кім выпіць, але традыцыя алкагольнага прэзенту найбольш трывалая з савецкіх часоў.

— Што вы болей любіце піць? — дапытваюцца шчаслівыя аўтары, задаволеныя выданнем кнігі.

— З добрымі пісьменнікамі — усё люблю. А з благімі — нічога.




АФАРЫЗМЫ

# ДЗЕ ПАЛЯЦЬ КНІГІ, БУДУЦЬ ПАЛІЦЬ І ЛЮДЗЕЙ

**Генрых ГАЙНЭ (1797–1856)**



Дзіўная рэч! І заўсёды гэта рэлігія, заўсёды мараль, заўсёды патрыятызм — менавіта імі ўпрыгожваюць усе непрыемныя суб'екты свае нападкі! Яны кідаюцца на нас не дзеля дробязнага прыватнага інтарэсу, не з пісьменніцкай зайздрасці, не ад прыроджанага лёкайства, але ў імя дарагога Госпада, дзеля ўратавання маральнай прыстойнасці грамадства і айчыны.

Там, дзе паляць кнігі, урэшце будуць паліць і людзей.

Для людзей, якія ведаюць толькі мінулае і будучыню і не могуць пражываць вечнасць у кожным моманце цяперашняга, — вось для іх смерць мусіць быць жудаснай! Калі ў іх адняць абедзве мыліцы — прастору і час, — яны падаюць у вечнае Нішто.

Мы маглі б падзяліць людзей усяго на дзве групы — тых, хто нас любіць, і тых, хто часта і выразна кажа нам, што нас любіць.

Мы часцей думаем пра тых, каму, прамарудзіўшы, не адказалі, чым пра тых, каму заўжды пішам вымушаны ліст ветлівасці, спрабуючы такім чынам як мага хутчэй адчапіцца ад іх.

Мы почасту дастаткова талерантныя, каб захапляцца дурнямі і дараваць злодзеям, калі толькі пра іх можна сказаць, што яны дзейнічалі паслядоўна.

Я ведаю, што нельга лепей ушанаваць вялікіх асобаў, чым асвятляючы іх хібы гэтак жа добрасумленна, як і цноты. Апяваючы Геракла, трэба таксама згадаць, што аднойчы ён зняў з сябе львіную шкуру і сядзеў за прасніцай; пры гэтым ён усё адно застаецца Гераклам.

Да рэнегатаў, перавернутых колішніх аднадумцаў, адчуваеш значна большую непрыязнасць, чым да старых ворагаў.

Народ ахвотна закідвае камянямі сваіх прарокаў, каб яшчэ больш палка ўшаноўваць іхныя мошчы; сабакі, што абрэхваюць нас сёння, заўтра даверліва ліжуць нам рукі.

Людзі заўжды робяцца кепскімі, калі кепска ставіцца да іх.

Як і ў камерцыі, рэлігіям шкодзіць манаполія; дзякуючы вольнай канкурэнцыі яны застаюцца моцнымі і толькі тады могуць дасягнуць сваёй першапачатковай велічы, калі забяспечваецца палітычная роўнасць богаслужэнняў, так бы мовіць, камерцыйная свабода багоў.

Калі Айчына — першае слова для палякаў, то Свабода — другое. Цудоўнае слова! Поруч з Каханнем — напэўна, найпрыгажэйшае.

Руку, якую пакуль непажадана адсекчы, даводзіцца цалаваць.

У літаратуры, як і ў жыцці, у кожнага сына ёсць бацька, якога ён, праўда, ужо не ведае альбо ўвогуле хацеў бы ад яго адрачыся.

Няма нічога дурнейшага, чым пытанне, які паэт больш вялікі за іншых. Полымя ёсць полымя, і яго вагу нельга памераць у фунтах ці унцыях. Толькі прымітыўны гандляр прыходзіць са сваімі нікчэмнымі вагамі і хоча ўзважыць генія.

**Пераклаў з нямецкай**
**Аляксей Жбанаў**

АПАВЯДАННЕ

# СПАТКАННЕ З НІНАЙ

**Герман ГЕСЭ (1877–1962)**

Калі я праз некалькі месяцаў адсутнасці вяртаюся на сваё Тэсінскае ўзвышша, кожны раз мяне ўражвае і кранае яго прыгажосць. Я не проста трапляю дадому — спачатку мне даводзіцца перасадзіць сябе ў іншую глебу і пусціць новыя карані, зноў звязаць парваныя ніткі, прызвычаіцца і пашукаць судакрананні з мінулым і Радзімай, перш чым паўднёвае сельскае жыццё пачне набываць смак. Трэба не толькі распакаваць валізы і адшукаць вясковы абутак і летнюю вопратку — трэба праверыць, ці не пацякла за зіму спальня, ці жывыя яшчэ суседзі, трэба пагладзець, што тут змянілася за паўгода, наколькі ў гэтай дарагой мне мясціне агалілася цнатлівасць, якую яна здаўна зберагае, ці напоўнілі яе даброты цывілізацыі. Ну вось, каля ніжняга яра зноў залысіна — высечаны цэлы ўзлесак, бо будуецца віла, — а на павароце нашую вуліцу пашырылі, загубіўшы чароўны стары сад. Апошнія станцыі з паштовымі карэтамі ў нашай мясцовасці ліквідаваныя і замененыя аўтамабілямі: новыя карэты занадта вялікія для гэтых старых вузкіх завулкаў. Значыць, я ніколі не ўбачу старога П'еро з яго двума наравістымі конямі, не ўбачу, як ён у блакітнай уніформе з шоргатам спускаецца з гары на жоўтай карэце, ніколі не заспею яго ў «Грота дэль Пацэ», дзе ён акурат паддаецца спакусе выпіць чарачку віна, зрабіўшы маленькі неслужбовы перапыначак. Божа, я больш ніколі не буду сядзець над Лугана на цудоўным ускрайку лесу, маім улюбёным месцы для малявання: нейкі чужак купіў лес і луг ды абгарадзіў іх калючым дротам, а там, дзе стаялі прыгожыя ясені, цяпер будуецца гараж.

Насупроць, як і раней, зелянеюць пад вінаграднай лазой палоскі свежай травы, а пад звялым лісцем, як заўсёды, шалясцяць блакітна-зялёныя ізумрудныя яшчаркі. Лес расквечаны блакітным і белым колерамі барвенку, анемонаў і кветачак суніцы, а праз лес, падфарбаваны маладой зелянінай, прахалодна і мякка прасвечвае возера...

Ва ўсякім разе, лёс падарыў мне цэлае лета і восень, і я спадзяюся без турботаў зноў пражыць тут некалькі месяцаў і крыху адбіцца ад падагры — цешыцца доўгімі днямі на волі, забаўляцца з фарбамі і трошкі больш радасна і нявінна пражываць жыццё. Зімой, тым больш у гарадах, такой магчымасці меней. Гады пралятаюць хутка — басаногія дзеці, якіх я бачыў школьнікамі, уязджаючы ў вёску некалькі гадоў таму, ужо пажаніліся ці апынуліся ў Лугана альбо Мілане за друкаркамі ды прылаўкамі, а колішнія старыя — вясковыя старажылы — за гэты час памерлі.

Тут мне прыпамінаецца Ніна... Ці жывая яна яшчэ? Божа, Божа, як гэта я толькі цяпер успомніў яе? Ніна — мая сяброўка, адна з нешматлікіх блізкіх сяброваў у гэтай мясцовасці. Ёй 78 гадоў, яна жыве ў самай аддаленай вёсцы, якую яшчэ не захапіў новы час. Дарога да яе крутая і нялёгкая, я на сонцы мушу некалькі сотняў метраў спускацца з гары, а потым падымацца з іншага боку. Але я адразу кіруюся ў дарогу і спачатку хуценька збягаю праз вінаграднікі і лес уніз, потым перасякаю вузкую даліну і з іншага боку падымаюся ўверх па выступах, якія летам зарастаюць цыкламенамі, а зімой — марознікам. Першае сустрэчнае дзіця ў вёсцы я пытаю, як маецца старая Ніна. О, расказвае мне малы, яна ўсё яшчэ сядзіць вечарамі на царкоўным муры і нюхае тытунь. Я, задаволены, іду далей: значыць, яна жывая, я яе яшчэ не страціў, яна мяне ласкава прыме і хоць пачне крыху бурчэць ды скардзіцца, а ўсё ж зноў пакажа мне добры прыклад самотнага старога чалавека, які, не прыніжаючыся перад жыццём, шчыра, упарта і не без радасці трывае свой узрост, сваю падагру, сваю беднасць і адзіноцтва, плюе на іх і да апошняй гадзіны не збіраецца ісці ні да доктара, ні да папа.

Павярнуўшы са сляпучай вуліцы, я пайшоў міма капліцы ў цень старажытнай змрочнай мураванкі, якая нехлямяжа і трывала стаіць на скале з іншага боку гары і не лічыць часу, не ведае іншага сёння, акрамя сонца, якое вяртаецца з веку ў век, не ведае іншай змены, акрамя змены пораў года. Дзесяцігоддзе за дзесяцігоддзем, стагоддзе за стагоддзем. Калі-небудзь гэтыя старыя мураваныя сцены абрынуцца, гэтыя прыгожыя, змрочныя антысанітарныя куткі перабудуюцца і абрастуць цэментам, бляхай, водаправодам, гігіенічнымі прыстасаваннямі, грамафонамі ды іншымі культурнымі дабротамі, над касцямі старой Ніны вырасце гатэль з французскім меню альбо летняя віла нейкага берлінца. Але сёння гэтыя сцены яшчэ стаяць, і я пераступаю праз высокі каменны парог, падымаюся па крутой каменнай лесвіцы ў кухню маёй сяброўкі Ніны. Тут, як заўсёды, пахне каменем, і прахалодай, і сажай, і кавай, і — асабліва моцна — дымам ад сырога дрэва, а на каменнай падлозе перад велізарным камінам сядзіць на сваёй нізенькай лавачцы старая Ніна. У каміне гарыць агеньчык, ад дыму якога яе вочы крыху слязяцца, а яна рудымі скручанымі ад падагры пальцамі засоўвае ў агонь рэшту дроў.

— Прывітанне, Ніна, беражы вас Бог, вы мяне яшчэ памятаеце?

— О, сіньёр паэта, caro amico, son content di rividerla! [1]

Яна ўстае, хоць я гэтага не хачу, устае, і таму ёй патрэбны час: цяжка даць рады нягнуткім нагам. У яе левай руцэ дрыжыць драўляная табакерка, грудзі і спіна абвязаныя чорнай ваўнянай хусткай. Са старога прыгожага твару драпежнай птушкі сумна і насмешліва пазіраюць пранізлівыя разумныя вочы.

Яна глядзіць на мяне па-сяброўску кпліва: яна ведае «стэпавага ваўка», ведае, што хоць я і сіньёр, і мастак, але ўсё ж невялікая шышка, што я ў адзіноце блукаю па Тэсіне, зведаўшы, як і яна, зусім няшмат шчасця, хоць няма сумневу, што мы абодва вельмі яго жадалі. Шкада, Ніна, што ты нарадзілася на сорак гадоў раней за мяне. Шкада! Не кожны лічыць цябе прыгожай, таму-сяму ты падаешся хутчэй старой ведзьмай з чырвонымі вачыма, пакрыўленымі рукамі-нагамі, бруднымі пальцамі і нюхальным тытунём пад носам. Але што гэта за нос на зморшчаным арліным твары! Якая ў цябе пастава, калі ты выцягнешся ва ўвесь рост! А які разумны, які горды, які пагардлівы, хоць і не злосны, позірк тваіх выразных, вольналюбівых, адважных вачэй! Якой прыгожай дзяўчынай была ты, пэўна, сівенькая Ніна, якой прыгожай, мужнай, пародзістай жанчынай! Ніна нагадвае мне пра мінулае лета, пра маіх сяброў, сястру, каханую, якіх яна ведае, і адначасова пільна прыглядае за чайнікам, заўважае, калі закіпае вада, засыпае з кавамолкі каву, ставіць кубак, прапануе мне табакі — і вось мы сядзім каля агню, п'ем каву, плюём у агонь, распытваем, расказваем, урэшце змаўкаем, зноў гаворым пра падагру, пра зіму, пра сумнеўнае жыццё.

— Падагра! Б..дзь гэта, заклятая б..дзь! Брудная путана! Няхай яе чорт забяра! Няхай яна здохне! Ай, не будзем лаяцца! Я радая, што вы зайшлі, вельмі радая. Застанемся ж сябрамі. Цяпер, у старасці, не вельмі каго дачакаешся... Мне семдзесят восем...

Яна зноў з цяжкасцю ўстае і ідзе ў суседні пакой, дзе ў люстэркавай раме — пабляклыя фатаграфіі. Я ведаю, што яна шукае мне падарунак. Нічога не знайшоўшы, яна прапануе мне старую фотакартку, і калі я адмаўляюся, то мушу яшчэ хаця б раз нюхнуць з яе табакеркі.

У закопчанай кухні маёй сяброўкі не надта чыста: тут парушаныя ўсе санітарныя нормы, падлога запляваная, а з саламяных крэслаў звісаюць вырваныя пукі, і мала хто з вас, чытачоў, ахвотна выпіў бы з гэтага кафейніка, гэтага бляшанага жбанка з зацвярдзелым налётам высахлай кавы, які пачарнеў ад сажы і пашарэў ад попелу. Мы жывем тут за межамі сённяшняга свету і часу, жывем хоць і беднавата ды непрыглядна, крыху запушчана і не зусім дагледжана, затое блізка ад гары і лесу, побач з козамі і курамі, што квохчуць і бегаюць па кухні, поплеч з ведзьмамі і казкамі. Кава з пагнутага кафейніка мае цудоўны смак, моцная чорная кава з лёгкім, пахкім і горкім прысмакам дыму ад дроваў, і гэтыя пасядзелкі за кавай, і лаянка, і пяшчота, і адважны стары твар Ніны бясконца даражэйшыя мне за дванаццаць запрашэнняў на гарбату з танцамі, за дванаццаць вечароў з размовамі пра літаратуру сярод славутых інтэлектуалаў, хаця я, безумоўна, не адмаўляю адносную вартасць гэтых сімпатычных рэчаў.

Там, за сценамі, заходзіць сонца. У пакой зазірае Нініна кошка і залазіць да яе на калені, водсветы агню ўсё ярчэй бліскаюць на тынкаваных каменных сценах. Якой халоднай, якой жудасна халоднай бывае, пэўна, зіма ў гэтай высокай каменнай пустэчы, дзе няма нічога, акрамя маленькага адкрытага агню, які палае ў каміне, і старой самотнай жанчыны з падаграй, што жыве тут з адной толькі кошкай і трыма курамі.

Кошку яна праганяе. Потым зноў устае, высокая і падобная да прывіда, і стаіць у цьмяным святле — худая, нават кастлявая фігура з белымі валасамі і строгімі вачыма на твары драпежнай птушкі. Яна не адпускае мяне. Яна запрашае мяне яшчэ гадзінку пабыць яе госцем і ідзе па хлеб і віно.

[1] Дарагі сябра, як я радая зноў цябе бачыць! (іт.).

**Пераклаў з нямецкай**
**Уладзімір Папковіч**

АПАВЯДАННЕ

# Я ЦЁМНАЙ НОЧКАЙ МРОІЎ...

Эрых Марыя РЭМАРК
(1898–1970)



Вы, снежаньскія ночы 1917-га! Вы, ночы ў лазарэце, поўныя стогнаў і абрывістых крыкаў! Што значаць успаміны пра вас сёння, у часіну, якую ліхаманіць ад прагі да вайны і неміралюбства! Яшчэ не ўсё забылі, што ўзнікала тады з бруду і шэрасці, зноў зніклі гады, калі зямля атрымала больш крыві, чым дажджу?

Вы, ночы, у якія змрочнымі таварышамі ўсім былі мучэнне і смерць, туга па радзіме і смерць! Вы, ночы, над якімі зіхацець МІР НА ЗЯМЛІ, як віна і жалоба! Вас нельга забываць, вашая перасцярога ў гэтыя дні смуты не павінная быць занядбаная! Ніколі!

Чырвоны цагляны будынак шпіталя высока засыпала снегам, вецер грукаў у вокны, бляклае святло лямпаў на калідорах ледзь цеплілася, у трубах замерзла вада, а побач са мной у палаце, на падушках, падсунутых пад параненую спіну, ужо тыдзень паміраў унтэр-афіцэр Герхарт Брокман.

Раней, да вайны, ён быў настаўнікам у невялікай вясковай школцы. Калі ён яшчэ мог гаварыць, то часта расказваў пра гэта. Нас ляжала тады чацвёра ў палаце, і Брокман яшчэ верыў, што праз некалькі месяцаў ачуняе, і яго камісуюць. Ён хацеў вярнуцца ў пачатковую школу побач са старымі вясковымі магілкамі, дзе гулі пчолы і матылькі, упрыгожваючы надмагіллі, быццам ордэны, — назад да бярозавых прысадаў у светлым змярканні лета, назад да свайго класа з піяніна і мноствам кніг на паліцах, назад да гэтага цэлага сусвету спакою, які існаваў калісьці.

— Дзеці, а потым... — сказаў Герхарт і, абапершыся на локаць, узняўся так, што шэрыя рукавы задраліся на схудненых руках, — цэлы ўрок спявалі! Гэта самае цудоўнае! У нас была песенька... Яе мы маглі спяваць ажно на тры галасы! Верыце ці не, але народная школка з адзіным класам спявала на тры галасы, як хор. Не ведаю, ці знаёмы вам матыў «Я цёмнай ночкай мроіў...» Мне неабходна пачуць яе яшчэ разок...

Было цяжка вытрываць яго хуткі, пранізлівы позірк. Мабыць, песня для яго шмат значыла, бо ён часта да яе вяртаўся. Магчыма, яе спявала дзяўчо, якое ён кахаў. Нават пасля, калі памерлі Петэрсан і Фішэр, ён пачынаў менавіта з яе, нават калі я рэзка абрываў:

— Так, я ведаю яе, Герхарт, нават усе строфы.

Ён чакаў, пакуль прыйдзе ардынатарская сястра, каб прачытаць ёй песеньку. Часам ён спрабаваў наспяваць мелодыю сіплым, надрыўным голасам. Калі голасу не заставалася, гэта нагадвала апошнія думкі, якія, як мухі, гулі ў абцягнутым скурай чарапным звоне. Трыццаць гадоў, Герхарт Брокман, нескразное раненне ў лёгкае, сухоты. Ён выглядаў на восемдзесят.

Вы, снежаньскія ночы 1917-га! У кастрычніку, калі ападала лісце, пачаліся смерці. Спачатку нас было чацвёра ў палаце, цяпер засталіся толькі Брокман і я. Снег біў у вокны, быццам нябачны гадзіннік, дзверы аддаляліся, смерць блукала вакол шпіталя, тэмпература выпаўзала з кутоў, а сон не змыкаў павекаў. Але калі ён прыходзіў, прыносячы цяжкія мроі, я прачынаўся ад ціхага стомленага голасу з кута палаты. Голас шаптаў, захлынаючыся ў змроку: «Святла... святла... Богам малю...» Потым у вачах Брокмана з'яўляўся агеньчык, які цьмяна і трывожна зззяў на пустым твары. Павольна і дапытліва Герхарт абводзіў позіркам пакой, быццам некага шукаў. Ён ніколі не хацеў спаць: думаў, што так не памрэ.

Калядная раніца выдалася шэрай і сумнай. Медсёстры ў вялікай зале лазарэта зладзілі свята, упрыгожылі елку ліхтарыкамі, шарамі і каніцеллю, а кожны з нас атрымаў у падарунак яблыкі, кексы, цыгарэты і нават пару шкарпэтак. У абед да мяне прыйшлі. Мой таварыш Людвік Браер. Мы згубілі адзін аднаго ў Фландрыі падчас наступлення, і мне даводзілася чуць, што ён загінуў. Але цяпер ён стаяў перада мной здаровы, збіраючыся ў адпачынак на чатырнаццаць дзён. І ўсё ж са Святога вечара не прыйшоў ніводны сапраўдны сябар. Усе ведалі: Брокману засталося жыць вельмі мала.

Канцылярыя марна спрабавала адшукаць родных і тэлеграфаваць, каб нехта прыехаў пабыць з Брокманам апошнія дні. Не ўдалося. Бацькі памерлі, братоў і сясцёр у яго не было, а на іншыя пытанні ці мог ён цяпер адказаць? Ён цэлы дзень толькі хрыпеў.

Людвік Браер сядзеў у мяне, пакуль не пачало змяркацца. Ён хацеў дадому, да маці.

— Не злуйся, — прамовіў ён. — Я да гэтага не звыклы. У атацы ўсё імгненна, яно выглядае не так. А тут працінае да нырак, нават больш, чым калі полк бяжыць на пару тузінаў аўтаматаў.

Я кіўнуў і глядзеў у акно яму ўслед, пакуль ён не знік. Потым запаліў святло — ну і няхай медсёстры лаюцца на абходзе, маўляў, трэба эканоміць і да таго ж вельмі рана. Я накульгваў, ідучы ў палату да лёгка параненых, але не хацеў пакідаць Брокмана аднаго. Не хацеў я і заставацца з ім у цемры, бо і без гэтага шмат думаў пра тых, што тут памерлі. Таму я лёг на ложак апранутым. Мне падалося, што так будзе лягчэй трываць стогны Брокмана. Потым мне зрабілася абыякава.

Ардынатарская сястра зайшла ў палату раней, чым звычайна. Я адразу ж пацягнуўся выключыць лямпу, але яна не звярнула на гэта ўвагі, падышла да ложка Брокмана і нахілілася.

Крыху паслухала, потым паціснула плячыма. У дзвярах з'явіўся бляклы вузкі твар аперацыйнай сястры.

Я не разумеў, што адбываецца. Як можна аперавацьГерхарта?! Я адразу ўскочыў. Аперацыйная сястра ўсміхнулася. Гэта мяне засмуціла, бо калі яна ўсміхалася, за гэтым звычайна хавалася нешта небяспечнае. Магчыма, яна думала пра мяне і хацела яшчэ раз аднесці на бойню.

Але тут яна падышла да Брокмана, а затым прамовіла: «Мы можам паспрабаваць».

Я здзіўлена прыпадняўся. Перад расчыненымі дзвярыма па калідоры пракрочыла група дзяцей. З імі была маладая дзяўчына.

— Гэта настаўніца, — прашаптала мне сястра. — Яна ляжыць ужо тыдзень у жаночым аддзяленні. Мы расказалі ёй пра Брокмана, і яна прывяла клас, каб Герхарту было радасна на Каляды. Спадзяюся, ён пачуе.

— Што? — запытаўся я, і нейкае падазрэнне сціяла мне дыханне, а яны зайшлі і заспявалі тонкімі галасочкамі: «Я цёмнай ночкай мроіў і бачыў цяжкі сон».

Мяне быццам ударылі, і ўсё ўва мне перавярнулася. Яны пра гэта думалі! У паўасветленай палаце, дзе лунаў пах смерці, у мяне з'явілася адчуванне, што да нас вярнулася страчаная Радзіма, вярнулася і павітала нас. Камяк падкаціў да горла. Але я сабраўся з сіламі і зірнуў на Брокмана: ці чуе ён песню? Першую страфу ён ляжаў не варушачыся. Сястра махнула рукой, і дзеці падышлі бліжэй. Яны пачалі другую страфу. Рукі Брокмана, быццам мышы, замітусіліся па коўдры. Потым ён раскінуў рукі і так ляжаў, быццам скарыўся лёсу. Я падумаў, што гэта канец, але тут ён расплюшчыў вочы — вялізныя, пяшчотныя, з нейкім невытлумачальным выразам. Твар быў падобны да краявіду на кратэры — нерухомы, спустошаны, шэры, — але вочы былі прыгажэйшыя, чым вочы дзяўчыны, якая спявала з дзецьмі. У гэтых вачах быў спакой, якога не было на твары.

Песня скончылася. Брокман не варухнуўся. Ён ляжаў вельмі ціха. Настаўніца кіўнула, і дзеці пачалі песню зноў. Тут Герхарт павярнуў галаву, быццам слухаў, і нешта падобнае да баязлівай лёгкай усмешкі прабегла па яго твары. Ён заварушыў вуснамі. Я схіліўся над ім. Спачатку словаў было не разабраць, таму я пасунуў трохі вышэй падушку пад ім.

— На тры галасы, — шаптаў ён, — на тры галасы...

Ён змоўк і паглядзеў на дзяўчыну. Яна была вельмі маладая, і я не мог паверыць, што яна ўжо настаўніца. Мне ж самому было толькі дзевятнаццаць, але я адчуваў сябе старым. Яна выглядала яшчэ дзіцем і, напэўна, не разумела, што адбываецца. Магчыма, яна хацела зрабіць хвораму штo-небудзь добрае, але зусім не думала, што тут ляжыць чалавек, перад якім заходзіць свет і які яшчэ раз бачыць сваё юнацтва.

Вечарам, а дзявятай, Герхарт зрабіўся неспакойным. А палове дзясятай стала бачна, што яго цела кідае на барацьбу са смерцю апошнія рэзервы. А дзясятай ён рыпеў, як лакаматыў, пот ручаямі ліў па твары, Герхарт трымцеў і задыхаўся, лёгкія булькаталі, а скрыўленыя вуснык хапалі паветра. Потым ён сціх, але застаўся ў прытомнасці.

— Дайце ж яму морфію, каб ён супакоіўся, сястра, — прасіў я.

Яна адмоўна хітнула галавой.

— Гэта супярэчыць веры, — адказала яна.

— Тады дайце мне, — сказаў я. — Гэта ж усяго толькі міласэрнасць! Пакіньце вось тут! Забудзьцеся, калі будзеце выходзіць!

Яна зірнула на мяне.

— Смерць — справа аднаго Бога, — сказала яна і ціха дадала: — А калі не так, то як тут можна вытрываць?

А палове адзінаццатай зрабілася так дрэнна, што я не мог больш на яго глядзець. Я мусіў нешта зрабіць і хутка зразумеў, што.

Як я выйшаў з палаты, не памятаю. Таксама не памятаю, адкуль даведаўся, у якой палаце ляжыць тая дзяўчына. На шчасце, па дарозе мяне ніхто не бачыў. Я не ведаю, што я сказаў ля яе дзвярэй, але яна, мусіць, зразумела, бо пайшла са мной, не задаючы лішніх пытанняў.

Яна села на ложак Брокмана і ўзяла яго потную далонь. Дзяўчына трымцела, але трымалася мужна. І тое, на што я ледзь спадзяваўся, здарылася: Герхарт супакоіўся. Ён і далей хрыпеў, але не так пакутліва.

Начная сястра прыйшла а дванаццатай. Гэтая тлустая жанчына была адзінай, якая нікому не спачувала. Убачыўшы дзяўчыну, яна развярнулася і пайшла назад. Я паспрабаваў усё растлумачыць. Але яна толькі хітала галавой. Шпіталь каталіцкі, тут з такім строга. Для сястры смерць была будзённасцю, нашмат больш незвычайнай была прысутнасць у нашай палаце дзяўчыны.

— Яна не можа тут заставацца, — сказала сястра і паглядзела на мяне.

— Але... — запярэчыў я і паказаў на ложак.

Сястра туды нават не зірнула.

— Хворы ляжыць ціха, — сказала яна. — Пані мусіць ісці! Неадкладна! Яна яму не сваячка!

Дзяўчына пачырванела, вызваліла рукі і хацела падняцца. Але ў гэты момант з вуснаў Герхарта пачуўся гартанны крык, яго скрывіла ад жаху, і мне падалося, што ён кліча нейкую Анну.

— Застаньцеся! — раз'юшана прамовіў я і стаў паміж дзяўчынай і сястрой.

Мне было ўсё роўна, што здарыцца далей.

Сястра затрэслася ад абурэння і звярнулася да дзяўчыны:

— Пані, пакіньце палату! Я сама застануся з хворым.

— Не варта, — жорстка растлумачыў я. — Ён даволі часта злаваўся на вас.

Яна скіравалася да дзвярэй:

— Тады я мушу паведаміць. Я зараз жа пайду да доктара!

— Ідзі ты да шыбеніка, старая сава! — кінуў я наўздагон.

Напружана, нецярпліва чакаў я, што ж будзе. Я цвёрда вырашыў: ніхто больш не ўвойдзе ў палату. Гэта была толькі нашая з Герхартам справа. Яна не датычыла больш нікога.

Але больш ніхто і не прыйшоў.

Герхарт памёр раніцай, на другія суткі пасля Калядаў. Памёр лёгка, у сне. Дзяўчына заставалася з ім, пакуль усё не скончылася. Потым мы моўчкі крочылі праз бляклае снежнае святло калідора. Цяпер, калі ўсё мінула, мне зрабілася цяжка на сэрцы ад размовы з сястрой. Нічога прыемнага ў такіх шпітальных справах не было. Мне, канечне, усё адно, але лепей, калі дзяўчына пакіне бальніцу.

— Спадзяюся, у вас не будзе праз гэта праблем, — сумна вымавіў я.

Яна зрабіла невыразны рух і паглядзела наперад:

— Не мае значэння... У параўнанні з гэтым...

Я зірнуў на яе. У яе быў зусім іншы твар. Вечарам, калі яна спявала з класам, гэта быў твар дзяўчынкі — а цяпер я глядзеў у сур'ёзны, сканцэнтраваны твар чалавека, які шмат ведае і зазнаў пакуты.

Вяртаючыся назад, я ўвесь час думаў пра гэта і дзівіўся: цяпер, калі званы пачалі клікаць да ранішняй імшы, мне ўпершыню з таго часу, як я стаў салдатам, было спакойна. Я адчуваў, што зрабіў нешта добрае, я зноў ведаў, што ёсць нешта, апроч вайны і разбурэння, што гэта вернецца. Спакойна і павольна я вярнуўся ў палату, у якой золатам і шэранню зіхацела святло раніцы. У ложку больш не ляжаў выпадковы салдат Герхарт Брокман. У ложку ляжаў вечны таварыш, і яго смерць ужо не была жахам — яна была запаветам і абяцаннем. Абаронены і супакоены, лёг я побач з ім.

Вы, снежаньскія ночы 1917-га! Вы, ночы пакутаў і шэрасці! У вашай невытлумачальнай бядзе прачнулася надзея і воля да чалавечнасці! Вас нельга забываць, вашая перасцярога ў гэтыя дні смуты не павінная быць занядбаная! Ніколі!

Пераклаў з нямецкай
Арцём Арашонак

ЛЕКТОРЫЙ

# У ПАЎНАВОДНАЙ ПЛЫНІ, або З ДАЎНІНЫ ДА НАШЫХ ДЗЁН

Генрых ДАЛІДОВІЧ

**Такую літаратуру называюць па-рознаму. Дакументальнай, дакументальна-мастацкай, мастацка-дакументальнай альбо і з іншым аўтарскім жанравым азначэннем.**

Яна мае ў нас даўні пачатак. Мо і з часоў полацкага князя, кніжніка Ізяслава ці яго сына Брачыслава альбо ўнука Усяслава: пры кімсьці з іх мог павесціся летапіс, які пазней, у войны, зусім не выпадкова знікне са старажытнага Полацка і які яшчэ будзе трымаць у руках рускі гісторык XVIII ст. В. Тацішчаў.

У Беларусі дакументальна-мастацкая (ці з перастаноўкай значэнняў) аснова твора засведчана, бадай, з канца XII ст., калі мо полацкі манах Міхаіл склаў «Жыціе Еўфрасінні Полацкай» (мы ведаем тэкст са спісу ці не XV ст.) і калі, па меркаванні асобных даследчыкаў, той (пазнейшыя перапісчыкі?) пры расказе пра слынную асветніцу мог выкарыстаць і свае назіранні, і яе творы. І ўсё, нават самыя маленечкія падрабязнасці, выйшла неацэнным. Яшчэ выказваецца гіпотэза, што К. Тураўскі напісаў не толькі шмат прытчаў, малітваў, казанняў, а каля 1187 года і «Слова аб палку Ігаравым», дзе ёсць і канкрэтныя эпізоды полацкай гісторыі, асобныя справы славутага Усяслава. Магчыма: тураўчанін быў адзін з самых буйных тагачасных эрудытаў, таленавітых пісьменнікаў і, як ён вобразна зазначаў, «ратаяў слова». Я, сумніцель, схільны лічыць: «Слова» склаў умелы кампілятар Мусін-Пушкін, каб напрыканцы XVIII ст. апраўдаць захоп Кацярынай II беларускіх і многіх украінскіх земляў, што задоўга да дзяржавы «Расія» ўжо мелі сваю дзяржаўнасць. Таму ў мусін-пушкінскіх закліках пра «адзінства» была найперш свая «надзённая ідэалагічная задача»: абгрунтаванне ўзвышэння імперыі і скоранасці новых яе складнікаў.

Да Скарынінскай эпохі сярод прааранага тагачасным афіцыйным словам ярка выдзяляецца першы агульнадзяржаўны хранікальны звод «Летапіс вялікіх князёў літоўскіх» (1430–1446), дзе ў звязцы са старажытнасцю ўсходніх славян была пададзена гісторыя яшчэ маладой дзяржавы на еўрапейскай карце — ВКЛ. Гэты летапіс хораша аблітаратурыла тое, што ягоны аўтар (аўтары) да пазначэння падзей, учынкаў іх удзельнікаў дадаў свае вольнасці, празаічныя элементы: кароткае апісанне прыроды, думак герояў, магчымыя дыялогі паміж імі і інш. (Я. Длугаш выкарыстоўваў летапіс для напісання «Гісторыі Польшчы»).

Ф. Скарына ў прадмовах да перакладу Бібліі развіў жанры публіцыстыкі па розных галінах чалавечых ведаў, а таксама каментарыя, анатацыі, а часамі і лірычнай прозы ці вершаў у прозе і ўжыў такія залацінкі беларускай мовы, якія і сёння зіхацяць: «грошы», «досыць», «згода», «кут», «мінулы», «натхненне», «пільнасць», «прамень», «сенажаць», «смутак»... Ён мог браць удзел і ў складанні Статута ВКЛ 1529 года. Ён не мог таксама не натхніць шырока адукаваных на еўрапейскіх дасягненнях, здольных да пяра сучаснікаў, наступнікаў на напісанне сваіх твораў.

XVI і XVII стагоддзі — уздым, нават узлёт нашай літаратуры на старабеларускай (тагачаснай пісьмовай з выкарыстаннем гутарковай), польскай і «трасянковай», лацінскай мовах. Я. Вісліцкі ў «Прускай вайне» (1057 радкоў пра Грунвальдскую бітву, Ягайлу, Вітаўта) імкнуўся са спалучэннем дакументальнасці і мастацкасці, з дапасаваннем вобразна-сімвалічнай сістэмы Антычнасці ўславіць подзвіг продкаў (пра таксама вызначальную Клецкую бітву 1506 года і Аршанскую 1514-га напіша адзін з самых вядомых гісторыкаў Рэчы Паспалітай М. Стрыйкоўскі, калі патрапіць служыць у Беларусь, Літву і азнаёміцца з гісторыяй). М. Гусоўскі «Песняй пра зубра» змог здзівіць пераборлівага заходняга чытача не проста дакументальным, а высока паэтычным майстэрствам апісання непаўторнасці, хараства нашай, адрознай ад іншай прыроды, сэнсу і ўцехі палявання, велічы цара нашых лясоў. Складаюцца «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» (версія пра паходжанне яго князёў, ідэалагічная спроба ўзвялічыць Аўкштайцію і Жамойць), «Хроніка Быхаўца» (гісторыя ВКЛ прадоўжана да XVI ст.), Баркулабаўскі летапіс (гісторыя Усходняй Беларусі другой паловы XVI — пачатку XVII стст.).

Са з'яўленнем «Перагрынацыі» М. К. Радзівіла (апісаў сваю паездку па многіх краінах да Святой зямлі) і «Дыярыуша» Ф. Еўлашоўскага, які ўспамінамі свайго жыцця з 1564-га па 1604-ы гады заклаў пачатак мемуарыстыкі, ужо можна з поўным правам лічыць усталяванне дакументальна-мастацкай ці мастацка-дакументальнай літаратуры. У XVII ст. гэтая тэндэнцыя, а з ёю і прафесіяналізм творцаў яшчэ больш узмацняцца, што прывядзе да сцверджання ў нас дакументальнай, мастацка-дакументальнай, гістарычна-мемуарнай прозы: «Дыярыуш» С. Маскевіча (рэзкаватае апісанне ладу ў Рэчы Паспалітай, тагачаснай Масквы і Смутнага часу), «Дыярыуш» А. Філіповіча (разнастайныя карціны тагачаснага прыватнага і дзяржаўнага жыцця, у тым ліку і рэлігійнага; павышаная роля аўтара як грамадзяніна-палеміста і творчай асобы), «Дыярыуш» А. Каменскага-Длужыка (маскоўскі палон, апісанне змушаных пакутных вандровак па Сібіры і Далёкім Усходзе; гэтае апісанне названых абшараў і для рускай літаратуры ці не адно з самых



ранніх), «Успаміны» Я. Цадроўскага (падзеі 1650–1670 гадоў у ВКЛ, наведванне іншаземных краін), «Магілёўская хроніка» купецкага старасты горада Т. Сурты (яго дапоўнілі дзед, сын, унук Трубніцкія і такім чынам адлюстроўваюць у летапісе падзеі з 1526 года па 1856-ы)... Спіс гэты можна доўжыць і доўжыць. І з паэзіі, прамоў, лістоў, інтэрмедый, а пазней і з іншых відаў драматургіі...

У XVII ст. «стары» этап тагачаснай беларускай літаратуры завершыць палачанін С. Полацкі і заадно ў Маскве закладзе новы, які найперш ажывіць рускую літаратуру. У прыватнасці, выступіць пачынальнікам «той галіны мастацкай творчасці, якая да яго была амаль зусім не распрацавана, — паэзіі і драматургіі» (напісана і выдзелена Яроміным І. П.). Праўда, гэта і іншае (выхаванне царскіх дзяцей, наладжванне школы для тагачаснай спецслужбы, друкарні, бібліятэкі) не ўратуе яго ад анафемы тамашніх рэлігійных і свецкіх кансерватараў, з якімі пазней рашучую ідэйную барацьбу павядзе Пётр І. Як ужо і ў XVII ст., у наступным беларуская літаратура пачне абмяжоўвацца ананімнай паэзіяй (сярод паіменаваных аўтараў выдзеліцца Ф. Радзівіл з Нясвіжа, якая стане заснавальніцай першага на беларускіх землях прыдворнага тэатра і першай жанчынай-драматургам у Рэчы Паспалітай). Тэатральнае мастацтва пакліча да развіцця жанру камедыі, персанажы якой у залежнасці ад сацыяльнага стану размаўляюць на розных мовах: лацінскай (ксёндз), польскай (пан), беларускай (селянін), «трасянцы» (яўрэй, цыган).

У XIX ст. у літаратуры, створанай на нашых землях, пэўным чынам аднаўлялася мастацка-дакументальная традыцыя, абуджалася нацыянальная свядомасць у асноўным польскамоўнымі пісьменнікамі (найперш паэмы, вершы А. Міцкевіча пра часы ВКЛ, а таксама балады Я. Чачота, нарысы з вандровак па беларускай зямлі Ул. Сыракомлі, шматлікія этнаграфічныя апісанні, запісы фальклору і г. д.), і сітуацыя паклікала для прыгожага пісьменства на занядбанай, загнанай пад сялянскія стрэхі беларускай мове не аматараў, а прафесійнага пісьменніка (В. Дунін-Марцінкевіч; вяршыняй прызнана творчасць Ф. Багушэвіча). Яна, сітуацыя, таксама вымагала далучэння да польскага паўстання і клічу да народа «Мужыцкай праўдай».

А пасля 1905-га, калі больш за 200 гадоў забароны, з беларускай мовы крыху сцягнулі надмагільную пліту, яна ўміг ажыла, абудзіла духоўнасць, годнасць, літаратуру і культуру! Калі не строга дакументальная, то рэчаісная аснова паўнакроўна выявілася ў многіх вершах і паэмах Я. Купалы, дасягнула непаўторнага мастацкага ўзроўню ў «Новай зямлі» Я. Коласа, натуральна прысутнічае ў нарысах «Лісты з дарогі» Ядвігіна Ш. Многія апавяданні, аповесць «На імперыялістычнай вайне» М. Гарэцкага (а пазней ягоныя «Віленскія камунары» і «Камароўская хроніка») — якасна новы этап развіцця гэтага жанру. Пісьменнік у вышэйназваных першых двух буйных творах так «расшчапіў» рэчаіснасць, перажытыя ім падзеі на Першай сусветнай вайне, грабежніцкай з усіх бакоў, так сродкамі простай, дакладнай ды надзвычай яркай, з залатым россыпам слоў мовы сплавіў розныя стылі ў свой каларытны, што гэтыя творы ўжо не толькі «набліжаюцца да мастацкіх», а з'яўляюцца літаратурай найвышэйшай пробы. Пазней да яе хіба наблізяцца «У кіпцюрох ГПУ» Ф. Аляхновіча, пасляваенныя эсэ і нарысы В. Таўлая (у адным з твораў ён прадбачыць з'яўленне ў будучым тэмы спаленых вёсак), «Веча славянскіх балад» Я. Сіпакова, гістарычныя празаічныя творы і драмы У. Караткевіча, калектыўная кніга «Я — з вогненнай вёскі», паэма «Хамуціус» А. Куляшова. Асобна ганаровае месца ў гэтым пантэоне займае «Споведзь» Л. Геніюш. Сугучна дакумент і мастацкую тканіну выдатна ўжыў І. Мележ у «Подыху навальніцы» пры паказе пачатку калектывізацыі ў палескай вёсцы. Змястоўна папоўнілі дасягненні ў адлюстраванні старажытнай гісторыі В. Іпатава, Л. Дайнека, К. Тарасаў, В. Коўтун. Пэўныя поспехі ў А. Петрашкевіча ў гістарычных п'есах, І. Новікава ў дакументальных аповесцях пра падпольшчыкаў у час Другой сусветнай вайны.

Варты самага прыязнага слова многія гістарычныя эсэ, нарысы, аповесці і раманы, п'есы на тэму гісторыі маладзейшай кагорты пісьменнікаў і тых, хто таксама спрычыніўся да распрацоўкі гісторыка-культурных слаёў і якія ўсе разам паспрыялі па-новаму засвяціцца многім летапісам і іншым як вядомым, так і мала знаным дакументам на глебе іх мастацкага асэнсавання: У. Арлоў, А. Бутэвіч, К. Цвірка, М. Арочка, А. Пашкевіч (пра яго прозу мной апублікаваны асобны артыкул — гл. часопіс «Дзеяслоў», №64), А. Краўцэвіч, А. Курэйчык, Н. Масляніцына і М. Багадзяж, В. Чаропка, В. Хурсік, М. Казлоўскі, С. Чыгрын... Дыханнем больш блізкай і нядаўна абылганай гісторыі літаральна ўзвысілі душу свядомаму чытачу А. Сідарэвіч (праўда пра БНР і аднаго з яе айцоў А. Луцкевіча), Л. Маракоў (мартыралог рэпрэсаваных, знішчаных сталіністамі лепшых сыноў нашага народа), А. Валахановіч (сумесна з У. Міхнюком падрыхтаваў і выдаў «Споведзь у надзеі застацца жывым» — разнастайныя матэрыялы з трагічнага жыцця Б. Тарашкевіча, якога за «саветызм» зняважалі ў польскім сейме і кідалі ў турму, а пасля, у СССР, яго знішчылі як «польскага шпіёна»), Э. Ялугін (расказ пра настойлівае змаганне Зм. Жылуновіча ўтварыць Савецкую Беларусь і пра дзікую расправу з ім сталінскіх апрычнікаў). Свой важкі ўклад унесла «Наша ніва», выдаўшы запісы Г. Кірылавым успамінаў былых пасляваенных навучэнцаў педвучылішчаў у некаторых раёнах Заходняй Беларусі, якіх подла звінавацілі ў антысавецкай дзейнасці і папоўнілі імі ГУЛАГ, чым зрэзалі верхні слой нацыянальна свядомай беларускай моладзі. Нельга не згадаць і кнігу Р. Клімовіча — аднаго з 5 тысячаў беларусаў-вязняў Нарыльска і аднаго з кіраўнікоў паўстання там у 1953-м супраць савецкага рабства. Гэта — вялікая падмога напісаць новыя і дакументальна-мастацкія, і мастацкія творы пра нашых пакутнікаў за чысціню думак, сумленнасць душы, за гарачае імкненне верна служыць свайму народу (як ведаю, адзін наш пісьменнік мае ўжо амаль гатовы раман пра лёс вышэйназванай заходнебеларускай моладзі). Як вялікай падзякі заслугоўваюць і тыя пісьменнікі-навукоўцы, хто спрыяў больш акрэслена пракладаць па цаліне больш абвешкаваны шлях да гістарычных часоў і крыніц: А. Мальдзіс, Г. Кісялёў, М. Ермаловіч, В. Чамярыцкі (ён, напрыклад, адзін з каментатараў, навуковы рэдактар такіх унікальных выданняў, як «Беларускія летапісы і хронікі», «Анталогія даўняй беларускай літаратуры. XI — першая палова XVIII стагоддзя» і інш.), літаратуразнаўцы А. Коршунаў, А. Мельнікаў, Ж. Некрашэвіч і У. Кароткі, а таксама даследчыкі больш блізкіх нашых трагедый: А. Лукашук, І. Кузняцоў, І. Мельнікаў...

РЭЦЭНЗІІ

# ЗАПРАШАЕМ У ГАРОДНЮ, У «НОВЫ ЗАМАК»

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

**Літаратурныя альманахі ў Гародні маюць ужо стогадовую гісторыю. Першы быў выдадзены ўдзельнікамі Гродзенскага гуртка беларускай моладзі ў 1913 годзе. Захавала і яго, і звесткі пра тое выданне пісьменніца з Беласточчыны Зоська Верас — адна з заснавальнік і актыўных удзельнікаў гуртка.**

Цяпер гарадзенскія пісьменнікі атрымалі новы альманах, назва якога «Новы замак». Больш дасканалай для творцаў, большасць з якіх жывуць у адзіным у Беларусі месце, дзе захаваліся каралеўскія замкі, і быць не можа. Стварыў гэты вобраз, канцэпцыю выдання, уклаў альманах гарадзенскі празаік Сяргей Астравец.

Чаму «Новы замак»? Кожны для сябе тлумачыць сэнс гэтай назвы. «Калі мы гаворым «Новы замак», мы бачым спачатку браму. Так, мы апынаемся перад двума сфінксамі, якія яе ахоўваюць. Сфінксы заўсёды маўчаць. Але бачылі яны шмат за свае дзвесце пяцьдзясят гадоў», — так пачынае сваё ўступнае эсэ Сяргей Астравец. Пра што маўчаць сфінксы? Што адбывалася за гэтаю брамаю? Маю надзею, што і ў творах гэтага выдання ўдумлівы чытач зможа знайсці для сябе адказы.

Для мяне ў назве альманаха адразу пачуўся перазоў з кнігай гарадзенскіх паэтаў «Лабірынты прывіднага замку», выдадзенай крыху больш за дзесяць гадоў. Кожны творца спрабуе ўзвесці свой замак. Але колькі ж давозіцца паблукаць па яго лабірынтах у пошуках і выйсця, і вяршыні, каб часцей за ўсё прыйсці да высновы: усё гэта ёсць толькі прывідам.

«Новы замак» тэматычна атрымаўся гарадзенскім. Хоць аўтары прапаноўвалі свае творы, відавочна, не надта пра гэта задумваючыся. Проста, Гароднія — гэта такое места, якое ўплывае на творцаў надзвычайна. Недарэмна ж Хрыстос прыземліўся ў Гародні. Як неадноійчы рабіў тое і аўтар вядомага рамана.

Найбольш багатай паўстае паэтычная ніва альманаха. У Гародні традыцыйна многа паэтаў. Пра гэтую старонку шмат гаварылася на прэзентацыі, што сталася знакавай у розных сэнсах: адбылася 21 сакавіка, у сусветны дзень паэзіі, і, зразумела ж, у Новым замку. Працытаваў тут артыкул Усевалада Сцебуракі, які дакладна акрэсліў асноўныя адметнасці паэтычных твораў. Альманах «распачынае маладая гарадзенская паэтка Ганна Аўчыннікава, аўтарка кнігі «Ад зачыненай брамы». Далей ідзе нізка вершаў-прысвячэнняў, створаных у адметнай манеры вядомай паэткай Данутай Бічэль. Гэта сапраўдная галерэя партрэтаў Ларысы Геніюш, Адама Станкевіча, Кастуся Тарасава і іншых славутых беларускіх дзеячаў рознага часу. Наогул, варта адзначыць прыемную зместавую



і стылёвую разнастайнасць твораў, змешчаных у паэтычным раздзеле альманаха. Тут і светлая лірыка Уладзіміра Васько, і праўдзіва-шчырыя прызнанні Анатоля Валюка, і зараджаныя пазітывам палкія, як маніфесты, вершы Алеся Жамойціна, і напоўненыя жыццёвай мудрасцю творы Яўгена Петрашэвіча, і класічныя трыялеты Алеся Старадуба, і эксперыментальныя таўтаграмы Сяргея Чыгрына».

Дапоўнім гэты пералік згадкай пра глыбокія, без паэтычнага прыхарошвання вершы Юркі Голуба, які шмат зрабіў, каб «Новы замак» паўстаў (альманах, зауважым, выдадзены пры падтрымцы Саюза беларускіх пісьменнікаў). Назавем яшчэ адно імя — Анатоль Брусевіч. Знакавае для сённяшняй Гародні. Паэт, які стварае цалкам адметны свет. Але ўжо і не стварае. А непарыўна суіснуе з гэтым светам. Бо ўсялякія моманты гульні, штучнасці, забавы з жыццём і паэзіяй адкінуты творцам. Бо занадта многа болю і стратаў шчодра падаравана яму Небам:

*Мой свет разарваны на тысячу сказаў.*
*На тысячу словаў разбіта маўчанне.*
*Мой Божа, навошта ты дорыш адразу*
*Так многа адценняў і ценяў адчаю?*

Што да прозы, то найперш вылучаецца аповесць-эсэ Сяргея Астраўца «Мармур не смяецца», што падзагалоўкам мае «Гісторыя праз дзвесце дваццаць год». Твор не для люду паспалітага. Успрымаецца вельмі няпроста. З многіх прычынаў. Найперш з-за неадназначнасці постаці галоўнага героя апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Няпроста зразумець і прыняць аўтарскае стаўленне да свайго, як прынята лічыць, зусім не геройчнага героя. Не спрыяе лёгкасці чытання і складаны сінтаксіс. Але проста патрэбна знайсці своеасаблівы ключ да рытму мастацкай прозы аўтара, каб яе гучанне не было не толькі складаным, а прыносіла сапраўднае задавальненне чытачу.

Зрэшты, аўтар дае багата падказак, як успрымаць яго творы, дзе героем не толькі кароль, але і сам каралеўскі горад. Не той рэальны, у якім існуюць месцічы, а створаны аўтарскім разуменнем: «Мой каралеўскі горад для мяне — тэатр у звычайным разуменні і тэатр, дапусцім, гістарычны». Таму і блукае між гэтымі рознымі часавымі пластамі аўтарская думка, вылучаючы істотнае то з часоў даўніх, то з змрочнага сёння.

У традыцыйнай манеры створана апавяданне Валянціна Дубатоўка «Бацька», у якім аўтар шукае і знаходзіць цікавыя сюжэтныя хады, пераплятаючы людскія лёсы. Ставіць героя перад выбарам, калі выбару ў яго няма.

З адметным пачуццём успрымаецца сёння эсэ Юрыя Гуменюка «Цені Бруна Шульца ў Гродне», паэта, які так трагічна-неспадзявана сыйшоў мінулаю завейна-сцюжнаю зімою. Гэта ягоны апошні, прапанаваны да друку, твор. Неістотна, што ён ужо быў надрукаваны ў перыёдыцы. Тут, у гэтым выданні, эсэ вельмі дарэчы. Як падкрэсліў сам аўтар у назве, твор ягоны таксама гарадзенскі. Бо не проста пісаў Юра пра цікавую постаць Бруна Шульца, цікавую для яго, імкнуўся, каб і для іншых яна стала такой жа. Цалкам лагічна і як жа памайстэрску даводзіць ён еднасць эстэтычнае прасторы Гародні і радзімы польскага пісьменніка далёка-блізкага Драгобыча, далёка-блізкага міжваеннага дваццігоддзя: «Не ведаю, як у іншых беларускіх гарадах, а ў Гродне прысутнасць Бруна Шульца не выклікае асаблівых пярэчанняў, яна вельмі адчувальная. Мабыць, таму, што сам горад, як былая рэзідэнцыя каралёў Рэчы Паспалітай, і як знакавае месца на скрыжаванні розных культур і рэлігійных традыцый, арганічна ўпісваецца ў сістэму шульцаўскіх вобразаў і фантасмагорый. Калі з галавой панурыцца ў дзіўны метафарычны свет пісьменніка<…>, можна пазнаць і «Вуліцу кракадзілаў», і «Цынамонавыя крамы» і, напэўна, тых крыху дэманічна-пажадлівых кабетманекенаў». Юра якраз і ўмеў «з галавой панурыцца», зайсці ў той свет. І бясконца блукаць у ягоных лабірынтах. Пазначым жа для сябе: працытаванае — гэта апошнія словы гарадзенскага паэта пра ягоны ўлюбёны горад.

Дзённікавыя запісы прафесара Гродзенскага ўніверсітэта Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча «Крэскі з мае дарогі» ахопліваюць невялікі па часе пласт (1988–1991), але гэта былі гады надзвычайна напружанага жыцця, калі грамадскія справы літаральна захапілі ў палон вучонага-літаратуразнаўцу. Бо верылася, што з тых намаганняў будзе плён, бо першыя вынікі з'яўляліся. Але як смутна ведаць, што з таго сталася, і колькі не было напісана, не створана аўтарам. Аддадзены былі сілы на алтар беларушчыны, якая ніколі не была ласкавай да сваіх працаўнікоў.

Што да асобна вылучанага раздзелу перакладаў, то ў большасці гэта перастварэнні з польскае літаратуры, што цалкам зразумела: надта цесна пераплецены кантэксты нашых сувязяў. Над перакладамі з паэзіі Адама Міцкевіча, Аляксандра Макрэцкага, Антоні Маслінскага, Чэслава Сэнюха шчыравалі Юрка Голуб і Станіслаў Суднік.

Заключны раздзел альманаха — «Хроніку» літаратурнага жыцця Гародні (і не толькі) апошняга часу — падрыхтаваў Сяргей Астравец. Між іншага вылучым развітальнае слова пра пісьменніка, стваральніка музея Васіля Быкава ў нашым горадзе Мікалая Мельнікава, імпрэзу з нагоды 120-годдзя з дня нараджэння Зоські Верас і прэзентацыю кнігі вершаў «Займеннікі» Едруся Мазько. Паэта, які свае адзінае кнігі не дачакаўся. Паэта, для якога Гародня стала местам заўсёднага вяртання і вялікага кахання. Паглядзіце на здымак гэтага прыгожага паэта, які назаўсёды застаўся маладым, і ўявіце, як ён чытае верш пра ўлюбёны горад:

*Святы анёл са шпілю пекнай Фары*
*Штоночы шпацыруе па Гародні.*
*І я патрапіў на яго сягоння,*
*Калі вяртаўся да цябе з вакзала.*
*І скрозь святло неонавых рэкламаў*
*Мы моўчкі з ім па вуліцах блукалі*
*І тое, што не страцілі, шукалі*
*На польскім бруку, у вітрынах крамаў.*

І задумайцеся, хто гэта штоночы шпацыруе па Гародні…

# ПРЫЧАСЦІЦЦА ЧЫСЦІНЁЙ

Васіль МАКАРЭВІЧ,
Марына КАРАБЯНКОВА

**У маскоўскім выдавецтве «Советский писатель» выйшаў у свет новы зборнік беларускага аўтара Ізяслава Катлярова «Небесная весть», які прыхільна сустрэла крытыка на старонках расійскай «Литературной газеты» (услед за гэтым аўтар быў намінаваны рэдакцыяй гэтага ж выдання на літаратурную прэмію «Залаты Дэльвіг»).**

Чым вылучаецца паэзія І. Катлярова? У першую чаргу высокай інтэлігентнасцю і інтэлектам, культурай радка і эстэтычнай далікатнасцю, вытанчанасцю ўспрымання навакольнага свету. Паэта цікавіць самае загадкавае, што здараецца з чалавекам: як ён адчувае сябе на мяжы між жыццём і смерцю, што думае ў гэтыя імгненні, якія пачуцці прыходзяць да яго.

Аўтар умела выводзіць нас з нетраў філасофскіх разваг, далучае да рэчаіснасці, нашага паўсядзённага жыцця і тых канкрэтных абставінаў: «Иней или ещё паутинка? Ни о чем я судить не берусь». Радкі, на першы погляд, настолькі ценькія, здаецца, выведзены кончыкам чарадзейнай палачкі. Але коль-



кі ў іх эстэтычнай далікатнасці, душэўнай чысціні і аснежнай светласці: «И летит за снежинкой снежинка через всё, о чём думать боюсь…».

Без перабольшвання можна сказаць, што кожны «зімні» верш І. Катлярова – гэта музычная скерца ці маленькая саната, дзе многа святла, прасторы, звонкагалосай сцішанасці і нечага яшчэ таямнічага і шматзначнага, ад чаго на душы робіцца хораша і святочна: «Улёгся в поле дымный ветер на светозарные снега. И только в мареве морозном парят пушистые березы, напоминая облака».

Радуе празрыстасць і натуральнасць гучання вершаванага радка І. Катлярова. Малюнкі прыроды, як і мастацкія дэталі, скупыя, ашчадныя, у нейкай меры аскетычныя і падпарадкаваны адной задачы: настроіць чытачоў на лірычны лад, выклікаць захапленне і ўзрушэнне тымі дзівосамі, на якія багаты навакольны свет, закінуць у душы іскрынку радасці.

Лірычны герой І. Катлярова ведае цану і смак жыцця, думае, разважае, шукае і радуецца, што яму даў Бог шчасце прыйсці на гэты свет, пазнаваць яго сакрэты і таямніцы.

Душэўнай цеплынёй напоўнены радкі, прысвечаныя роднаму Магілёву, дзе прайшло дзяцінства і юнацтва І. Катлярова, а таксама Дняпру, які сваімі водамі абмываў раны і пісягі хлапчука. Не забывае І. Катляроў і пра тое пачуццё, якому «все возрасты покорны», і прысвячае яму радкі не менш гарачыя і шчырыя, як і ў маладосці, прысвячае адной-адзінай – жонцы і паэтэсе Соф'і Шах, з якой ён шчасліва звязаў свой лёс. У адным з вершаў паэт удала абыгрывае імя жонкі і заяўляе: «Ты – Софийский собор, я – лишь твой прихожанин. Есть престол и притвор, есть небесный хозяин»…

Свой штодзённы клопат і занятак паэт ацэньвае так: «Стихосложенье? Нет, стихослуженье». У іншым вершы гаворка ідзе пра тое, што «В славном городе Ерусалиме… Безымянно жили стихари… Но стихи их были знамениты, вслушивались даже и цари в заклинаний колдовские ритмы». Паэт гаворыць і пра сябе: «До сих пор себя мы не поймём – стыдно в этом, Господи, признаться… Не поэтом бы, а стихарём на Руси когда-нибудь остаться…»

Хіба не мае права пра гэта марыць Ізяслаў Катляроў?

▸ ІНТЭРВ'Ю

# Анатоль Бутэвіч: «ГАЛОЎНАЕ, КАБ УБАЧЫЛІ РЭАЛЬНАСЦЬ, ДЫ ЯШЧЭ І ЗАЙМАЛЬНУЮ»

**Анатоль Бутэвіч — чалавек у нашай краіне вядомы, публічны. Па-першае, пісьменнік. Працуе ў сферах дзіцячай літаратуры, гістарычнай публіцыстыкі, крытыкі, у галіне перакладаў. Па-другое, старшыня Грамадскай назіральнай камісіі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь, намеснік старшыні Рэспубліканскага грамадскага савета па справах культуры і мастацтва пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, першы міністр інфармацыі, потым міністр культуры і друку Беларусі, дыпламат.**

***— Анатоль Іванавіч, кожны творца па-свойму пачынае шлях у літаратуру. Якімі былі вашы першыя крокі?***

— Пачынаў з перакладаў гумарыстычных апавяданняў, змешчаных у польскім часопісе «Шпількі», якія друкаваліся ў газеце «Чырвоная змена». Потым доўгі час займаўся дзіцячымі казкамі, перакладаў фантастычныя творы Станіслава Лема, іншых польскіх аўтараў, рабіў пераклады з украінскай мовы і з беларускай на рускую. Крытычныя артыкулы ўвайшлі ў кнігу «Пад небам беларускага слова». Пазней была яшчэ і серыя «Сем цудаў Беларусі» — апавяданні пра помнікі гісторыі і архітэктуры, духоўнае багацце продкаў, знакавыя падзеі і выбітных асоб беларускай зямлі.

***— Мне падаецца, гістарычная тэма для вас стала самай галоўнай. Як вы падступаліся да яе?***

— Падчас працы Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Румыніі (з 1998 па 2001 год) мае калегі-паслы часта прасілі расказаць пра Беларусь. Мне здавалася, пра нашу краіну, якая стала незалежнай, ужо многія і шмат ведаюць. Аказалася, што не. Ды, зрэшты, мы і самі дагэтуль спазнаём сваю родную старонку. Калі ж я спрабаваў нешта распавядаць калегам, адчуваў, што яны слухаць-то слухаюць, але здзіўлена глядзяць на мяне, калі ўпамінаю імёны Дамейкі, Касцюшкі, Міцкевіча. Чылійцы, прынамсі, запыталіся: «Пры чым вы і нацыянальны герой Чылі Ігнат Дамейка?»— «Усё правільна, Дамейка — герой Чылі, але нарадзіўся ён на беларускай зямлі!» — тлумачу ім. Менавіта тады я зразумеў, што мы — «нацыя донараў», бо аддалі свету многіх выбітных людзей, прытым ва ўсіх сферах. Калі я вывучаў гісторыю ў школе і на філфаку БДУ, выйшла кніга


Фота Кастуся Дробава

Л. Абэцэдарскага пра беларусаў у Маскве. Аўтар даказаў, што выхадцы з нашай зямлі праявілі сябе як выдатныя майстры. Ёсць дадзеныя, што ў XVII стагоддзі кожны дзясяты жыхар Масквы быў беларусам...

***— Вы нарадзіліся на Нясвіжчыне, у легендарным краі, багатым на розныя падзеі. Гэты факт, мабыць, таксама даў моцны штуршок для гістарычных пошукаў...***

— Бясспрэчна. Я неадночы казаў, што вялікую ролю ў маім жыцці адыграла Сноўская сярэдняя школа, дзе працавалі выдатныя настаўнікі — не толькі прадметнікі, але і заўзятыя краязнаўцы. Аднак у школах 1960-х гадоў, хоць і надышла «хрушчоўская адліга», ва ўніверсітэце 1970-х амаль ніхто не гаварыў пра Вялікае Княства Літоўскае, не ўспамінаў Вітаўта Вялікага. Нават пра Радзівілаў амаль ніхто нічога добрага не чуў. Пазней у Беларускай савецкай энцыклапедыі напісалі: «Радзівілы — гэта прыгнятальнікі працоўнага народа». А вось той факт, што яны — дзяржаўныя дзеячы, якія стваралі Вялікае Княства Літоўскае, выступалі мецэнатамі, спрыялі выданню кніг, развіццю тэатра, ніхто не хацеў прызнаваць. Жывучы каля цудоўнага радзівілаўскага гнязда, я не мог не зацікавіцца гэтай тэмай.

***— У вашай творчасці — адметны почырк і ўнікальны стыль. А яшчэ ўдумлівы чытач заўважае, што вам уласцівы асабісты падыход пры напісанні гістарычных твораў...***

— Падчас напісання стараюся выкарыстоўваць гістарычную «падсветку», дакладней, абапірацца на дакументальны гістарычны фон. Увесь час мне здавалася, што ў аповесці «Апошняе ігрышча» чагосьці не хапае. Пасля зразумеў: гістарычнай дакладнасці. Пры дапрацоўцы другая частка стала дакументальнай. Тут расказваю пра тое, што адбывалася ў Заходняй Беларусі да 1939 года і напярэдадні вайны. Змешчаны толькі дакументы, якія яшчэ не так даўно мелі грыф сакрэтнасці.

Тое ж самае можна сказаць і пра раман «Каралева не здраджвала каралю», прысвечаны чацвёртаму шлюбу сямідзесяцігадовага караля польскага і вялікага князя літоўскага Ягайлы з сямнаццацігадовай Соф'яй Гальшанскай. У любой гістарычнай з'яве, падзеі я заўсёды шукаю нешта такое, што зачапіла б асабіста мяне. Арыентуюся больш на эмацыянальны пачатак. Ягайла і Соф'я — пачынальнікі знакамітай польскай ягелонскай дынастыі. Сапраўды так, але кроў у іх жылах цякла тутэйшая! Неабходна прызнаць, што паходзяць яны з нашых зямель! Мне цікава было паказаць, якім чынам наша гісторыя пераплаталася ў агульнаеўрапейскую, бо гэтым шлюбам яны паядналіся ў Навагародку (22 лютага 1422 года). Хаця ўсе тры папярэднія шлюбы Ягайлы заключаліся ў Кракаве — сталіцы Польшчы. Прасцей было Соф'і паехаць у Кракаў і там абвянчацца з каралём, тым больш, што адбывалася гэта снежнай зімой. Значыць, такім чынам Ягайла яшчэ раз засведчыў сваю прывязанасць да гэтай зямлі, якой ён не здрадзіў да канца сваіх дзён, хацеў аддзячыць ёй за тое, што яна паставіла яго на крыло.

Так, прыняўшы Крэўскую унію, ён мусіў рабіць шмат таго, што патрабавалі палітычныя абставіны, міждзяржаўныя стасункі, не заўсёды на карысць тутэйшай зямлі. Але знарок ён не шкодзіў ні сваёй зямлі, ні свайму народу. І калі сёння кажуць, што пасля Крэўскай уніі адбылася інкарпарацыя ці далучэнне Вялікага Княства Літоўскага ў Рэч Паспалітую, то гэта не зусім так. Пасля таго заключылі больш пяці уній, якія пацвярджалі, што неабходна аб'ядналіся! Нават Люблінская унія 1569 года, якая зацвердзіла адну агульную дзяржаву — Рэч Паспалітую, — і то да канца не далучыла Вялікае Княства Літоўскае.

***— У Выдавецкім доме «Звязда» рыхтуецца да выхаду ў свет другая частка кнігі «Каралева не здраджвала каралю», але ўжо як дакументальны твор...***

— Калі я пачаў пісаць другую частку, якую назваў «Паміж Каронай і Княствам. Ад Крэўскай уніі да Люблінскай», мне хацелася зразумець, што і як адбылося тады ў Княстве і Кароне найперш у дачыненні да нашых зямель, да нашых дзеячаў. І такім чынам пацвердзіць мастацкі тэкст першай часткі. Калі сабраў і сістэматызаваў даты, факты, то пастараўся знайсці для ўсяго гэтага больш шырокі кантэкст. Змяшчаў легенды, меркаванні, каб было цікавей чытаць, а не ўспрымаць кнігу як даведнік. Падаў і сціслы «Ягайлаў часапіс»: даведкі пра краіны, палітычных і дзяржаўных дзеячаў, усё блізкае атачэнне караля. І зноў з чалавечай «падсветкай», з пэўнай цікавосткай.

У канцы выдання змешчаны храналагічны пералік кіраўнікоў Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Маскоўскага княства, Кіеўскай Русі, мітрапалітаў, рымскіх пап і інш. Хацелася адсачыць, як і з кім яны былі звязаныя, як гэта ўплывала на іх дзеянні і дзяржаўную палітыку. І праца над кнігаю не спыняецца. Калі знаходжу нейкую дэтальку, якая дазваляе «ачалавечыць» нашу гісторыю, адразу ўключаю яе ў агульны кантэкст. І гэты працэс бясконцы. Самае галоўнае, каб чытачы ўбачылі рэальнасць, ды яшчэ і займальную.

***— У свой час Уладзімір Караткевіч змог захапіць беларускай гісторыяй некалькі пакаленняў тых, хто жыў у савецкія часы.***

— Згодзен з вамі. Для мяне Уладзімір Караткевіч — найбольшы гістарычны аўтарытэт. Але трэба ўлічваць той факт, што ён пісаў мастацкую гісторыю Беларусі. Ён у добрым сэнсе легендызаваў беларускую гісторыю. Мы ўсе, хто сёння працуе на ніве гістарычнай літаратуры, пэўным чынам «хрышчаны» Караткевічам, які браў гістарычны факт, з'яву, а далей ствараў мастацкі твор. Для мяне таксама важна, каб на пачатку быў факт, падзея. А далей ідзе ўжо мая ўласная інтэрпрэтацыя. І калі б нашы прафесійныя гісторыкі кіраваліся гэтым, то, упэўнены, мы значна лепш ведалі б айчынную гісторыю і не аддалі шмат чаго суседзям. Я не раз даводзіў айчынным гісторыкам, што, можа, з іх маўклівай згоды, а можа, з нашай агульнай маўклівасці, беларускую гісторыю «запазычылі» сабе суседнія народы. Сёння не трэба адбіраць у іх нашу гісторыю, прысвойваць іх спадчыну. Проста неабходна рэальна ўсведамляць, што, калі і дзеля якой карысці адбывалася. І гэтага будзе дастаткова, каб зразумець, хто мы, адкуль мы. Беларусы былі, ёсць і будуць заўсёды на гэтай зямлі, але ў супольнасці з іншымі народамі. Гісторыя ніколі не была адназначнай, аднамернай. Таму не трэба баяцца паказваць як светлыя, так і цёмныя яе старонкі, але ў тым кантэксце, які ў той час існаваў.

***— Летась убачыла свет ваша кніга «Таямніцы Мірскага замка», цяпер з'явілася новае выданне — «Таямніцы Нясвіжскага замка». Ці будзе прадаўжана гэтая серыя?***

— Калі я пачынаў пісаць «Таямніцы Мірскага замка», у самім замку немагчыма было купіць хоць нейкае выданне пра яго гісторыю. Праўда, за апошні час сітуацыя крыху змянілася, але нам усё роўна яшчэ далёка да еўрапейскіх стандартаў. Калі хтосьці бываў у Кракаве, Вільнюсе, то бачыў, колькі там разнастайных кніг пра адзін і той жа аб'ект. Няхай і ў нашай краіне будзе як мага больш выданняў, створаных рознымі аўтарамі і ў рознай інтэрпрэтацыі. Калі пісаў пра Мірскі замак, стараўся знайсці тое, што было яшчэ не вядома. Штосьці нават для сябе адкрыў.

***— Вось дзе матэрыял для стварэння сцэнарыяў для беларускіх фільмаў!***

— Яны амаль гатовыя. Слова — за ўдумлівымі і крэатыўнымі сцэнарыстамі. Ды і ў тэатрах не шмат гістарычнай тэматыкі. Перш за ўсё мы павінны задаволіць свае патрэбы ў такіх творах, бо, паўтаруся, у сілу розных прычын мы не вельмі добра ведаем уласную гісторыю. Дарэчы, «Таямніцы Мірскага замка» маюць яшчэ адну назву — «Падарожжы па сівых мурах з Адамам Міцкевічам». Гэта была мая знарочыстая знаходка, якую я ўвёў, калі кніга была амаль гатова. У паэме «Пан Тадэвуш» Міцкевіч апісвае менавіта Мірскі замак, хаця і не згадвае яго. Але ўсе дэталі сведчаць: гэта ён. Ды і ўладальнікі Міра рэальныя, пра іх таксама згадвае Адам Міцкевіч.

Што да кнігі «Таямніцы Нясвіжскага замка», то гэта «Падарожжа ўглыб стагоддзяў з Уладзіславам Сыракомлем». Зноў жа я не хацеў браць агульнавядомы матэрыял, пастараўся знайсці менш вядомыя дэталі і з'явы, якія датычаць Нясвіжа ці больш падкрэсліваюць яго ролю ў нашай гісторыі. Дарэчы, на знакамітай карце Макоўскага пазначана Вільня, а над ёю — каралеўская карона. Падобныя кароны змешчаны і над Нясвіжам, Клецкам і іншымі гарадамі, якімі валодалі Радзівілы. Раблю дапушчэнне: паколькі карта выдавалася па загадзе Сіроткі, можа, такім чынам ён хацеў засведчыць «некаранаванасць каралёў» Радзівілаў.

Ужо гатова палова матэрыялу для трэцяй кнігі — «Таямніцы Крэўскага замка». Гэтае падарожжа па нашай гісторыі планую здзейсніць з Вітаўтам Вялікім, каб паглядзець на ролю Крэва ў айчыннай гісторыі, якую яшчэ не ацанілі належным чынам. Крэўская унія змяніла еўрапейскую гісторыю, яшчэ больш вывела Вялікае Княства Літоўскае на еўрапейскі прасцяг. Далей, магчыма, будзе Гальшанскі замак.

***— Упэўнена, вашы творы абудзяць цікавасць шматлікіх турыстаў да нашай «сівой» спадчыны.***

— Але нам нарэшце трэба зразумець, што кожнае значнае турыстычнае месца павінна мець свой брэнд. Напрыклад, калі мы замест «Паехалі ў Гродна» скажам замежнікам: «Паехалі ў каралеўскі горад Гродна», — то гэта прагучыць зусім інакш. Гродна — сапраўды каралеўскі горад, дзе была рэзідэнцыя польскіх каралёў, уладароў ВКЛ, там стаяць два замкі. Тое ж самае з Навагрудкам. Прапануйце сваім гасцям з'ездзіць у першую сталіцу Вялікага Княства Літоўскага, дзе жыў адзіны кароль Княства — Міндоўг, і вы адчуеце іх зацікаўленасць. А Магілёў — гэта ж апошняя стаўка расійскага імператара Мікалая ІІ. Як і Баранавічы, дарэчы. Трэба не толькі знайсці для кожнага горада вызначальную рысу, але і навучыцца яе прапагандаваць.

**Раіса МАРЧУК**

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

## 3 ЛІСТАПАДА, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.35** «Вій» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Сямейная камедыя «Ластаўчына гняздо» (Украіна).
**12.10** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**12.45** Каробка перадач.
**13.20** Медычныя таямніцы.
**13.50** Заўтра - гэта мы!
**14.25** «Terra incognita. Беларусь невядомая».
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Клуб рэдактараў.
**16.15** БеларусьLIFE.
**16.40** Давярай і правярай.
**17.10** Крымінальная камедыя «Тэрнер і Хуч» (ЗША).
**19.00** Дэтэктыўны трылер «Дамавік» (Расія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Фантастычны баявік «Дэжа вю» (ЗША).
**00.35** Сямейная камедыя «Ластаўчына гняздо» (Украіна) 1.

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** Фільм «Мачаха».
**13.10** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**14.20** «Залаты грамафон».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. «Куб».
**17.35** «Эстрадны кактэйль».
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** Драма «Нябесны суд».
**22.55** Прэм'ера. Фільм «Дзень, калі Зямля спынілася».

### СТВ

**06.35** «NEXT 2». Серыял.
**07.25** «100 адсоткаў».
**07.55** Фільм «Прышэльцы». Францыя, 1993г.
**09.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Кобрын.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Каліна чырвоная». СССР, 1975г.
**14.45** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Брэст.
**17.00** «Аўтапанарама».
**17.30** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**18.00** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Брэсцкая вобласць.
**21.15** Фільм «Падарожжа капітана Фракаса». Францыя - Італія, 1990 г.
**23.45** Фільм «Котачка». Расія, 2009 г.
**01.30** «Якія людзі».

### Беларусь 2

**07.50** Фантастычна-прыгодніцкі серыял «Госця з будучыні» (СССР). Закл.серыі.



**11.00** Тэлебарометр.
**11.05** Эксцэнтрычная камедыя «Віктар» (Францыя).
**13.00** Прыгодніцкі дэтэктыў «Карчма на Пятніцкай» (СССР).



**14.45** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**16.00** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Бананавы рай» (Расія).
**16.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**17.10** Камедыя «Дрэсіроўшчыца тыграў» (СССР).
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Прэм'ера! Гістарычная драма «Бывай, мая каралева!» (Францыя-Іспанія).
**23.05** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**00.05** Спорт-кадр.

### Россия

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Таямніцы душы».
**08.35** «Кожны мае права быць розным». Бязмежныя людзі.
**09.00** «Купала і Колас. Два яблыкі на адной галінцы». Дакументальны фільм.
**09.30** «Гэты дзіўны свет. Чэслаў Немен «. Дакументальны фільм пра вядомага выканаўца з Беларусі.
**10.00** «Набіраючы вышыню». Дакументальны фільм пра падрыхтоўку беларускіх пілотаў.
**10.30** «Георгій Жукаў. Вайна і мір Маршала Перамогі». Дакументальны фільм.
**11.00** «Адступнік». Дакументальны фільм пра кінарэжысёра Валерыя Рубінчыка.
**11.20** «Скульптар» («Ваятель»). Дакументальны фільм пра вядомага беларускага скульптара А.Арцімовіча.
**11.45** «Карані». Пра падарожжа севастопальскіх беларусаў па месцах у Крыме, якія звязаны з памяццю М.Багдановіча.
**12.10** «Плошча мастацтваў». Заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Зінаіда Зубкова.
**12.40** «Калейдаскоп».
**12.45** «Уся каралеўская раць». 1-я - 3-я серыі.
**15.00** «Калейдаскоп».
**16.10** «Без права на дубль». Уладзімір Мігуля.
**17.00** Дзіцячы фільм. «Неадкрытыя астравы».
**18.05** «Культпрасвет».
**18.30** Сусветнае кіно. «Сямейны партрэт у інтэр'еры».
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Альпійская балада». Фільм-опера па аднайменнай аповесці Васіля Быкава.
**21.35** «Культпрасвет».
**22.05** «Сымон-музыка». Тэлеспектакль паводле аднайменнай паэмы Якуба Коласа.
**23.30** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.25** Дэтэктыўны серыял «Дарожны патруль».



**08.00, 10.00, 13.00, 19.00** Сёння.
**08.20** «Дзікі свет».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.20** «Дачны адказ».
**11.25** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Цуд тэхнікі».
**12.30** «Першая перадача».
**13.15** Фільм «Другое каханне».
**15.00** Вострасюжэтны серыял «Важняк».
**16.35, 19.25** Вострасюжэтны серыял «Шэф».
**23.15** Вострасюжэтны серыял «Уцякач».

### МИР

**05.00** Мультфільмы.
**07.10** Т/с «Турэцкі гамбіт».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10, 03.05** М/ф «Вясёлыя сябры».
**10.50, 23.15** Т/с «Імперыя пад ударам».
**15.10** Т/с «Жураў».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.00** М/ф «Стацкі дараднік».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Пінгвінік Пік-Пок», «Мадла і Туп», «Чацвёра вушэй у пералеску».
**07.40** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 9 серыя.
**08.05** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 9 серыя.
**08.30** «Усе святыя», маст. фільм, 2002 г., Польшча.
**18.00** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**18.20** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.40** Забавы «Ліпі і Мэсі».
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**19.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.25** «Час гонару», серыял: 58 серыя.
**20.15** Дакументальная гадзіна: «Архімандрыт», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**21.10** Фільматэка майстроў: «Плошча Збаўцы», маст. фільм, 2010 г., Польшча.
**22.55** «Кароль-вінароб», серыял: 2 серыя.
**23.40** «Калыханка» (сатырычная праграма).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 930 79 22, Міхась
Бабруйск: (8 029) 628 75 01, Вольга
Мінск: (8 029) 178 31 68, Вольга
Слуцк: (8 029) 364 42 60, Зінаіда
Гомель (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб.

Дзякуй вам за падтрымку!

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Кассир Всего ________

ПАРАЛЕЛІ

# ПЕРААДОЛЬВАЮЧЫ БАР'ЕРЫ

Аксана КОЛБ

**«Справядлівасць, бяспека, свабода, дабрабыт» — так называецца перадвыбарчая праграма, якую 19 кастрычніка на сваім з'ездзе зацвердзіла Сацыялістычная партыя — адна з буйнейшых апазіцыйных партый Венгрыі.**



Парламенцкія выбары ў Венгрыі адбудуцца ў красавіку 2014 года і стануць ледзь не самымі складанымі для апазіцыі. На шляху да ўлады ёй давядзецца пераадолець даволі значныя ба'еры.

## Першы бар'ер — заканадаўчы

Венгерская выбарчая сістэма, па меркаванні большасці аналітыкаў, з'яўляецца адной з самых складаных не толькі ў Еўропе, але і ў свеце. Яна ўсталявалася ў 1989 годзе падчас змены рэжыму і стала вынікам кампрамісу паміж існуючымі на той момант палітычнымі сіламі.

З таго часу выбарчае заканадаўства часткова карэктавалася і неаднаразова крытыкавалася еўрапейскімі структурамі за некаторыя недэмакратычныя пункты. Значныя змены ў заканадаўства пра выбары увосень 2012 года ўнёс урад Віктара Орбана. Па меркаванні апазіцыі, якая назвала закон «ударам у твар дэмакратыі», ён значна скарачае шансы на перамогу любой іншай партыі, акрамя кіруючай.

Па новаму закону, амаль удвая скарачаецца колькасць дэпутатаў. Зараз у венгерскім парламенце 386 дэпутатаў (176 былі абраныя па аднамандатных акругах, 210 — па партыйных спісах). У 2014 годзе колькасць дэпутатаў скароціцца да 199 (106 — аднамандатныя, 93 — спісы). Суадносна павялічваецца і тэрыторыя акругі, ад якой будзе абірацца дэпутат.



Ільдзіка Лендваі

«Праблема не толькі ў тым, што, скараціўшы колькасць дэпутатаў, значна павялічылі памер акругі, — лічыць экс-старшыня Сацыялістычнай партыі **Ільдзіка Лендваі**, — а ў тым, што гэтыя акругі цалкам перадзялілі. І зараз, напрыклад, да тых раёнаў, дзе былі даволі моцныя пазіцыі ў сацыялістаў ці лібералаў, дадаліся тэрыторыі, якія традыцыйна падтрымліваюць кансерватараў, то бок правячую партыю «Фідэс». Акрамя таго, змянілася сістэма заліку так званых кампенсацыйных галасоў (галасы, пададзеныя за кандыдатаў, што пацярпелі паразу ў аднамандатных акругах, часткова кампенсаваліся партыям, якія пераадолелі 5-працэнтны бар'ер). Цяпер кампенсацыю атрымлівае не той, хто прайграў, а той, хто выйграў. З улікам перакройвання акругаў, гэта значна зніжае шансы апазіцыі. Калі на мінулых выбарах «Фідэс» атрымала 53% галасоў, гэта дало ёй каля 70% месцаў у парламенце. То пры сённяшняй сістэме падліку галасоў для атрымання 2/3 месцаў у парламенце будзе дастаткова і 45% галасоў выбаршчыкаў».

Ёсць яшчэ некалькі пунктаў выбарчага заканадаўства, якія ўскладняюць задачу апазіцыі і раскрываюць дарогу дзеючай урадавай кааліцыі. Сярод іх — павелічэнне тэрміну выбарчай цішыні да 8 дзён, калі забаронена публікацыя будзь-якіх вынікаў сацыялагічных даследаванняў.

Новы закон забараняе выкарыстоўваць для выбарчай кампаніі прыватныя СМІ і інтэрнэт, дазваляючы карыстацца толькі бясплатнымі плошчамі ў дзяржаўных выданнях. Працягласць жа самой выбарчай кампаніі скарачаецца да 50 дзён. З улікам павялічанай тэрыторыі акругаў, гэта дае безумоўныя перавагі дзеючай уладзе: яе справаздачы і бадзёрыя планы на будучыню, якія ўжо пачалі друкаваць дзяржаўныя СМІ, не лічацца перадвыбарчай кампаніяй.

Ёсць яшчэ адзін пункт, які павялічвае шансы правячай кааліцыі. Новы закон дазволіў удзельнічаць у выбарах венграм замежжа. Для гэтага толькі трэба зарэгістравацца ў Нацыянальным выбарчым бюро (тэхнічны орган), запоўніць спецыяльны бланк і не пазней, чым за 15 дзён да пачатку галасавання, яго даслаць. Ёсць магчымасць і анлайн рэгістрацыі.

Дарэчы, лідар ультраправай партыі «Jobbik» («За лепшую Венгрыю») Габар Вона на мінулым тыдні наведаў Закарпацкую Украіну, дзе пражывае, паводле розных ацэнак, каля 100 тысяч этнічных венграў (усяго на Украіне каля 200 тысяч грамадзян лічаць сябе этнічнымі венграмі). Прыкладна 64 тысячы закарпацкіх венграў ужо зарэгістраваліся ў якасці выбаршчыкаў. Гэты візіт шмат хто з палітолагаў разглядае як пачатак передвыбарчай агітацыі.

«Прыкладна 2–2,5 мільёна выбаршчыкаў жыве за межамі Венгрыі. Калі ўлічыць, што колькасць выбаршчыкаў у самой Венгрыі каля 8 мільёнаў, то ўплыў замежных венграў можа быць даволі значны. Але гэтыя людзі стала не жывуць у Венгрыі і не могуць аб'ектыўна ацаніць тое, што тут адбываецца. Да таго ж яны будуць галасаваць па пошце, што адчыняе магчымасці для фальсіфікацый», — падкрэслівае Ільдзіка Лендваі.

Дададзім, што 30 верасня парламент замяніў усіх пастаянных сябраў Нацыянальнага выбарчага камітэта, а старшынёй стаў рэктар Нацыянальнага ўніверсітэта дзяржслужбы. Усе новыя сябры НВК не маюць вопыту правядзення выбараў, а іх імёны сталі вядомыя дэпутатам толькі 27 верасня.

Ёсць яшчэ некалькі пунктаў выбарчага закону, якія ўскладняюць шлях да перамогі для апазіцыі. Напрыклад, адмена другога туру выбараў і парогу яўкі. Таму, калі апазіцыя хоча перамагчы, першае, што яна павінна зрабіць, — аб'яднацца.

## Бар'ер другі — амбіцыі

Па сцвярджэнні экс-прэм'ера Венгрыі **Ферэнца Дзюрчаня**, сёння ўжо 53 працэнта насельніцтва Венгрыі жадаюць змены ўлады і толькі 30 працэнтаў падтрымліваюць дзеючую ўладу.



Ферэнц Дзюрчань

«Тым не менш, даследаванні паказваюць, што ў апазіцыі няма большасці. У гэтага дзве прычыны. Першая — зараз людзі баяцца адкрыта выказваць свае думкі. Ну а другая — у тым, што тая апазіцыйная альтэрнатыва, якую мы на дадзены момант можам прадэманстраваць, шмат для каго не надта пераканаўчая», — лічыць экс-прэм'ер, а зараз лідар Дэмакратычнай кааліцыі (створана на базе фракцыя Сацыялістычнай партыі Венгрыі).

«З 2010 года «Фідэс» згубіла шмат прыхільнікаў. Але апазіцыя іх не прыдбала. У нас кажуць, што самая вялікая партыя ў Венгрыі — партыя беспартыйных. Трэба змагацца менавіта за гэтых людзей. Калі апазіцыя не здолее перацягнуць іх на свой бок, мы прагназуем вельмі высокі ўзровень абсентэізму, а значыць, «Фідэс» застанецца пры ўладзе. Пасіўнае насельніцтва не ідзе да апазіцыі, таму што не бачыць аб'яднанай апазіцыі. Нам трэба аб'ядноўвацца (я маю на ўвазе толькі дэмакратычную апазіцыю), і зараз нарэшце гэтыя працэсы пайшлі больш паспяхова», — адзначае Ільдзіка Лендваі.

Сапраўды, напрыканцы верасня два найбуйнейшых апазіцыйных гульца — Сацыялістычная партыя Венгрыі на чале з Ацілам Мештэрхазі і альянс «E14-PM» (Кааліцыя «Разам 2014») на чале з яшчэ адным экс-прэ'ерам Горданам Байнаі —дамовіліся пра супрацоўніцтва на парламенцкіх выбарах. Партыі будуць працаваць па асобных спісах. Але ва ўсіх 106 аднамандатных акругах выставяць узгодненых адзіных кандыдатаў.

Разам з тым рада Сацыялістычнай партыі абвясціла, што не будзе супрацоўнічаць з Дэмакратычнай кааліцыяй, лібераламі ды сацыялдэмакратамі. А ў заяве альянсу «E14-PM» падкрэслена, што дамовай з сацыялістамі завершана фармаванне апазіцыйнага блока. Такім чынам, Ферэнцу Дзюрчаню месца ў кааліцыі ўжо не будзе.

«Лідары партый таксама людзі. У іх ёсць пачуцці, амбіцыі, яны не лепш і не горш, чым хто-небудзь іншы. Галоўная праблема сапраўды палягае ў тым, што мы (лідары) маем амбіцыі стаць прэм'ер-міністрам. Ні адзін з нас не жадаў саступаць, што і перашкодзіла прыйсці да згоды», — тлумачыць сітуацыю спадар Дзюрчань.

Калі дадаць, што аб'яднанне раскалола на дзве партыі зялёны рух, атрымліваецца, што асабістыя амбіцыі ці палітычныя сімпатыі могуць даволі моцна перашкодзіць агульнай справе — перамозе ўвесну 2014-га.

***

У 2010 годзе «Фідэс» прыйшоў да ўлады, умела выкарыстоўваючы эканамічны крызіс, карупцыйныя скандалы і папулісцкія лозунгі. Паўнавартаснай праграмы ў партыі не было, затое было шмат крытыкі і абяцанняў.

«У 2009–2010 гадах у людзей складвалася ўражанне, што ва ўладзе поўны хаос. Ім было без розніцы, хто прыйдзе да ўлады, абы ўсталяваўся парадак. Таму «Фідэс» і атрымала столькі галасоў, — лічыць Ільдзіка Лендваі. Гэта яна ўзначаліла Сацыялістычную партыю ледзь не ў самыя цяжкія для часы ў 2009–2010 гадах, калі пасля гучных скандалаў прэм'ер Дзюрчань сышоў у адстаўку, а ўрадавая кааліцыя развалілася. — У такіх умовах я разумела, што мы прайграем».

Ферэнц Дзюрчань лічыць, што ў першую чаргу параза была вынікам тых маштабных рэформ, якія пачаліся ў Венгрыі, «яны былі вельмі неабходныя, але і вельмі непапулярныя, чым і скарысталася «Фідэс».



Бенцэ Рэтвары

У адказ на крытыку з боку апазіцыі і ЕС прадстаўнік Хрысціянска-дэмакратычнай партыі (уваходзіць у кааліцыю з «Фідэс»), дзяржсакратар міністэрства юстыцыі **Бенцэ Рэтвары** сцвярджае, што менавіта дзеючая ўлада, як ніхто раней клапоціцца пра дабрабыт грамадзян і нацыянальныя інтарэсы краіны.

«У ЕС цяпер крызіс, і кожная краіна спрабуе знайсці з яго выйсце. Венгрыя шукае свой шлях. Мы будуем дзяржаву, якая засноўваецца на працы, а галоўная філасофія венгерскага ўрада — хрысціянскадэмакратычныя каштоўнасці. І гэта шмат каму не падабаецца», — кажа спадар Рэтвары.

Каб зразумець, хто з іх мае рацыю, трэба не адзін месяц пражыць у Венгрыі. І на свае вочы пабачыць вынікі тых пераўтварэнняў, якія абяцае ўрад. Нейкія рэформы падаюцца вельмі слушнымі. Шмат якія крокі ўрада хутчэй нагадваюць перадвыбарчыя абяцанкі: павялічыць зарокі лекараў, знізіць яшчэ на 10 працэнтаў камунальныя плацяжы, зрабіць жыллё даступным, даць больш грошай на культуру, змагацца з карупцыяй.

Але за адно сённяшні ўрад акладна заслугоўвае павагі. Па ініцыятыве Віктара Орбана ў 2011 годзе быў прыняты закон, які адмяняе тэрмін даўнасці на ваенныя злачынствы. На мінулым тыдні перад судом прадстаў Бэле Біску, які аддаваў загады аб расстрэле дэманстрантаў у снежні 1956 года. У горадзе Шальготар'ян загінула каля 46 чалавек, у тым ліку жанчыны і дзеці. Агульная колькасць ахвяраў Біску ацэньваецца пракуратурай прыкладна ў 50 чалавек.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. ТАРАС І ДЗЕЦІ

Незвычайны канфлікт разгарнуўся ва ўкраінскім горадзе Вінніца. Там мясцовыя ўлады збіраюцца ўшанаваць паэта Тараса Шаўчэнка, усталяваўшы яму помнік. Аднак тэма манументальнай кампазіцыі не спадабалася мясцовым нацыяналістам. Тарас, паводле скульптараў (дарэчы, яны ўсе з Львова), будзе выяўлены як малады чалавек, які сядзіць на лаўцы ў атачэнні двух дзяцей. Такое аўтарскае рашэнне, на думку нацыяналістаў, хутчэй пасуе ідэі скульптурнай групы для фантана. Помнік Шаўчэнку ім бачыцца як нешта «больш велічнае і манументальнае». Па словах апазіцыі, у выпадку пачатку пабудовы канструкцыі помніка «Тарас і дзеці», яны выведуць на вуліцу тысячы прыхільнікаў. Адначасова ўзнікла ідэя стварэння фонду для збору сродкаў, каб устанавіць правільны «больш велічны і манументальны» помнік Кабзару. Паводле падлікаў нацыяналістаў, для рэалізацыі задумы ім патрэбна прыкладна 60 тысяч долараў.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### КІТАЙ. МАА ЦЗЭ ДУН СТАЎ ГЕРОЕМ МУЛЬТФІЛЬМУ

Напярэдадні 120-й гадавіны нараджэння Маа (яе адзначаць у снежні) адбылася прэм'ера 3D мультфільма «Калі Маа быў маладым». Сюжэт стужкі, бюджэт якой склаў каля 4 мільёнаў долараў, распавядае пра прыгоды хлопчыка, які пазней стане стваральнікам Кітайскай народнай рэспублікі. Галоўным чынам па ходу карціны малы Маа змагаецца са злымі памешчыкамі. На думку дырэктара карціны, мультфільм дапаможа «перадаць традыцыі і ідэалы камуністычнай рэвалюцыі новай генерацыі». Замоўнікам карціны выступіла рэдакцыя самага буйнага і ўплывовага выдання пры Кітайскай Кампартыі. Маштабнае ўшанаванне ўгодкаў нараджэння Маа вельмі незвычайнае на фоне спроб перагледзець яго спадчыну. Не так даўно ўлады знялі табу з тэмы кітайскага галадамору 1950-х гадоў, у выніку якога загінула некалькі мільёнаў кітайцаў. Пад сумнеў ставяцца і некаторыя аспекты Культурнай рэвалюцыі. З улікам гэтага можна сказаць, што ў КНР актыўна ідзе пошук новага вобразу Маа. Між тым, прэм'ера мультфільма прайшла настолькі ўдала, што інтарэс да карціны праявіў Галівуд. У Галівудзе збіраюцца выкупіць правы на здымкі сваёй версіі прыгод маладога Маа, каб пасля зляпіць з гэтага цэлы мультсерыял.

**Паводле брытанскай прэсы**

### РАСІЯ. КРЭМЛЬ СПРАВАКАВАЎ БІРУЛЁВА ПРАЗ КІНО?

Некаторыя культуролагі Расіі звярнулі ўвагу на цікавую акалічнасць. Літаральна за тыдзень да пагромаў у Бірулёва на шырокі экран выйшаў фільм «Каляфутбола», які распавядае пра жыццё маскоўскіх футбольных фанатаў. Па сюжэту, аднаго з іх забівае наркагандляр, які звязаны з этнічнай мафіяй. У адказ тыфозі паляць нейкае кафэ — месца збораў мафіёзі. Сцэны падпалу вельмі падобныя па сцэны пагрому базы ў Бірулёва, што дае падставу казаць пра тое, што бірулёўскія пагромшчыкі па сутнасці дзейнічалі як кінагероі. Адным з фактараў пагромаў у Бірулёва, на думку аглядальнікаў, магло быць тое, што ў карціне аўтары падпалу кафэ застаюцца на свабодзе. Аказваецца, «Каляфутбола» быў зроблены па замове дзяржавы. Прадзюсер карціны Сяргей Сельянаў вядомы як адзін з самых пракрамлёўскіх кінематаграфістаў, аўтар ідэі стварэння патрыятычных блакбастараў. Грошы на фільм пра фанатаў яму даў дзяржаўны Фонд кіно.

**Паводле расійскай прэсы**

### СЕРБІЯ. ЗАГАДКА ЎДАВЫ ЦІТА



На 89-м годзе жыцця памерла Ёванка Броц — жонка Ёсіфа Броз Ціта (памёр 33 гады таму). Навіна, як і трэба было чакаць, выклікала новую хвалю настальгіі па часах Югаславіі і дэбаты вакол фігуры таварыша Ёванкі. У 1952 годзе яна, 24-гадовая малодая камуністка і былая партызанка, выйшла замуж за Ціта (гэта быў яго трэці шлюб). Тады на двары быў час канфрантацыі Масквы і Бялграда. Магчыма, таму Ціта вырашыў парушыць прынятыя ў Маскве нормы паводзін жонак вышэйшых чыноўнікаў. Ён дэманстратыўна дазволіў таварышу Ёванцы паводзіць сябе як «першай лэдзі». Ёванка сапраўды мела шарм, які вельмі спадабаўся на Захадзе, дзе пасля яе візітаў нават узнік тэрмін «югаслаўская ўсмешка». Аднак у 1970-я гады Ціта і Ёванка фактычна разышліся, хаця фармальна захавалі шлюб. Разрыву папярэднічала амаль шпіёнская гісторыя, калі Ёванку падазравалі ў працы на КДБ, што, быццам, планавала дзяржаўны пераварот у Бялградзе. Гэта гісторыя дасюль вельмі не зразумелая. Перад смерцю Ёванка паспела даць інтэрв'ю, у якім распавяла, што ледзь не з пісталетам абараняла свайго мужа ад спецслужбаў, якія марылі яго забіць. Быццам, у адказ на гэта яны скампраметавалі яе ў вачах Ёсіфа. Гісторыкі скептычна ўспрынялі гэтую споведзь, аднак публіцы, здаецца, яна спадабалася. Праводзіць таварыша Ёванку ў апошні шлях прыйшлі некалькі тысяч чалавек.

**Паводле нямецкай прэсы**

---

**ПАСЛЯ ПАДЗЕІ**

# ХТО ПАДСТАВІЎ АРХАНА ЗЕЙНАЛАВА?

Алег **НОВІКАЎ**

**У Баку лічаць, што ў маскоўскім Бірулёва быў рэалізаваны старанна прапрацаваны антыазербайджанскі сцэнар.**



Упершыню ў найноўшай гісторыі Расіі абвінавачваны быў дастаўлены не ў аддзяленне міліцыі, а адразу ў кабінет міністра ўнутраных спраў, і падаецца ўсё гэта як «аднаўленне справядлівасці»

Перад тым, як пералічыць азербайджанскія версіі, трэба канспектыўна ўзгадаць, пра што гаворка. Нагадаем, у ноч на 10 кастрычніка ў маскоўскім раёне Бірулёва быў забіты 25-гадовы хлопец Ягор Шчарбакоў. Яго сяброўка кажа, што забойца быў чалавекам каўказкай нацыянальнасці. Літаральна за хвіліну да забойства камера на пад'ездзе аднаго з суседніх дамоў фіксуе, як нейкі каўказец заляцаецца да іншай дзяўчыны. Следства лічыць, што забойца Ягора Шчарбакова і чалавек на камеры — адна і тая ж асоба. Аказваецца, што гэта азербайджанскі гастарбайтар, таксіст Архан Зейналаў. Яго ловяць і прывозяць у кайданках на верталёце да міністра ўнутраных спраў. Сам Зейналаў адмаўляецца прызнаваць сябе забойцам. Тым часам рускія нацыяналісты арганізуюць розныя акцыі, якія перарастаюць у банальныя этнічныя пагромы.

Аднак далёка не ўсе згодныя з версіяй пра тое, што Архан — забойца. Так, пераважная частка азербайджанскіх журналістаў і палітыкаў сцвярджае, што Зейналава падставілі. Нехта папросту выкарыстаў эмігранта ў сваіх эканамічных, а можа нават і геапалітычных планах.

Новыя версіі падзей узнікаюць таму, што маюцца відавочныя нестасоўкі ў афіцыйнай версіі. «Бакінская газета» звяртае ўвагу на некалькі рэчаў: «Пасля забойства Шчарбакова Зейналаў быў знойдзены на камеры, усталяванай на звычайнай панельнай дзевяціпавярхоўцы. Камеры ў такіх дамах — досыць рэдкі выпадак. Прычым кадры былі яснымі і выразнымі. А значыць, камера дарагая. Або такі момант: на расійскіх тэлеканалах нібыта знаёмыя Архана ўсе ў адзін голас кажуць, што ён быў падобны да злачынцы, заўсёды насіў з сабой зброю. Толькі чамусьці ўсе гэтыя знаёмыя славянскай знешнасці. Няўжо ў Архана не было ў атачэнні ніводнага знаёмага азербайджанца?»

Атрымліваецца, што нехта справакаваў інцыдэнт або выкарыстаў яго для гучнай антыкаўказскай кампаніі? Аднак хто гэты чалавек або група людзей? Самая прымітыўная версія — за падзеямі стаяць бізнэсоўцы, якія паклалі вока на тую самую бірулёўскую базу, дырэктарам якой з'яўляецца азербайджанец. «Падзеі ў Расіі, якія надышлі за забойствам масквіча Шчарбакова, былі інспіраваныя. Адной з мэтаў арганізатараў з'яўляецца перадача праваў уласнасці на рынак з адных рук у другія», — лічыць газета «Каспий».

На думку іншых, арганізатары правакацыі мелі значна больш адыёзныя эканамічныя планы. Як наконт ідэі падарваць эканоміку Азербайджана? «Масавы ціск на азербайджанцаў у Расіі, галоўным чынам у Маскве, асабліва ўзмацніўся пасля падзей у маскоўскім Бірулёва. Гэта абавязкова негатыўна адаб'ецца на дзелавой актыўнасці азербайджанцаў у Расіі. Гэта таксама негатыўна адаб'ецца на дабрабыце сваякоў, якія жывуць у Азербайджане», — лічыць адзін з буйных азербайджанскіх прадпрымальнікаў Сеўгім Рахімаў.

А вось дэпутат Мілі Меджліса Айдын Мірзазадэ ў інтэрв'ю агенцтву «Навіны Азербайджан» сцвярджае, што задачай бірулёўскай правакацыі быў падрыў азербайджана-расійскіх адносін. Ён звяртае ўвагу на адну акалічнасць: «Такія інцыдэнты адбываюцца ў расійскай сталіцы штодня сотнямі. Але раптам гэта забойства, нібыта ўчыненае азербайджанцам, апынулася самай асноўнай падзеяй у Расіі. У затрыманне меркаванага злачынцы былі ўцягнутыя ўсе сілавыя структуры Расіі. Нібы гэта не затрыманне падазраванага забойцы, а захоп кіраўніка буйнога злачыннага картэля або разгон буйной арганізаванай злачыннай групоўкі. Больш за тое — упершыню ў гісторыі Расіі абвінавачваны быў дастаўлены адразу ў кабінет міністра ўнутраных спраў, і падаецца ўсё гэта як «аднаўленне справядлівасці», — адзначае Мірзазадэ.

Гэтую думку падзяляюць і дзяржаўныя чыноўнікі Азербайджана. На думку Араза Азімава, намесніка міністра МЗС Азербайджана, «ёсць сілы, якія хочуць негатыўна ўздзейнічаць на расійска-азербайджанскія адносіны, аднак яны павінны правільна ацаніць сітуацыю, каб пазбегнуць потым эфекту бумеранга».

Азімаў, праўда, не можа дакладна сказаць, каму патрэбна, каб паміж Баку і Масквой прабегла чорная котка. Затое адказ ведае іншы азербайджанскі парламентарый Адыл Аліеў: «Думаю, што тут пераважае армянскі фактар. Як толькі мы дамагаемся вялікіх поспехаў, нас чакаюць падобныя правакацыі. Гэта трэба было чакаць. Мы павінны заклікаць суайчыннікаў прадухіляць падзеі, якія могуць пацягнуць за сабой правакацыю», — кажа дэпутат.

Затое кіраўнік Цэнтра палітычных даследаванняў «Атлас» Эльхан Шахінаглу бачыць у апошніх падзеях вушы Крамля. Эксперт піша: «Гэта (падзеі ў Бірулёва) чарговая спроба ціску на Азербайджан. Расія хоча, каб Азербайджан далучыўся да Мытнага і Еўразійскага саюзаў, і лічыць, што гэтага можна дабіцца шляхам ціску на азербайджанцаў, якія пражываюць у Расіі».

Незалежная бакінская газета «Зеркало», аднак, лічыць, што Крэмль завараў усю кашу з-за ўнутраных, а не знешніх палітычных матываў: «Паказальнымі аблавамі «на чужынцаў» праблему не вырашыць. Гэты спектакль разлічаны на абывацеля, якому неабходна прадэманстраваць гатоўнасць уладаў выказваць інтарэсы фашыстоўскага натоўпу нашмат лепш, чым нефармальныя лідары рускага нацызму. Вось і ўсё. Справа нават не ў Зейналаве. Калі ён на самай справе забіў, то павінен панесці пакаранне. Гэта адназначна. Праблема ў іншым. Тое, што мы назіраем у Расіі, — гэта звычайны дзяржаўны фашызм».

Згодны з гэтым і апазіцыйны сайт Haqqin.az: «Мы бачым толькі спектакль, у якім абвінавачанага фактычна ператвараюць у злачынцу. Мы бачым выбарчы падыход да правапарушэнняў. Уладзе патрэбныя толькі тыя злачынствы, у якіх вінаваціць «асоб каўказскай нацыянальнасці». І гэта — вялікая памылка, наступствы якой могуць быць самымі трагічнымі».

Можна верыць або не ў аргументы азербайджанскіх палітыкаў і журналістаў, аднак трэба прызнаць, што ў адным пункце яны дакладна маюць рацыю. Падазраваны ў здзяйсненні злачынства лічыцца невінаватым да таго моманту, пакуль адпаведны орган не прызнае яго віну.

СПРАВА

# У КАВЯРНЯХ БОЛЬШ НЕ ЗБІРАЦЦА

Алег НОВІКАЎ

**У Іспаніі пачаўся судовы працэс супраць уладальнікаў сеткі кавярняў «Herriko tabernas», праз якую, на думку следства, фінансаваліся радыкальныя баскскія нацыяналістычныя ініцыятывы.**



Недзе ў 2005 годзе ў партовым раёне ў Сан-Себасцьяне мне давялося пабываць у адной з такой «Herriko tabernas». Знешне гэта нагадвала занадта палітызаваную этнакавярню. У меню было шмат баскскіх блюдаў і напояў. Па сталах раскіданыя ўлёткі пра бліжэйшыя акцыі і палітычныя мерапрыемствы актывістаў «izquierda abertzale» (рух левых нацыяналістаў). Стойку бара ўпрыгожвалі партрэты незалежнікаў, якія за розныя грашкі сядзяць у іспанскіх турмах. Тэлевізара не было, паколькі, паводле слоў бармена, «на тэлебачанні выключна хлусяць». Таму аўдыёфон у памяшканні фармуюць дэцыбелы тамтэйшых панк-гуртоў. Нават не ведаючы мовы баскаў, па танальнасці выканаўцаў можна зразумець, што агітуюць яны дакладна не за сямейныя каштоўнасці і палітычную лаяльнасць. З іншага боку, такая напаленая атмасфера не выклікала пачуцця таго, што ты трапіў на канспіратыўную кропку. Публіка — звычайныя людзі і моладзь — даволі ахвотна ішла на кантакт, распавядала пра нейкія цікавыя моманты палітычнага і культурнага жыцця рэгіёну.

Цяпер высвятляецца, што тыя кавярні былі ледзь не логавам тэрарыстаў. Калі верыць матэрыялам іспанскай пракуратуры, сетка кавярняў «Herriko tabernas» — каварная распрацоўка стратэгаў ЕТА. Быццам, у 1992 годзе на зборах лідараў арганізацыі было ўзнята пытанне стварэння легальных гаспадарчых установаў, праз якія можна было адмываць грошы і збіраць так званы рэвалюцыйны падатак з прадпрымальнікаў.

Так нарадзілася ідэя кавярняў. Іх стварэнне тэрарысты даручылі активу партыі «Batasuna» (палітычная вітрына ЕТА, якую з часам пазбавілі рэгістрацыі). Хутка ў аднесна невялікай баскскай аўтаноміі паўстала сетка са 107 кавярняў «Herriko tabernas». Калі верыць той жа пракуратуры, у эканамічным плане ініцыятыва аказалася суперпрыбытковай. Штогод яны прыносіла ўладальнікам 12 мільёнаў еўра.

Толькі бізнэсам дзейнасць такіх кропак не абмяжоўвалася. Па вечарах у кавярнях адбываліся сустрэчы прыхільнікаў незалежнасці з нацыяналістычных партый. Тут жа праводзіліся зборы моладзевых арганізацый «Jarrai», «Haika» або «Segi», якія былі забароненыя ў розныя часы за арганізацыю вулічных беспарадкаў т.з. «kale borroka».

Менавіта з-за тых збораў радыкальнай моладзі кропкі «Herriko tabernas» трапілі ў фокус інтарэсу адпаведных органаў, якія ў 2002 годзе пачалі капаць. Хутка высветлілася, што на рахункі сеткі кавярняў прыходзяць грашовыя пераводы з банкаўскіх афшораў або краін, якія часта давалі прытулак баскскім сепаратыстам (у тым ліку Венесуэлы і Кубы).

У 2007 годзе справе далі поўны ход. Частка ўладальнікаў кавярняў была арыштаваная. У некаторых кавярнях прайшлі ператрусы. Перш за ўсё дэтэктываў цікавіла чорная бухгалтэрыя — галоўны доказ кантактаў «Herriko tabernas» з тэрарыстычным падполлем. Нарэшце справа дайшла да суду. Усяго на лаве падсудных сядзяць 36 чалавек.

Як і трэба было чакаць, працэс выклікаў абурэнне ў баскскім грамадстве. Нават кансерватыўная Баскская нацыянальная партыя (BNP) — стары канкурэнт левых нацыяналістаў — патрабуе прыпыніць справу. «Bildu» — партыя, якая па сутнасці з'яўляецца пераемнікам «Batasuna», лічыць што працэс абсалютна неадэкватны, паколькі не адпавядае духу цяперашняга часу. Увогуле, адвакатура будуе абарону на тэзісе пра тое, што сустрэчы ў кавярнях былі рэалізацыяй права грамадзян на свабодныя сходы. Тым больш, што праходзілі яны абсалютна празрыста і адкрыта для ўсіх жадаючых. Таму працэс яўна палітычны, што з'яўляецца нонсэнсам у дэмакратычнай дзяржаве.

Аглядальнікі баскскай нацыяналістычнай прэсы большыя спадзяванні звязваюць не з адвакатамі, а з некаторымі аспектамі палітычнага працэсу, на фоне якога адбываецца суд. Гэты працэс вызначаецца так званай «нармалізацыяй», пад якой разумецца паступовая адмова «izquierda abertzale» ад гвалтоўных сродкаў барацьбы ў абмен на легалізацыю іх структур. Два гады таму ўлада дазволіла левым нацыяналістам атрымаць легальны дах у выглядзе партыі «Bildu». А ЕТА заявіла пра прыпыненне вайсковага супрацьву. Такім чынам, улада, пачынаючы суд над уладальнікамі кавярняў, павінна была разумець — суровы прысуд арганізатарам сеткі «Herriko tabernas» можа прытармазіць працэс пацыфікацыі «izquierda abertzale», дасць ястрабам унутры ЕТА карт-бланш.

Спачатку, сапраўды, узнікла ілюзія, што ўлада проста заплюшчыць вочы на тое, што рабілася за дзвярыма «Herriko tabernas». Напрыклад, абвінавачанне не было выстаўлена Арнальда Атэгі, кіраўніку партыі «Batasuna», які відавочна быў у курсе дзейнасці аднапартыйцаў.

Аднак кан'юнктура нечакана змянілася. 20 кастрычніка Еўрапейскі суд па правах чалавека ў Страсбургу патрабаваў выпусціць з іспанскай турмы былога баевіка ЕТА Інэс дэль Рыа, якая была засуджаная на 3284 гады турмы (!) напрыканцы 1980-х. Хаця ў 2006 годзе іспанскі суд дазволіў выпускаць вязняў, якія прасядзелі 30 гадоў, Інэс у 2017-м, калі заканчваецца 30 гадоў яе знаходжання ў турме, выпускаць не збіраліся.

Тады 55-гадовая жанчына звярнулася ў Страсбург і выйграла справу, што вельмі раз'юшыла Мадрыд. Іспанскі МУС ужо заявіў, што ніякай талерантнасці да баевікоў ЕТА не дапусціць. Для іспанскіх сілавікоў пакінуць Інэс за кратамі — справа гонару. Яна адказная за вядомы тэракт у ліпен 1986 года супраць курсантаў паліцыі. У выніку выбуху аўтобусу акадэміі нацыянальнай гвардыі было забіта сем курсантаў. Увогуле, група Інэс паспела забіць 24 чалавека (як правіла, паліцэйскіх і вайскоўцаў) перад тым, як яе нейтралізавалі. Акрамя таго, калі Мадрыд выканае рашэнне Страсбургу наконт Інэс, гэта можа стаць судовым прэцэдэнтам. У такім разе давядзецца вызваляць яшчэ як мінімум 60 з 800 асуджаных баевікоў ЕТА, які знаходзяцца ў іспанскіх турмах.

Аналізуючы жорсткую рэакцыю Мадрыда на пастанову Страсбургскага суда, прэса баіцца, што іспанскі прэм'ер Марыяна Рахой вырашыў разыграць баскскую карту. З-за цяперашняга крызісу кабінет даўно ператварыўся ў мішэнь народнай крытыкі. Давер да Народнай партыі прэм'ера ўпаў да рэкордных 26 працэнтаў. Таму пагуляць на тэме тэрарыстычнай пагрозы вельмі спакусліва. Тым больш, што правы электарат патрабуе ад ураду рашучасці ў барацьбе з сепаратыстамі.

У гэтым плане амаль кур'ёзны суд над «Herriko tabernas» набывае вельмі важнае значэнне для перспектыў працэсу нармалізацыі сітуацыі ў Краіне Баскаў. Стаўка вельмі вялікая: паводле інсінуацый у прэсе, ЕТА рыхтавала на Каляды мегападарунак усяму народу Іспаніі — заяву пра гатоўнасць самараспусціцца ў абмен на вызваленне ўсіх сваіх баевікоў у турмах Іспаніі і Францыі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ГЕНАДЗЬ ЗЮГАНАЎ



Лідар Камуністычнай партыі Расійскай Федэрацыі (КПРФ) на апошнім пленуме ЦК партыі шакаваў усіх заявай пра неабходнасць падтрымаць інтарэсы гастарбайтараў. Нагадаем, што ў апошні час камуністы былі ў авангардзе рускага патрыятычнага руху і нават падтрымалі ідэю рэферэндуму аб візах для грамадзян краін СНД. І раптам такі нечаканы паварот. Зюганаў лічыць, што падтрымка гастарбайтараў адпавядае інтэрнацыянальным традыцыям СССР і не дазволіць увесці візавы рэжым з краінамі Сярэдняй Азіі, якія, на яго думку, могуць зноў стаць суб'ектамі новага адроджанага Саюзу. Акрамя таго, галоўны камуніст адкрыў Амерыку, заявіўшы, што «працоўныя эмігранты — гэта пралетарыят». Важна адзначыць, што ўпершыню за доўгі час у сваім выступе Зюганаў ніводнага разу не сказаў пра «праваслаўе», што можна лічыць знакам таго, што прамова была не імправізацыяй. Журналісты, аднак, Зюганаву мала вераць. На іх думку, камуністы нечакана зразумелі, што тэму абароны інтарэсаў рускага народа яны яўна прайграюць нават лібералам у асобе Навальнага, не кажучы пра нацыяналістаў і пуцінцаў. Таму партыя хоча выйсці на новыя электаральныя групы. Апошнія падзеі ў Расіі сапраўды засведчылі, што шматлікія расіяне баяцца росту нацыянальнага супрацьстаяння і шукаюць палітычную сілу, якая зможа наладзіць дыялог з этнічнымі грамадамі.

### БАРАК АБАМА



Каментуючы рамачнае пагадненне рэспубліканцаў і дэмакратаў аб бюджэтным фінансаванні ад 15 кастрычніка, прэса піша, што Абама фактычна забяспечыў перамогу на наступных прэзідэнцкіх выбарах кандыдату ад дэмакратаў. Ён тактычна правільна павёў сябе ў канфлікце, які развязалі рэспубліканцы, адмаўляючы ўсе кампрамісы. Людзі, і перш за ўсё бюджэтнікі, эгаізму рэспубліканцаў не зразумелі. У выніку дайшло нават да заклікаў знайсці спосаб, у тым ліку і сілавы, прыняць неабходнае рашэнне. У свой час Франклін Рузвельт на адзін дзень спыніў дзейнасць усіх банкаў ЗША і прымусіў іх падпарадкоўвацца дзяржаўнаму рэгулятару. Не задаволеныя рэспубліканцамі і на Уол-стрыт з-за таго, што тыя падвергли небяспецы аснову буйнога амерыканскага бізнэсу — каштоўныя паперы ўраду ЗША — дзеля партыйных інтарэсаў. Як след, за год да выбараў у кангрэс апытанні паказваюць, што ў тых сямнаццаці акругах, у якіх партыі асуджаныя на жорсткае супрацьстаянне, нaперадзе вылучэнцы дэмакратаў. У дадатак самі рэспубліканцы ўсё больш жорстка канфліктуюць, аж да таго, што зліваюць на аднапартыйцаў кампрамат. Палітолагі не выключаюць расколу партыі. Апошні раз такое было ў 1912 годзе, калі Тэадор Рузвельт увёў частку рэспубліканцаў у сваю Прагрэсіўную партыю. Як і трэба было чакаць, выбары закончыліся трыумфам дэмакратаў.

### АЛЕГ ЛЯШКО



Дэпутат Вярхоўнай Рады Украіны, лідар створанай ім жа Радыкальнай партыі, Ляшко прыдумаў, як пазбавіцца феномену т. зв. «тушак». «Тушкамі» на ўкраінскім палітычным слэнгу называюць дэпутатаў, якія абіраюцца ў прадстаўнічыя органы па адным партыйным спісе, каб пасля, па розных прычынах, перабегчы ў фракцыю іншай партыі. Цяпер ва Украіне абвешчаныя выбары ў пяці акругах, дзе ў мінулым годзе не абралі дэпутатаў. Таму кожная партыя думае, як бы не высунуць будучую «тушку». Выхад з праблемы ведае Ляшко. На зборах партыі было вырашана, што ўсе радыкалы, якія пойдуць на выбары па тых пяці акругах, падпішуць спецыяльны дакумент. Паводле дакументу, яны пагаджаюцца, што ў выпадку здрады партыі Ляшко іх чакаюць жудасныя пакуты. А менавіта яны гатовыя, каб у такім выпадку іх «разадралі на шматкі віламі, а ўсю кроў вылілі ў Днярпо». Ініцыятыва Ляшко выклікала шмат каментароў. У тым ліку ўсе згадалі, што перад папярэднімі выбарамі кандыдаты-радыкалы прынесілі клятву на вернасць Ляшко, цалуючы праваслаўны крыж, як гэта рабілі, прымаючы клятву, запарожскія казакі. Мяркуючы па ўсім, тая клятва не спрацавала, і лідар радыкалаў вырашыў прыдумаць адступнікам больш жорсткае пакаранне. Аматары жартаў, між тым, гадаюць, якое пакаранне будзе чакаць тушак-радыкалаў на наступных выбарах. Тут важна нагадаць, што шмат хто ва Украіне лічыць, што Алег Ляшко належыць да сэксуальных меншасцяў.

СПАДЧЫНА

# Ігар Дабралюбаў: «ВОСЬ ВАМ НА КАЛЕНІ!»

Сяргей ШАПРАН

**Дабралюбаў ледзь не крычаў са старонак газет: «Некралога яшчэ не было. Я жывы!» Аднак і «Беларусьфільм», і афіцыйны беларускі кінематограф абыходзіліся без Майстра. У выніку Дабралюбаў перанёс чацвёрты інфаркт…**


Фота аўтара

22 кастрычніка аднаму з самых знакамітых беларускіх кінарэжысёраў, народнаму артысту Беларусі Ігару Дабралюбаву споўнілася б 80. Вучань Міхаіла Рома, аўтар «Восеньскіх сноў», «Раскладу на паслязаўтра», «Плача перапёлкі», «Івана Макаравіча», нарэшце, народнай кінакамедыі «Белыя росы», у апошнія гады быў выкінуты з прафесіі, хаця хацеў вярнуцца ў кінематограф — ён імкнуўся дзяліцца досведам з маладымі і да таго ж жыў марай экранізаваць «Жоўты пясочак» Васіля Быкава. Але — не далі, не дазволілі.

Тое сталася драмай рэжысёра. Зрэшты, ён сам нібыта напрарочыў сабе далейшы лёс, калі ў 1994-м зняў карціну пад назвай «Эпілог», — яна аказалася апошняй працай Дабралюбава, яго ў літаральным сэнсе кінаэпілогам, пасля якога было дзесяцігоддзе кінематаграфічнага маўчання, што пасля некалькіх інсультаў пераўтварылася ў маўчанне ў прамым сэнсе слова.

Адна з першых прац Ігар Дабралюбаў — карціна «Іван Макаравіч» — была, па сутнасці, кінабіяграфіяй яго пакалення. Невыпадкова Ігар Міхайлавіч прызнаваўся падчас адной нашых гутарак: «Я “Івана Макаравіча” практычна глядзець не магу. Плачу, таму што гэта вельмі блізка мне…» Пасля быў фільм «Мама, я жывы» — пра хлопчыкаў, якія жывуць у акупаванай у вайну Беларусі.

Тое была своеасаблівая дылогія Дабралюбава. Між іншым, за «Івана Макаравіча» майстру былі прысуджана некалькі кінапрэмій, у тым ліку прыз Венецыянскага кінафестывалю, куды Дабралюбава не выпусцілі. Ён прыгадваў: «Паведамляюць, што, маўляў, у Маскве чакаюць, але дакументы затрымліваюцца. А я ўжо чорны касцюм набыў, і бабачку мае жанчыны зрабілі. Як раптам з Масквы прыходзіць паведамленне: у Венецыі халера, трэба зрабіць прышчэпку. Раніцай іду ў санэпідэмстанцыю, а мне кажуць: “Укол мы зробім, але праз два тыдні ты павінен прыйсці ў другі раз”. Я збянтэжаны: “Мне ехаць трэба!..” У выніку ўкалваюць падвойную дозу, і я ляжу дома — каленкі падцягнуў да падбароддзя, вочы белыя, страшныя, зрэнак не бачна. А Венецыя праходзіць сама сабой — дакументы прыйшлі не ў час… Я пасля неяк спытаў у Маскве: “Як жа так? Карціна мая атрымлівае прэмію, я — яе аўтар. Але я — тут, а карціна — там!” І мне адказалі: “Будзьце ўпэўнены, Ігар Міхайлавіч, што вашу карціну прадстаўлялі вельмі годныя людзі”. — “Веру з ахвотай, — сказаў я. — Але гэта мая карціна”».

Выпускнік факультэта журналістыкі БДУ, Дабралюбаў паступіў ва ВГІК, дзе вучыўся ў самога Міхаіла Ільіча Рома. Раней з курса Рома пайшлі ў кінематограф Андрэй Таркоўскі і Васілій Шукшын, з курса, на якім вучыўся Дабралюбаў, — Андрэй Канчалоўскі і Андрэй Смірноў, аўтар знакамітага «Беларускага вакзала».

Вядома, што Ром быў бліскучым апавядальнікам, але не менш бліскуча распавядаў пра настаўніка і Дабралюбаў. Ён расказваў падчас нашай з ім гутаркі: «Памятаю, сталі мы неяк сумныя ў калідоры (ішоў экзамен па майстэрстве). Каля ВГІКа прыпаркаваны машыны з дыпнумарамі, у вестыбюлі ходзяць прыгожа апранутыя дамы, сноўдаюць фатографы з такімі вось аб'ектывамі — адчуванне, нібыта там слава, а тут — суцэльны правал! Дый яшчэ на наш прагляд прыйшоў Вася Шукшын, хаця, здавалася б, што тут такога? — таксама ж студэнт… Як раптам у курылку выходзіць Ром — пытаецца: “Чаму такія?” — “Ды нічога…” — “Дайце запаліць”. Узяў ён “дукацік” (былі такія жоўценькія цыгарэты, па дзесяць штучак пачак), выслухаў нас і сказаў: “Слава — гэта такая жанчына, якая прыходзіць, калі захоча, і сыходзіць, калі ёй уздумаецца. Утрымаць яе немагчыма, а чакаць — бессэнсоўна. Працуйце”. Кінуў акурак, і пайшлі мы здаваць экзамен».

І тады ж яшчэ пра Рома: «Заходжу аднойчы да яго ў кабінет і бачу свежыя кніжкі — толькі з тыпаграфіі. Мы пра нешта гаворым, а я ўсё думаю, як бы гэта кніжку папрасіць! Ром, заўважыўшы маё нецярпенне, кажа: “Ды не ёрзай ты! Падару!” І калі ўжо развіталіся, Міхаіл Ільіч напісаў на кніжцы: “Ігару Дабралюбаву — добраму чалавеку ад старога акушэра”. Прачытаў я гэта ўжо на лесвічнай пляцоўцы і задумаўся. Толькі пасля здагадаўся, што акушэр — гэта не той, хто дзіця нараджае, а хто дапамагае пры родах. І зрабілася мне так сумна, што вось па той бок дзвярэй застаўся геніяльны чалавек, а я нават не магу расшыфраваць тое, што ён напісаў! Я сядзеў і плакаў…»

Кінематаграфічны лёс Ігара Дабралюбава, як і яго настаўніка Рома, не быў бясхмарным: цэнзура чаплялася да яго карціны «Трэцяе не дадзена» — пра генерала Васілія Каржа, які, атрымаўшы пасля вайны пасаду намесніка міністра лясной гаспадаркі, прыехаў аднойчы ў сваю родную вёску і, убачыўшы занядбанне, пакінуў высокую пасаду, і стаў старшынёй калгаса.

На здымках карціны «Расклад на паслязаўтра» ўжо гаварылі: школа нетыповая, у нас такіх школ быць не можа. Аднак за прыклад Дабралюбаў узяў школу акадэміка Лаўрэнцьева, які арганізаваў Акадэм-гарадок у Новасібірску. Фільм беларускага рэжысёра абараняў сам Сяргей Герасімаў…

Ігар Міхайлавіч шкадаваў, што не паказваюць па тэлебачанні яго «Расклад на паслязаўтра», «Трэцяе не дадзена», «Вуліца без канца» і «Плач перапёлкі». Дадаваў яшчэ, што пасля, можа, нехта прыгадае, што ён меў дачыненне і да дзіцячай карціны «Па сакрэту ўсяму свету» — той самай, дзе гучыць песня: «Ля-ля, жу-жу. Я секретов не держу…» І прызнаваўся, што асабіста для яго поўнай нечаканасцю стала тое, што глядач так палюбіў яго «Белыя росы». «Тым больш, што я, як аўтар, — гаварыў Ігар Міхайлавіч, — ведаю, што ў мяне ёсць больш тонкія па мастацтве карціны — «Восеньскія сны», да прыкладу. Аднак народ тае разважанні ў разлік не прымае».

Былі ў жыцці майстра і няздзейсненыя задумы. Так, яшчэ на самым пачатку кінематаграфічнага шляху яму не далі экранізаваць сцэнарый Уладзіміра Караткевіча «Гневное солнце палящее».

«Караткевіч толькі прыехаў з Масквы з вышэйшых літаратурных курсаў, я — з ВГІКа, — распавядаў Дабралюбаў. — Тады і пазнаёміліся. І як абняліся з ім, так і не расставаліся да таго часу, пакуль цэнзары не зарэзалі сцэнарый. Я, дарэчы, толькі цяпер разумею, што гэта быў цудоўны сцэнарый. Тое была філасофская прыпавесць пра суадносіны чалавека і пачуцця страху, бо страх суправаджае чалавека ўсё жыццё, але ў кожным узросце набывае новыя формы».

Пасля забароны сцэнарыя Караткевіча ў Дабралюбава здарыўся першы інфаркт. Другі — пасля забароны на пачатку 1970-х сцэнарыя Васіля Быкава па аповесці «Сотнікаў».

Між іншым, яму двойчы не давалі экранізаваць Быкава — другі раз ужо на пачатку 2000-х, калі Дабралюбаў захацеў паставіць «Жоўты пясочак», як ён сам вызначаў, «апавяданне біблейнага ўзроўню».

З гэтай нагоды кінарэжысёр быў на прыёме ў тагачаснага міністра культуры, пра што пасля распавядаў: «Мне было сказана проста: карціну здымаць не будзем… Ну, і хай не здымаюць. Дый яны і не здольныя на тое! Гэта я ўмею рабіць, Быкаў умее… Мяркую, уся справа ў тым, што Васіль Уладзіміравіч, не назваўшы самога гэтага слова — Курапаты, тым не менш умудрыўся мудрасцю сваёй распавесці пра гісторыю Курапат — распавесці і пра расстрэлы, і пра чалавека, якога жадаюць паставіць на калені… Ніколі не забуду “Ніхто не хацеў паміраць” Жалакявічуса. У гэтай карціне параненага чалавека ставяць да сцяны: “На калені!” А ён… (тут Дабралюбаў зрабіў характэрны жэст) вось вам на калені! Гэта ўчынак. Так і тут. Таму ўсе, хто жадае нячэсна ўладкавацца ў гэтым жыцці, хай бы лепш падумалі пра тое, што чакае іх у самым канцы шляху…»

Наогул, пасля выхаду карціны «Эпілог» лёс Дабралюбава змяніўся карэнным чынам. Будучы выкінутым з кінематаграфічнага працэсу на пенсію, сам ён знаходзіў таму такое тлумачэнне: гэта адбылося пасля таго, як «наверсе» паглядзелі той самы «Эпілог».

«Хаця памятаю, — прыгадваў Ігар Міхайлавіч, — што ў аднаго намесніка міністра адразу пасля прагляду трэсліся рукі, другі… таксама знаходзіўся пад уражаннем. А на аднаго, відаць, фільм паўплываў іншым чынам. Прозвішча яго — Заматалін. Вось ад яго, мабыць, і пайшло наверх, прэзідэнту, што Дабралюбаў — чалавек ненадзейны, апазіцыянер».

Зрэшты, рэжысёр больш перажываў нават не за свой лёс, а за лёс «Беларусьфільма» і айчыннага кінематографа. Ён гаварыў: «Я ўсё жыццё аддаў кінематографу і не магу бачыць, як ён на маіх вачах гіне. А ён гіне. І гэта грахоўна. Досвед трэба перадаваць, а інакш мы пойдзем, нешта ў гэтым жыцці не дарабіўшы».

Дабралюбаў ледзь не крычаў са старонак газет: «Некралога яшчэ не было. Я жывы!» Аднак і «Беларусьфільм», і афіцыйны беларускі кінематограф абыходзіліся без Майстра. У выніку Дабралюбаў перанёс чацвёрты інфаркт…

Неаднойчы сустракаючыся з Ігарам Міхайлавічам, я доўгі час пераконваў яго напісаць успаміны, бо таго, здавалася, вымагалі яго лёс і кінапрацы, нарэшце, само яго імя. Дабралюбаў жартаваў: «Па ўзросце не саспеў». І дадаваў: «Пра гэта думаю, бо ёсць пра што распавесці. Лёс спрыяў мне і зводзіў з рознымі выбітнымі і вялікімі людзьмі. І прыгадваць трэба іх — каб яны болей жылі. А пра сябе распавядаць? Ну, працаваў, здымаў карціну за карцінай. Расказваць жа пра тое, якія былі прыгоды і цяжкасці, — каму гэта будзе цікава? Дый усе гэта ведаюць”. — “Не ведаюць!” — пярэчыў я. “Кінематаграфісты ведаюць”, — парыраваў Дабралюбаў. “А звычайныя чытачы-гледачы?” — “Яны проста не паверацць у гэта”».

Тым не менш такую кнігу, шчырую, светлую і добрую, Ігар Міхайлавіч зрабіў, і наіперш дзякуючы Алене Наважылавай, цудоўнай журналістцы «Белорусской деловой газеты»: гэта менавіта яна ажыццявіла літаратурны запіс успамінаў Дабралюбава.

Праўда, і тут не абышлося без праблем: рэжысёр не мог знайсці выдаўца сваіх мемуараў. Яму прапаноўвалі выдаць іх у Маскве, але ён хацеў менавіта тут, у Беларусі, дзе і прайшла большая частка яго жыцця. Нарэшце кніга ў Мінску выйшла і называлася «Осколки памяти», але выйшла… на ўласныя сродкі аўтара.

Родныя рэжысёра не выключалі, што дзякуючы ў тым ліку гэтай кніжнай эпапеі з Ігарам Міхайлавічам і здарыўся першы інсульт. Ён не мог хадзіць і гаварыць. Здавалася, што ён замаўчаў, знясілены ў марным намаганні да некага дакрычацца, некага ў нечым пераканаць…

Дабралюбаў пражыў яшчэ чатыры гады і, перанёсшы тры інсульты, пасля апошняга не вытрываў — ён пайшоў з жыцця летам 2010-га. А тым часам па тэлевізары ўжо тры дзесяцігоддзі паказваюць «Белыя росы», забыўшыся на іншыя карціны майстра.

Зрэшты, сам Ігар Міхайлавіч гаварыў, відаць, спрабуючы зразумець папулярнасць свайго фільма: «У душу кожнаму не ўлезеш. У Сервантэса чалавецтва абрала толькі адзін раман. І “Дон Кіхот” будзе жыць вечна, пакуль будзе жыць чалавецтва. Так здараецца. Ром нас да гэтага рыхтаваў — гаварыў, што калі хоць адзін чалавек у залі суперажывае тваёй карціне, дык будзь шчаслівы ўжо гэтым». Можа быць, у гэтых словах і быў адказ на пытанне: ці шчаслівым чалавекам быў кінарэжысёр Ігар Дабралюбаў?

МАСТАЦКІ ФОРУМ

# «ПРОБА ГРУНТУ Ў КАЗАХСТАНЕ». МІЖ ТЭАТРАМ І РЭАЛЬНАСЦЮ

Віка ТРЭНАС

**Інстытут імя Гётэ ў Мінску і Міжнародны форум тэатральнага мастацтва «ТЕАРТ» прадставілі на сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра спектакль берлінскага калектыву «Рыміні Пратакол» «Проба грунту ў Казахстане». Рэжысёр пастаноўкі Штэфан Кэгі.**

## Уводзіны ў дакументальны тэатр

«Рыміні Пратакол», куды ўваходзяць Даніель Ветцэль, Штэфан Кэгі і Хельгард Хаўг, лічыцца пачынальнікам так званага «тэатра моманту». Выпускнікі Інстытута прыкладных тэатральных даследаванняў у Гісэне сталі канцэптуальна распрацоўваць прастору між тэатрам і рэальнасцю. З 2000 года праект атрымлівае назву «тэатр экспертаў»: у спектаклях удзельнічаюць не прафесійныя акцёры, а рэальныя ўдзельнікі («эксперты») апісаных у пастаноўцы падзей.

Вельмі часта дзеянне разгортваецца не на тэатральнай сцэне, а, напрыклад, на вуліцах гарадоў Заходняй і Усходняй Еўропы. А «экспертамі», якія дзеляцца сваімі жыццёвымі гісторыямі, становяцца дальнабойшчыкі, апаратары call-цэнтра, супрацоўнікі пахавальных бюро, музыкі, якія граюць на могілках, студэнты-хірургі і папросту звычайныя абывацелі.

У пастаноўках актыўна выкарыстоўваюцца лічбавыя тэхналогіі: мабільная сувязь, «жывое» скайп-злучэнне. Вялікая ўвага надаецца візуальнаму шэрагу: відэасюжэтам, якія суправаджаюць маналогі герояў і ствараюць дыялагічны кантэкст, адметным рэчам, якія нясуць сімвалічнае значэнне, дынамічнаму асвятленню. Усё гэта працуе на збліжэнне тэатра і рэальнасці, пераадоленне дыстанцыі паміж сцэнай і залай, паміж «экспертам» і гледачом.

У 2007 годзе рэжысёры Хаўг, Кэгі і Ветцэль сталі ўладальнікамі прэстыжнай нямецкай тэатральнай узнагароды «Der Faust», у 2008 годзе ў Салоніках яны былі ўганараваныя Еўрапейскай прэміяй «Новая тэатральная рэальнасць», а ў 2011 годзе атрымалі Сярэбранага Льва Венецыянскай біенале выканальніцкіх мастацтваў.

Прадстаўлены беларускай публіцы спектакль «Проба грунту ў Казахстане», прэм'ера якога адбылася 27 красавіка 2011 года, — узор «тэатра моманту». Штэфан Кэгі і ягоныя калегі пачалі пошук удзельнікаў для спектакля яшчэ ў сакавіку 2010 года. Імёны персанажаў п'есы (драматургі — Алёша Бегрыш і Юліанэ Менэль) і імёны «экспертаў» (не блытайма з прафесійнымі акцёрамі) — супадаюць. А значыць, перад гледачамі — рэальныя людзі, якія распавядаюць свае біяграфіі. Пастаноўка ідзе на рускай і нямецкай мовах.

## Шляхам нафтаправоду з Германіі ў Казахстан

За гадзіну сорак хвілін (менавіта столькі працягваецца спектакль) глядач мае магчымасць азнаёміцца з пяццю гісторыямі, звязанымі паміж сабой глабальнымі катастрофамі ХХ стагоддзя, прасачыць лёсы пяці людзей рознага пакалення, чые аповеды так ці інакш звязаныя з «чорным золатам».

На шляху нафтаправода з Германіі ў Казахстан сустракаюцца розныя краіны, вялікія і малыя населеныя пункты, буравыя вышкі, засакрэчаныя вайсковыя аб'екты, і з кожным такім месцам звязаны ўспаміны ўдзельнікаў падзей.

Героі спектакля — людзі, якія ладную частку свайго жыцця знаходзіліся ў пошуках радзімы, каго — па ўласнай ці не па ўласнай волі — закінула ад месца іх нараджэння на іншы канец еўразійскага кантынента. Але на іх першай радзіме засталіся родныя і блізкія, або — магілы родных і блізкіх.

Калі геаграфія спектакля распасціраецца, то апавядальнікі цягам спектакля ўсё далей і далей занураюцца ў свае ўспаміны.

Быццам шахцёры, якія спускаюцца ў глыб зямлі, каб апрабаваць грунт і знайсці там нафту, «эксперты» ўздымаюць у сваёй памяці пласты расчараванняў і стратаў, каб адшукаць сябе, справядлівасць, радзіму і любоў да яе. І калі для бізнэсоўцаў нафта — «чорнае золата», то для апавядальнікаў ёсць «чорным золатам» іх незваротнае мінулае.

Матыў няспыннай дарогі, цяжкога мігранцкага шляху і невяртання — адзін з галоўных у спектаклі.

## Гісторыя першая. Герд Бауман

Удзельнік спектакля, які ў межах пастаноўкі гаворыць толькі па-нямецку, — усходнегерманскі інжынер Герд Бауман, які займаўся распрацоўкай здабычы нафты ў Казахстане, Іраку і Тэхасе. З аповедаў Герда пра яго прафесійную дзейнасць можна дазнацца пра зваротны бок нафтавай індустрыі — пра складанасці будзённай працы, пра карумпаванасць гэтага бізнэсу і яго экалагічныя наступствы. Дзякуючы відэасувязі гледачы становяцца сведкамі дыялогу Герда і яго калегі Пітэра: мужчыны абмяркоўваюць заробкі нафтавікоў у розных краінах свету, кошт барэля нафты і свой незайздросны лёс.

## Гісторыя другая. Генрых Вібэ

1941-ы. Інструкцыя сталінскага кіраўніцтва «Пра рассяленне немцаў Паволжа ў Казахстане». Сярод расійскіх немцаў былі і бацькі аднаго з удзельнікаў спектакля — Генрыха Вібэ. Яны аказаліся ажно ў Архангельскай вобласці.



Фота аўтара

У 1947 годзе бацьку арыштавалі, абвінаваціўшы ў антыдзяржаўнай прапагандзе. Голад — і маці вымушаная была аддаць Генрыха і яго брата ў дзіцячы дом. Праз восем гадоў бацька выйшаў з турмы, а ў 1957 годзе сям'я перабралася ў Казахстан.

На экране праектара крок за крокам мы бачым пакручасты шлях Генрыха ў Германію (цяпер ён жыве ў Ліхтэнбергу), архіўныя фота яго родных, відэа ваеннага часу, вуліцы і краявіды, дзе ён бываў і дзе ёсць цяпер.

Генрых успамінае, што недалёка ад казахскага мястэчка, дзе ён жыў, выпрабоўвалі атамныя бомбы. І дзеці купаліся і лавілі рыбу ў возеры, што ўтварылася ў катлаване пасля выбухаў. Выпрабаванні рабілі раз на два тыдні, і людзі нават прывыклі да землятрусаў, выкліканых імі. І жыхары рана паміралі ад хваробаў. Бацька Генрыха памёр ад раку лёгкіх.

Ідэя дарогі і руху (усё жыццё Генрых працаваў дальнабойшчыкам, вазіў паліва) суправаджае ягоны аповед. Зрэшты, увесь спектакль прасякнуты ўсеабдымным рухам. Не толькі лінейным, па дарозе з Германіі ў Казахстан, але і ў розных часавых вымярэннях. Відэашэраг, падрыхтаваны Крысам Кондэкам, набліжае апісаныя героем эпізоды да рэальнасці, візуалізуе іх. Безумоўна, спрыяе гэтаму і музыка Крысціяна Гарсія.

Генрых Вібэ — не толькі вадзіцель бензавоза, ён таксама аматар харавых спеваў. Для таго, каб не заснуць ноччу за стырном у доўгай дарозе, ён спявае. І калі Генрых выконвае песню «Эх, дороги» — на вочы наварочваюцца слёзы.

## Гісторыя трэцяя. Алена Панібратава

Дзяцінства Алены Панібратавай, якая цяпер жыве ў Гановеры, прайшло ў невялікім казахскім мястэчку недалёка ад касмадрома Байканур, адкуль Гагарыным быў здзейснены першы палёт у космас. Сям'я Алены, як і сям'я Генрыха Вібэ, з расійскіх немцаў, і таксама ў свой час была перасёленая з Украіны.

Побач з мястэчкам працаваў завод са шкоднай вытворчасцю, Алена і цяпер памятае прысмак медзі на вуснах.

Расчараванне ў «шчаслівым» піянерскім дзяцінстве, калі дзеці ў адным страі маршыравалі пад прапагандысцкія песні і кожны з іх шчыра хацеў стаць касманаўтам, прыйшло пазней. А тады Алена і яе равеснікі бачылі, як запускалі ракеты з Байкануру, і радаваліся гэтаму, не ўсведамляючы, наколькі разбуральныя тыя запускі ракет для здароўя мясцовых жыхароў.

Цяпер у гераіні застаўся толькі брат, які па-ранейшаму жыве ў Казахстане.

З экрана ён моўчкі глядзіць на гледачоў, а за ягонай спінай — могілкі, дзе пахаваныя ўсе Аленіны родзічы.

## Гісторыя чацвёртая. Нурлан Дусалі

Малады казах, які нарадзіўся і вырас у Астане, у адрозненне ад іншых герояў, з'ехаў з радзімы не вымушана, а па сваім жаданні — у пошуках больш забяспечанага жыцця. Нурлан Дусалі — паспяховы бізнэсмэн, які гандляваў спачатку нафтапрадуктамі, а цяпер прадае сонечныя панелі ў Германіі. Ён — прадстаўнік новага пакалення, чалавек постсавецкай фармацыі, які без шкадавання пакідае сваю радзіму і з ходу разлічвае прыбыткі ад продажу тавараў.

Праз відэасувязь Нурлан размаўляе са сваімі дзядулем і бабуляй, і толькі казахская народная песня, якую яны для яго спяваюць, нагадвае хлопцу, хто ён па крыві.

## Гісторыя пятая. Хеленэ Сімкін

Дзяцінства трыццацігадовай Хеленэ Сімкін прайшло ў Таджыкістане, у Душанбэ, у разгар грамадзянскай вайны, якая цягнулася пяць гадоў. Многія яе ўспаміны звязаныя з крывёй, пралітай яе суайчыннікамі, з жахам быць забітай, з адчуваннем небяспекі.

У 1994 годзе яе дзядуля змог выехаць у Германію. Хеленэ атрымала адукацыю банкаўскага служачага, асвоіла касметалогію. Але яе захапленне — танцы і праца артыста. І па вечарах дзяўчына бярэ ўдзел у шоў у нямецкіх клубах.

Сваякі Хеленэ — мусульмане, і ў тым грамадстве яна не змагла б быць самастойнай і актыўнай жанчынай, і, безумоўна, не змагла б займацца ўлюбёнай справай, быць артысткай, паказваць вогненнае шоў. Рэлігія не дазволіла б.

З 1993 года дзякуючы Гельмуту Колю многія рускамоўныя немцы змаглі выехаць у Германію. Каля 4 мільёнаў чалавек мусілі пакінуць новае жыццё. У спектаклі «Проба грунту ў Казахстане» закранаецца і праблема адаптацыі людзей да нямецкага грамадства. Кожны з герояў праходзіць сімвалічнае «кола пекла» і нарэшце апынаецца ў Германіі. У фінале спектакля Генрых Вібэ, колючы сякерай плашкі, успамінае палітыкаў, рашэнні якіх вызначалі лёсы мільёнаў людзей: А. Гітлера, І. Сталіна, М. Хрушчова, М. Гарбачова, Г. Коля.

## Ключ да разумення «тэатра моманту» ад Штэфана Кэгі

16 кастрычніка рэжысёр Штэфан Кэгі прачытаў публічную лекцыю для мінскай публікі. У сустрэчы акрамя Штэфана ўзялі ўдзел філасаф Вольга Шпарага, тэатразнаўца Тацяна Арцімовіч. Перакладчыкам была Вера Дзядок.

Кэгі распавёў пра асноўныя праекты тэатра «Рыміні Пратакол». Спадар Штэфан пачынаў як журналіст. Таму не дзіўна, што яго прывабілі магчымасці дакументальнага тэатра як формы, дзякуючы якой закранаюцца многія сацыяльныя праблемы, даецца зрэз розных грамадстваў і апісанне прадстаўнікоў канкрэтных прафесій. Спектаклі берлінскага тэатра ставяцца па ўсім свеце: у Індыі, Балгарыі, Аўстраліі, Польшчы, Бразіліі, — і часта набіраюцца мясцовыя ўдзельнікі («эксперты») для пастаноўкі спектакля і яго актуалізацыі ў канкрэтнай гарадской прасторы.

— У тэатры я стараюся пазбягаць дыстанцыі паміж гледачамі і ўдзельнікамі спектакля, максімальна наблізіць іх адно да аднаго. Але роля па маім разуменні — не тая, якую нехта напісаў для адмысловага навучанага чалавека, а тая сацыяльная роля, якую бярэ на сябе рэальная асоба. Неабходна, каб людзі, якія не вучыліся акцёрскаму майстэрству, маглі выйсці і расказаць пра сваё жыццё. Для маладога пакалення важней, каб тэатр паказаў, кім чалавек сапраўды ёсць, а не тое, як ён можа сыграць, — лічыць Штэфан Кэгі.

ТЭАТР

# ТЫЯ Ж І ГРАФ ФРЭДРА

## У КУПАЛАЎСКІМ ТЭАТРЫ АДЗНАЧЫЛІ ЮБІЛЕЙ СЛЫННАГА ПОЛЬСКАГА ДРАМАТУРГА

Ева ВАЙТОЎСКАЯ

**«Цёмна, людзі… Глуха, людзі… Заскуголіў цюцька ў будзе... Як Міцкевіч нам прарочыў, штосьці будзе, штосьці будзе…» Акторкі Кацярына Алейнікава і Крысціна Казак у строях «кісейных паненак» спускаюцца з чорнай ажурнай галерэі. Дзіва што не забываюць у цэйтноце вывучаны тэкст — прабірацца трэба проста па галовах «галёркі», якая вісіць на парэнчах. 22 кастрычніка Купалаўскі тэатр, які, паводле ўсіх афішаў, даваў старую добрую «Паўлінку», сабраў яшчэ адзін нечаканы аншлаг.**



www.kupalauski.by



Падзея, якая адбылася на гэтым тыдні дзякуючы супрацы дырэкцыі тэатру імя Янкі Купалы, Амбасады Польшчы ў Беларусі і выдавецтва «Логвінаў», мела ўнікальны характар.

### Нарэшце па-беларуску

Пачнём з таго, што ўпершыню з моманту адкрыцця мадэрнізаванага будынку на Энгельса шырокая публіка мела магчымасць пазнаёміцца з «тэатральнай кухняй» — рэпетыцыйнай залай тэатра, у якую трапляюць са службовага ўваходу. Аснашчаная складаным з выгляду светлагукавым абсталяваннем, прасторная і густоўна-строгая, у спалучэнні з венскімі крэсламі ды іншым старасвецкім рэквізітам, яна ўяўляе сабою актуальнае сёння яднанне «вінтажу» і «хай-тэку» і па антуражы можа пазмагацца з модными апошнім часам творчымі кластэрамі, якія арганізуе ў Мінску прадпрымальная моладзь.

Па-другое, упершыню на айчынных тэатральных падмостках ішла гаворка пра камедыёграфа Аляксандра Фрэдру (1793–1876) — класіка польскай літаратуры, 220-годдзе якога сёлета шырока адзначаюць у Польшчы. На жаль, да гэтага года слыннага аўтара на беларускую мову не перакладалі. Граф Фрэдра нарадзіўся ў Галіцы і ўсё сваё доўгае жыццё пражыў паміж Львовам і раскошнай сядзібай Бэнькава Вішня, якую спраектаваў сам. Напісаў больш за два дзясяткі п'ес, якія цяпер складаюць залаты фонд польскай літаратуры. Дзве самыя знакамітыя — вершаваныя «Помста» і «Дзявочыя зарокі» — сёлета пабачылі свет у выдавецтве «Логвінаў». «Помсту» пераклаў Андрэй Хадановіч, а «Дзявочыя зарокі» — Марыя Мартысевіч. І толькі 22 кастрычніка можна было пабачыць урыўкі з гэтых перакладаў у выкананні акцёраў-купалаўцаў.

### Як адрозніць ямб ад харэя

Пасля прывітальных прамоваў галоўнага рэжысёра купалаўцаў Мікалая Пінігіна і польскага амбасадара Лешака Шарэпкі вядоўца Лявон Баршэўскі перадаў слова перакладчыкам. Кожны прадставіў «сваю» п'есу, а потым гледачы маглі параўнаць, а як жа гэта выглядае ў інтэрпрэтацыі рэжысёра Ігара Пятрова. Забягаючы наперад, скажам, што пастаноўка атрымалася арыгінальнай, густоўнай і далікатнай цытатай з тэатру XIX стагоддзя, дакладным адчытаннем фірмовай іроніі Фрэдры. Аздабляла вечарыну музыка тагачасных кампазітараў у выкананні трыё «Вытокі» пад кіраўніцтвам Аляксея Фралова. «Для мяне гэтая вечарына — яднанне літаратуры, тэатру і музыкі, сапраўдная творчая лабараторыя. Адно захапленне — назіраць за гэтай «адкрытай рэпетыцыяй», дзе на сутыку розных відаў мастацтва нараджаецца яркае відовішча», — прызналася нам па заканчэнні імправізаваных спектакляў загадчыца літчасткі Купалаўскага Вольга Бабкова.

> «Дзявочыя зарокі» — п'еса «пра каханне, якое не прыносяць нам на спадачку: да кахання трэба дарасці, яго трэба заслужыць, за яго трэба пазмагацца»

«Дзявочыя зарокі, або Магнетызм сэрца» — гэты «гімн каханню», па словах перакладчыцы Марыі Мартысевіч, Фрэдра стварыў аж сем гадоў — у сувязі з асабістай мілоснай драмай. Драматург дабіваўся рукі каханай Соф'і Скарбэк, нешчаслівай у першым шлюбе. Таму п'еса ў нечым аўтабіяграфічная — яна «пра каханне, якое не прыносяць нам на спадачку: да кахання трэба дарасці, яго трэба заслужыць, за яго трэба пазмагацца». Галоўны герой Густаў (пародыя на Густава з Міцкевічавых «Дзядоў») — баламут, сталічны франт, аматар начных пагулянак — сватаецца да ціхай вясковай паненкі Анелі. Ён мяркуе, што правінцыйная панна з радасцю стане яго жонкай, але выяўляецца, што Анеля, разам з кузінай-«феміністкай» Кларай, дала зарок ніколі не выходзіць замуж. І гэта ў XIX стагоддзі! Але разумны і прадпрымальны Густаў знаходзіць арыгінальнае выйсце з няпростай сітуацыі…

«Фрэдра навучыў мяне таму, што пяці- і шасцістопны ямб — гэта дзве вялікія розніцы», — пажартавала Мартысевіч. Таксама яна прызналася, што, каб падабраць ключ да перакладу, глядзела аматарскія відэа на ютубе. П'есу «Дзявочыя зарокі» вельмі любяць польскія рэжысёры, у тым ліку ў школьных тэатрах. Менавіта яе персанажаў часта пераапранаюць у сучасныя касцюмы, бо Фрэдра апярэдзіў сваю эпоху: праблема адносін паміж мужчынамі і жанчынамі ў п'есе выявілася актуальнай і ў наш час. Таму перакладчыца вырашыла адпрэчыць прапанову рэдактара Лявона Баршчэўскага стылізаваць пераклад пад тэатр Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, які працаваў у адну эпоху з Фрэдрам, а зрабіла «сучасны пераклад сучаснай мовай»: «Канешне, слова «тэлефон» там няма, але ёсць іншыя неспадзяванкі».

«Помста» таксама «крыху аўтабіяграфічная: пасля доўгачаканага шлюбу з Соф'яй граф Фрэдра атрымаў у валоданне жончын замак Камянец, спрадвеку падзелены паміж двума шляхецкімі родамі, якія варагавалі паміж сабой, судзіліся і нават пабудавалі пасярод замку мур. Варажнечу «сармацкіх Мантэкі і Капулецi» Фрэдра іранічна апісаў у камедыі «Помста».

«У маёй калегі быў хоць бы пяцістопны ямб — ёсць дзе разгарнуцца. А мне даводзілася працаваць з кароткім чатырохстопным харэем», — падзяліўся сваімі спецыфічнымі праблемамі Андрэй Хадановіч (у прыватнай гутарцы ён потым шмат наракаў на прафесію натарыуса Маўчука, якая ўпарта «не лезла ў радок»). Хадановіч прадставіў п'есу «Помста» як настальгічнае развітанне графа Фрэдры з выдатнай эпохай да падзелу Рэчы Паспалітай.

### Палюсы сармацкасці

Гэткім жа развітаннем з сарматчынай быў «Пан Тадэвуш» Адама Міцкевіча, які ствараўся адначасова з «Помстай», але Фрэдра быў больш іранічны. Ён падкрэсліў унутраныя супярэчанні польска-літоўска-галіцкай шляхты, якія і прывялі да гібелі вялікай дзяржавы: «Адзін полюс — ваяўнічы чашнік Мацей Грамыхайла, які, ледзь што, хапаецца за шаблю. Другі — ціхі, ветлівы, але хітры і падступны натарыус Маўчук, які дзейнічае ананімнымі даносамі», — расказаў Хадановіч. Яшчэ адна супярэчлівая фігура — былы ваяка Папкін (у беларускай адаптацыі Пупкін). На словах — ваяўнічы хвалько, а на справе ледзь што — у кусты.

Такія карыкатуры на шляхту вельмі весялілі непатрабавальную публіку, але былі непрыемныя для тагачасных паэтаў-рамантыкаў — паслядоўнікаў Міцкевіча, удзельнікаў рэвалюцыі 1830–1831 гадоў. Фрэдру зацкавалі ў крытыцы, у выніку чаго ў 1839 годзе ён надоўга перастаў пісаць і да канца жыцця не апублікаваў ні радка. Але час узяў сваё — сёння Фрэдра і Міцкевіч (які да крытыкі Фрэдры ніякага дачынення не меў) — аднолькава значныя ў Польшчы класікі.

…Цікава было паслухаць, як даюць рады з вершаванай дэкламацыяй акторы розных пакаленняў. Што чатырохстопны харэй, што пяцістопны ямб —заслужаныя артысты Тамара Мікалаева-Апіёк (пані Дабрадзейская) і Уладзімір Рагаўцоў (натарыус Маўчук) выдатна прамаўлялі няпросты вершаваны тэкст. А вось маладыя акторы перыядычна збіваліся на прозу. Гэта ад недасведчанасці ці майстэрства дэкламацыі паміраe разам з цікавасцю чытача да паэзіі? — спрачаліся гледачы. У любым выпадку, калі Паўла Астравуха (Пупкін) выносілі са сцэны чацвёра натарыусавых служак — зала патанула ў авацыях. Што тут сказаць? Шкада, вы гэтага не бачылі. Зрэшты, ёсць надзея, што разавая тэатральная прэзентацыя новага беларускамоўнага зборніку камедый перарасце ў «поўнаметражную» пастаноўку ў адным з нашых тэатраў. Дальбог, Аляксандр, граф Фрэдра гэтага заслугоўвае.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1309

Падпісана да друку 25.10.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.